# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 (89) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2020 г.

ЛІДА 2020

Культурная сталіца Беларусі







**Алтар у Ганчарскай царкве, зроблены братамі Кучынскімі**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 89 ) СТУДЗЕНЬ- САКАВІК 2020 г.


## *У НУМАРЫ:*




**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Слюкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**10,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1720.**
**Часопіс падпісаны да друку 31.03.2020 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.06.2020 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 3,11 руб.**
**індывід. 6 мес. - 6,22 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792










**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Інфармацыя пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна за 2019 год

## 1. Рэальны сектар эканомікі

### *1.1. Прамысловы комплекс*

На долю раёна прыпадае 10,6% прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу складаюць 27 прадпрыемстваў, сярэдняспісавая колькасць працаўнікоў на якіх складае 13,0 тыс. чалавек.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2019 год выраблена прадукцыі ў фактычных адпускных цэнах, уключаючы кошт давальніцкай сыравіны, на суму 1097,0 млн. рублёў, тэмп росту - 105,1 %.

Індэкс прамысловай вытворчасці па наборы тавараў-прадстаўнікоў у базісных цэнах 2017 года за 2019 год - 99,2 %.

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў харчавання, напояў, хімічных прадуктаў, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры.

У апрацоўчай прамысловасці ў 2019 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 99,3%. Вышэй узроўню 2018 года індэкс забяспечаны ў вытворчасці: прадуктаў харчавання, напояў і тытунёвых вырабаў - 102,9%, электраабсталявання - 109,6%, вырабаў з дрэва і паперы - 118,9 %, металургічных, гатовых металічных вырабаў, акрамя машын і абсталявання - 116,4 %, транспартных сродкаў і абсталявання - 139,6%.

У горназдабыўной прамысловасці ў 2019 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 103,3 %.

У цэлым у раёне за 2019 год павялічыўся выпуск найважнейшых відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): іншых вырабаў са шкловалакна, паслуг па ліцці чыгуну, паслуг па нанясенні пакрыццяў на металы, прыбораў на вадкіх крышталях, частак электрычнай апаратуры размеркавання і кіравання, электраабсталявання сігналізацыйнага, машын, выкарыстоўваных для падрыхтоўкі ці культывавання глебы, касілак, жатак навясных і прычапных з шырынёй захопу больш за 5 м, машын сенаўборачных, камбайнаў збожжаўборачных, піламатэрыялаў, таўшчынёй больш за 6 мм, вокнаў, дзвярэй зашклёных і іх каробак драўляных, гранул паліўных (пелеты), абутку вытворчага, мяса сельскагаспадарчай птушкі, мукі кармавой мясакоснай, малака і вяршкоў сухіх тлустасцю больш за 1,5%, масла сметанковага і пасты, мукі з іншых збожжавых культур, вырабаў макаронных, супоў ды булёнаў і нарыхтовак для іх прыгатавання, камбікармоў поўнарацыённых і камбікорму-канцэнтрату для сельскагаспадарчых жывёл, вады мінеральнай і газаванай непадсалоджанай і неараматызаванай, напояў безалкагольных іншых.

Аб'ём адгружанай прамысловай прадукцыі за 2019 год склаў 1092,5 млн. рублёў, з яго аб'ём адгружанай інавацыйнай прадукцыі - 64,4 млн. рублёў ці 5,9 %.

Найбольшую ўдзельную вагу адгружанай інавацыйнай прадукцыі забяспечылі: ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод", ЗАТ "Белтэкс Оптык", ААТ "Лідскі завод электравырабаў", ААТ "Завод "Оптык", ААТ "Лакафарба", ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш", ААТ "Лідаграпраммаш", ААТ "Мінойтаўскі рамонтны завод", СЗАА "ЛІПЛАСТ-Спб".

На 1 студзеня 2020 г. у 44 арганізацыях раёна ўкаранёна сістэма менеджменту якасці на адпаведнасць міжнародным стандартам ІСО серыі 9001-2015, у тым ліку ў 21 прамысловай арганізацыі.

### *1.2. Сельская гаспадарка*

За 2019 год вытворчасць валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі ў супастаўных цэнах склала 98,2 млн. рублёў, тэмп росту - 100,1 %, у тым ліку прадукцыі раслінаводства - 115,3%; прадукцыі жывёлагадоўлі - 90,9 %.

Павялічылі аб'ёмы вытворчасці пяць сельскагаспадарчых арганізацый: КСУП "Бердаўка-Агра", КСУП "Беліца-Агра", КСУП "Ходараўцы-Агра", КСУП "Пескаўцы", філіял "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Удзельная вага прадукцыі раслінаводства ў агульным аб'ёме валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі склала 43,1 %, прадукцыі жывёлагадоўлі - 56,9%. У тым ліку: вытворчасць збожжа - 12,8%, масласем’я рапсу - 5,0 %, бульбы - 3,9 %, цукровых буракоў - 2,7%, гародніны - 4,5 %, кармоў з травы - 9,5 %, малака - 30,8 %, ялавічыны - 8,6 %, свініны - 12,3 %, мяса птушкі - 3,9 %.

### *1.3. Будаўніцтва*

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за 2019 год склаў 147504,0 тыс. рублёў.

На будаўніцтва жылля за 2019 год накіравана 61544,0 тыс. рублёў ці 41,7 % ад фактычнага аб'ёму будаўніча-мантажных работ.

У мэтах павелічэння аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ вяліся работы па будаўніцтве шматкватэрных жылых дамоў з долевым удзелам грамадзян па вул. Неўскага, вул. Баграціёна, вул. Рыбіноўскага, вул. Горкага.

Будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 111779,0 тыс. рублёў.

За 2019 год уведзена ў эксплуатацыю 604 кватэры агульнай плошчай 61,82 тыс. кв. метраў, у тым ліку: пабудавана 447 кватэр у шматкватэрных жылых дамах агульнай плошчай 30,841 тыс. кв. метраў, 157 кватэр плошчай 30,979 тыс. кв. метраў індывідуальнай жылой забудовы.

### *1.4. Гандаль*

Доля Лідскага раёна ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту Гарадзенскай вобласці складае 13,1 %.

Аб'ём рознічнага тавараабароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за 2019 год у фактычных цэнах склаў 662,1 млн. рублёў. Тэмп росту ў супастаўных цэнах да 2018 года - 100,7%.

У структуры тавараабароту арганізацый гандлю раёна пераважаюць харчовыя тавары (54,7 %).

Гандлёвымі арганізацыямі за 2019 год праведзены 22 кірмашы, 113 выстаў-продажаў, 1375 распродажаў тавараў па зніжаных цэнах, 100 няцэнавых прома-акцый. Дадаткова атрымана тавараабароту 4,6 млн. рублёў.

Больш чым на 90 % спажывецкі попыт задавальняецца за кошт тавараў беларускіх вытворцаў па мясе і мясных прадуктах, масле сметанковым, яйках, сырах, вінах ігрыстых, уключаючы шампанскае, вінах пладовых, гарэлцы, лікёрах і лікёрагарэлачных вырабах, крупах аўсяных, маторным паліве, цэменце.

### *1.5. Транспартная дзейнасць*

За 2019 год пасажырскім транспартам супольнага карыстання раёна перавезена 18,9 млн. пасажыраў. Пасажыраабарот склаўся на ўзроўні 123,1 млн. пасажыракіламетраў.

Грузавым аўтатранспартам раёна перавезена 1565,9 тыс. тон грузаў. Грузаабарот склаў 398,3 млн. тонакіламетраў, тэмп росту - 114,5%.

## 2. Знешнеэканамічная дзейнасць

### *2.1. Экспарт тавараў*

Знешнегандлёвы абарот тавараў арганізацый раёна за 2019 год склаў 564,4 млн. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту - 408,3 млн. даляраў ЗША ці 117,3 % да ўзроўню 2018 года. Аб'ём імпарту - 156,1 млн. даляраў ЗША, тэмп росту 108,4%.

Сальда знешняга гандлю таварамі склалася дадатнае ў памеры 252,2 млн. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту арганізацый раёна ў экспартных аб'ёмах вобласці - 18,1 %.

Буйнымі гандлёвымі партнёрамі з'яўляюцца Расійская Федэрацыя, Літва, Украіна, Казахстан і Польшча.

З мэтай наладжвання супрацоўніцтва Лідскі раён з пачатку 2019 года наведалі дэлегацыі Літвы, Польшчы, Узбекістана, Швецыі.

### *2.2. Экспарт паслуг*

Па выніках працы за 2019 год знешнегандлёвы абарот паслугамі арганізацый Лідскага раёна склаў 25182,9 тыс. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту паслуг у цэлым па раёне - 17398,7 тыс. даляраў ЗША ці 114,4% да 2018 года. Імпарт паслуг - 7784,2 тыс. даляраў ЗША, тэмп росту - 99,5 %. Атрымана дадатнае знешнегандлёвае сальда ў памеры 9614,5 тыс. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту паслуг арганізацый раёна ў экспарце паслуг вобласці складае 5,9 %.

Сярод паслуг найболей значнымі з'яўляюцца транспартныя паслугі.

## 3. Інвестыцыйная і інавацыйная дзейнасць

### *3.1. Інвестыцыі ў асноўны капітал*

Па выніках 2019 года арганізацыямі Лідскага раёна скарыстана 226,3 млн. рублёў інвестыцый у асноўны капітал.

Па арганізацыях, падпарадкаваных рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'ём інвестыцый склаў 87,6 млн. рублёў.

Арганізацыямі, падпарадкаванымі мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, скарыстана 71,0 млн. рублёў.

Арганізацыямі, якія не маюць ведамаснай падпарадкаванасці, - 67,7 млн. рублёў.

Тэхналагічная структура інвестыцый:

- аб'ём інвестыцый на выкананне будаўніча-мантажных работ склаў 147,5 млн. рублёў;
- выдаткі на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў - 53,1 млн. рублёў;
- іншыя работы і выдаткі - 25,7 млн. рублёў.

### *3.2. Замежныя інвестыцыі*

Па выніках 2019 года аб'ём паступлення прамых замежных інвестыцый склаў 14,1 млн. даляраў ЗША.

## 4. Рынак працы і палітыка занятасці

### *4.1. Працаўладкаванне грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы*

За 2019 год колькасць працаўладкаваных грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы - 432 чалавекі.

### *4.2. Рынак працы і палітыка занятасці*

Сітуацыя ў сферы занятасці і беспрацоўі ў цэлым па раёне характарызуецца захаваннем станоўчых тэндэнцый.

У кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лідскага райвыканкама па садзейнічанне ў

працаўладкаванні за 2019 год звярнулася 3245 чалавек, з іх 1988 (61,3 %) зарэгістраваных беспрацоўных.

На 1 студзеня 2020 г. лік беспрацоўных, якія стаяць на ўліку, склаў 186 чалавек, узровень беспрацоўя - 0,3 % да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Лік вакансій, заяўленых наймальнікамі ў службу занятасці, на канец снежня 2019 года склаў 1085 вольных працоўных месцаў.

У сярэднім на адну заяўленую вакансію на 1 студзеня 2020 г. прыпадае 0,2 беспрацоўнага.

З пачатку года з улікам наяўных вакансій працаўладкавана 2476 чалавек, у тым ліку на сталую працу - 1562 беспрацоўных. Удзельная вага працаўладкаваных грамадзян, якія звярнуліся ў службу занятасці, - 68,0 %.

У мэтах дадатковай матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных і іншых незанятых грамадзян арганізоўваліся аплачваныя грамадскія работы, у якіх прынялі ўдзел 390 чалавек.

Для набыцця досведу практычнай працы на працоўныя месцы працаўладкавана 18 беспрацоўных.

За 2019 год аказана фінансавая падтрымка ў выглядзе субсідый 25-ці беспрацоўным, у тым ліку для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці - 19-ці, для рамеснай дзейнасці - 6-ці.

Праведзена 23 мерапрыемствы па садзейнічанні занятасці насельніцтва (у тым ліку 19 кірмашоў вакансій), у якіх прынялі ўдзел 65 наймальнікаў (62 наймальнікі адпаведна) і 446 грамадзян (413 грамадзян адпаведна).

***4.3. Прыбыткі і сацыяльная абарона насельніцтва***

Органамі дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання раёна прымаюцца меры па падвышэнні ўзроўню заработнай платы як у арганізацыях рэальнага сектара эканомікі, так і бюджэтнай сферы.

Сярэднямесячная заработная плата аднаго працаўніка Лідскага раёна за студзень-снежань 2019 года склала 868,4 рублёў (тэмп росту - 113,1 %), за снежань - 986,0 рублёў (тэмп росту - 111,0 %).

Тэмп росту рэальнай заработнай платы за студзень-снежань 2019 года -107,1%.

# Асноўныя кірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна

**1. Фінансавы стан арганізацый**

За 2019 год сума выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг у цэлым па раёне склала 1876,4 млн. рублёў, тэмп росту да 2018 года - 109,6%.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі склаў 92,3 млн. рублёў, тэмп росту да 2018 года - 108,6 %. Чысты прыбытак - 25,8 млн. рублёў.

Узровень рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі па раёне - (+)5,8 %, рэнтабельнасці продажаў - (+)4,9 %. Удзельная вага рэнтабельных арганізацый - 70,5 %.

**2. Энергазахаванне**

Паказчык па энергазахаванні з улікам эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў за кошт укаранення энергаэфектыўных мерапрыемстваў за 2019 год склаў (-)4,0 %.

Аб'ём эканоміі - 6971,4 тоны ўмоўнага паліва.

Штогод распрацоўваюцца мерапрыемствы па энергазахаванні.

**3. Развіццё сацыяльнай сферы**

***Адукацыя***

У 2019 годзе адкрыццё новай дашкольнай установы (ДУ № 41 г. Ліды) дазволіла вырашыць задачу забеспячэння крокавай даступнасці дашкольнай адукацыі дзецям ад 3 да 6 гадоў. У раёне працягвае развівацца сетка груп, якія функцыянуюць ва ўмовах кароткачасовага знаходжання: 2019 год - 159 дзяцей. Запатрабаваным застаецца арганізацыя атрымання дашкольнай адукацыі ва ўмовах гнуткага рэжыму (69 дзяцей).

У комплексе прынятыя меры дазволілі дасягнуць планаванага паказчыка па ахопе дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў дашкольнай адукацыяй - 97,5 % і забяспечыць месцамі ўсіх, каму патрэбна, ва ўстановах дашкольнай адукацыі дзяцей гэтай узроставай катэгорыі.

Стабільныя паказчыкі якасці ведаў навучэнцаў: адсотак навучэнцаў, якія паспяваюць на 5-10 балаў, склаў 78,1%, сярэдні бал навучэнца - 7,52.

Колькасць навучэнцаў, якія атрымалі атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю адмысловага ўзору з узнагароджаннем залатым (срэбным) медалём, у 2019 годзе - 68.

Па выніках цэнтралізаванага тэставання атрыманы 3 стобальныя сертыфікаты.

На абласной алімпіядзе па навучальных прадметах навучэнцамі Лідскага раёна заваявана 84 дыпломы, на рэспубліканскай - 19 дыпламоў, на міжнародным узроўні - 1.

За 2019 год у аздараўленчых лагерах аздароўлена 9114 дзяцей (62,46 % ад агульнай колькасці навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі), з іх у летні перыяд - 6052 дзіцяці (41,8 %).

Праводзіцца праца па абароне правоў і законных інтарэсаў непаўнагадовых. На 1 студзеня 2020 г. прызнаны ў сацыяльна небяспечным становішчы 109

непаўнагадовых з 48 сем'яў. Стаяць на ўліку, як тыя, хто патрабуе дзяржаўнай абароны, 14 дзяцей з 8 сем'яў. Адсотак вяртання дзяцей на выхаванне ў сям'ю - 50,0%.

За 2019 год выяўлена 39 дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў. Уладкованы на сямейныя формы выхавання 33 непаўнагадовыя (84,6 %).

На 1 студзеня 2020 г. на ўліку ў кіраванні адукацыі стаяць 145 падапечных з 107-мі апякунскіх сем'яў, 46 прыёмных дзяцей з 14-ці прыёмных сем'яў, 22 выхаванцы з 2-ух дзіцячых дамоў сямейнага тыпу.

У кіраванні адукацыі стаяць на ўліку 248 асобаў, абавязаных пакрываць выдаткі на ўтрыманне дзяцей на дзяржаўным забеспячэнні.

У сферы адукацыі выкананы ўсе сацыяльныя стандарты.

### *Ахова здароўя*

За 2019 год у раёне нарадзілася 1296 дзяцей. Адзначана зніжэнне нараджальнасці на 5,4 %.

Усяго памерла 1795 чалавек, адзначаны рост смяротнасці на 2,6 %. Натуральнае змяншэнне насельніцтва (-) 499 чалавек.

У амбулаторна-паліклінічныя ўстановы зроблена 1779,2 тыс. наведванняў, хуткай дапамогай абслужана 41,4 тыс. выклікаў, у аддзяленнях дзённага знаходжання пралечана 5,7 тыс. чалавек, у стацыянарах на хаце - 1,99 тыс. чалавек, у кругласутачных стацыянарах - 34,2 тыс. чалавек.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме. Фінансаванне аховы здароўя за 2019 год склала 42,8 млн. рублёў. Пры нарматыве бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на ахову здароўя на 1 жыхара ў 2019 годзе - 322,96 рубля фактычнае фінансаванне на 1 жыхара за 2019 год склала 322,96 рубля (100,0 %).

Закуплены: цэнтрыфугі рэфрыжэратарныя медыцынскія (2 штукі), апараты рэнтгенаўскія - мамаграфічны "Мамаскан" (1 штука) і "Уніэксперт 2 плюс" (1 штука), манітор сутачны аўтаномны вымярэння артэрыяльнага ціску "Кардыян МД" (1 штука), сістэмы працяглага маніторвання электракардыяграм і артэрыяльнага ціску "Кардыян СДМ" (5 штук), сістэма для экстракаранальнага гемадыялізу (1 штука), электракардыёграфы кампутарныя 12-ці канальныя СМАРТ (30 штук), электракардыёграфы СМАРТ 6 (9 штук), сістэма электракардыявымяральная для рэабілітацыі і дыягностыкі (велаэргаметр) (1 штука), электракардыёграф кампутарны 12-ці канальны СМАРТ 1010 (1 штука), блок кантролю газаў (1 штука) і іншае.

За 2019 год праведзены рамонты харчаблока, у будынку жаночай, кансультацыі, неўралагічнага, афтальмалагічнага, інфекцыйнага аддзяленняў, у аптэцы УАЗ "Лідская цэнтральная раённая бальніца", у Ваверскай участковай бальніцы, у Беліцкай участковай бальніцы, у станцыі хуткай медыцынскай дапамогі, у гарадской паліклініцы № 2 і іншых падраздзяленнях.

### *Культура*

Клубнымі ўстановамі праведзена 5612 мерапрыемстваў, у тым ліку 2146 на платнай аснове.

За 2019 год колькасць чытачоў бібліятэчнай сістэмы раёна склала 31165 чалавек.

Адукацыйны працэс у школах мастацтваў раёна выконваецца ў адпаведнасці з навучальнымі планамі і праграмнымі патрабаваннямі.

ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" праведзена 1437 экскурсій і заняткаў, арганізавана 45 выстаў.

Колькасць наведвальнікаў ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" і Лідскага замка за 2019 год склала 92366 чалавек.

### *Спорт*

У сферы масавай фізічнай культуры і спорту працягнута праца па прыцягненні ўсіх пластоў насельніцтва да рэгулярных заняткаў фізічнай культурай і спортам, па прапагандзе здаровага ладу жыцця.

За 2019 год праведзена 152 спартова-масавыя мерапрыемствы, у якіх прынялі ўдзел 15,9 тыс. чалавек. Выканалі нарматывы: майстра спорту міжнароднага класа - 1 чалавек, майстра спорту - 3 чалавекі, кандыдата ў майстры спорту - 29 чалавек, 1 разраду - 83 чалавекі, прысвоена трэнерскіх катэгорый - 28 чалавек, перададзена ў вышэйшае звяно падрыхтоўкі - 46 чалавек. У спіскавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 49 чалавек. Сталі пераможцамі і прызёрамі міжнародных спаборніцтваў 6 чалавек, рэспубліканскіх - 128 чалавек, абласных - 538 чалавек.

Для ўдасканалення інфраструктуры актыўнага адпачынку праведзена мадэрнізацыя дзвюх спартовых пляцовак - "Родны край" па вул. Тухачэўскага і на стадыёне футбольнага клуба "Ліда" па вул. Кірава.

З мэтай падвышэння турыстычнай прывабнасці Лідскі раён уключаны ў пералік раёнаў, на які распаўсюджваецца бязвізавы рэжым наведвання, устаноўлены Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 жніўня 2019 г. № 300 "Пра ўстаноўку бязвізавага парадку ўезду і выезду замежных грамадзян".

Для падвышэння турыстычнага патэнцыялу адкрыты 4 аграсядзібы (зарэгістравана 44 суб'екты аграэкатурызму), распрацаваны 2 новыя турыстычныя маршруты. У 2019 годзе выпушчаны 4,0 тысячы асобнікаў буклетаў на чатырох мовах (рускай, літоўскай, польскай, ангельскай) пра турыстычныя аб'екты Лідскага раёна. Таксама ажыццяўлялася напаўненне актуальнай інфармацыяй мабільнага дадатка "М 6" і сайта https://grodnovisafreee.by. Працягваецца праца па распаўсюджанні інфармацыі пра аб'екты турыстычнай інфраструктуры ў сетцы Інтэрнэт.

# Змаганне за Дзітву

**Летам 2019 года ў Лідскім раёне на рэчцы Дзітва адбылася экалагічная катастрофа.**

Усё пачалося 11 чэрвеня, калі мясцовыя жыхары ўбачылі процьму дохлай рыбы ў рацэ Дзітве ў раёне вёскі Даржы, за 16 кіламетраў ад Ліды. Кажуць, што толькі ў адным месцы рыбакі дасталі з вады, каб не забруджвала рэчку, 200 кілаграмаў гнілой рыбы. Вяскоўцы сказалі актывістам, што знайшлі цэлую сям'ю дохлых баброў.



Актывісты з Лідскага раёна паехалі шукаць прычыны. Каля вёскі Шырокае, якая пачынаецца адразу за Лідай, вяскоўцы паказалі трубу, з якой льюцца брудныя сцёкі. На шэрай вадзе - пена і чорныя плямы невядомага паходжання. Моцна смярдзіць каналізацыяй. Труба ідзе ад ачышчальных збудаванняў Лідскага ЖКГ. Бруд цячэ ўжо 10 дзён. Так доўга - упершыню.

Грамадскія актывісты з Бярозаўкі абследавалі ўвесь шлях, па якім ідуць шкодныя скіды, якія атруцілі Дзітву і па ёй далей трапляюць у Нёман. Каля вёскі Шырокая на ўскрайку Ліды ідзе актыўны скід нечыстотаў у ручай. Ідзе гэты калектар з ачышчальных збудаванняў Лідскага ЖКГ.

Адразу, 11 чэрвеня, службы прыродаахоаы ўзялі пробы вады. Аналіз робіцца тыдзень. Цягам гэтага часу людзям не казалі пра магчымае забруджванне.

Начальнік аддзела кантролю за аховай і выкарыстаннем атмасфернага паветра і водных рэсурсаў Гарадзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Наталля Гульніцкая паведаміла, што пробы вады на выхадзе з ачышчальных збудаванняў Лідскай ЖКГ паказалі перавышэнні дапушчальных канцэнтрацый шэрагу рэчываў, у тым ліку фосфару і азоту. Гэта забрудзіла раку.

Да таго ж, па словах Гульніцкай, перамерлі бактэрыі (або актыўны глей), якія перапрацоўваюць нечыстоты ў ачышчальных збудаваннях. Менавіта яны паўтваралі на рацэ чорныя плямы.

Аднак супрацоўніца камітэта прыродных рэсурсаў патлумачыла, што пакуль нельга звязваць мор рыбы з забруджваннем. Рыба паздыхала ад недахопу кіслароду, узровень якога быў у 20 разоў ніжэйшы за дапушчальны мінімум. Чаму так адбылося, высвятляе Лідская міжраённая інспекцыя жывёльнага і раслiннага свету. Яны ж падлічваюць нанесеную прыродзе шкоду.

Намеснік дырэктара лідскага "Водаканала", які ўваходзіць у структуру ЖКГ, Ігар Аляшкоўскі яшчэ 19 чэрвеня (на дзявяты дзень ад першага паведамлення пра бруд) запэўніваў, што ў ваду нічога шкоднага не злівалі.

"Ачышчальныя збудаванні працуюць стабільна, ніякіх зліваў, ніякай аварыйнай сітуацыі на гарадскіх ачышчальных збудаваннях не было... Ніякіх мёртвых рыбаў у месцы адбору пробаў каля калектара не назіралася, не было ніякіх выкідаў, нічога не было... Мы нават бачылі жывога бабра", - сказаў Ігар Аляшкоўскі.

Па ягоных словах, мор рыбы здарыўся ў сувязі з аранжавым узроўнем небяспекі па ўсёй Беларусі, з прычыны высокіх тэмператур. На ягоную думку, сваю










ролю адыгралі тутэйшыя тарфянікі, якія спрыялі змяншэнню ўзроўню кіслароду ў вадзе, і цвіценне водарасцяў.

Каб прыцягнуць увагу грамадскасці, актывісты з Гарадзеншчыны пісалі пра праблему ў сацыяльных сетках. Грамадскія актывісты Вітольд Ашурак і Сяргей Пантус прыйшлі на прыступкі Лідскага райвыканкама з плакатам "Мёртвая Дзітва". Гарадзенскі краязнавец Мечыслаў Супрон вывесіў на Старым мосце ў Гародні расцяжку "Нёман атручаны Лідскай ЖКГ".

Вітольда Ашурка і Сяргея Пантуса лідскі суд аштрафаваў кожнага на 255 рублёў (10 базавых) 20 чэрвеня. Мечыслава Супрона выклікалі на размову ў міліцыю.

Вітольд Ашурак звярнуўся ў пракуратуру з патрабаваннем знайсці вінаватых у забруджванні ракі Дзітвы і Нёмана. Па факту забруджання летам 2019 рэчак Дзітва і Нёман Следчым камітэтам Лідскага раёна была распачата крымінальная справа. Паралельна з гэтым журналісцкае расследаванне выявіла наўпроставую сувязь паміж экалагічнай катастрофай Дзітвы і Нёмана і злівам нечыстот Лідскім ЖКГ. Але, неўзабаве крымінальная справа была спынена.

Вітольд Ашурак зноў звярнуўся ў пракуратуру.

"У адпаведнасці з патрабаваннямі арт. 138 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса дзеянні і рашэнні органа, які вядзе крымінальны працэс, могуць быць абскарджаныя ва ўстаноўленым парадку ўдзельнікамі крымінальнага працэсу, а таксама іншымі фізічнымі асобамі, калі праведзеныя працэсуальныя дзеянні і рашэнні закранаюць іх інтарэсы", - адказаў пракурор Дмухоўскі.

І тут жа заявіў, што Ашурак па гэтай справе не з'яўляецца асобай, якая “мае права абскардзіць дзеянні і рашэнні Следчага камітэта”.

"Дадаткова паведамляю, што 19 сакавіка наместнікам начальніка КПК УСК па Гродзенскай вобласці пастанова аб прыпыненні папярэдняга расследвання па крымінальнай справе па факту забруджвання ракі Дзітва адмененая, вытворчасць па крымінальнай справе адноўлена", - дадаў чыноўнік.

І хоць вінаватых так і не знайшлі, змаганне актывістаў мела плён. Было выдзелена фінансаванне на частковае вырашэнне праблемы.

Сёння, каб зрабіць замеры хімічнага складу сцёкавых вод, якія паступаюць на ачышчальныя збудаванні горада Ліды, спецыялістам даводзіцца браць пробы асабіста. Але зусім хутка такія працэдуры будуць тут праходзіць у аўтаматычным рэжыме. Цяпер рэканструкцыя знаходзіцца ў актыўнай фазе: пабудова з паўвекавой гісторыяй мае патрэбу ў ёй ужо даўно. У пытаннях водаачышчэння разбіралася карэспандэнт "Рэспублікі".

**Курс на пераўзбраенне**

Аб'ёмы сцёкавых вод, з якімі сёння штосутачна здольныя справіцца ачышчальныя збудаванні вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага ГУП ЖКГ, - гэта максімум 28 000 кубічных метраў. Начальнік гэтай арганізацыі Юры Бярцэвіч распавядае:

- Гэтага катастрафічна мала, бо ў сярэднім аб'ём сцёкавых і іншых вод, якія паступаюць сюды, перавышае 30 000 кубаметраў, а з улікам паводкавых і дажджавых вод лічба павялічваецца да 45 000.

Якасны склад паступаючага сцёку ў параўнанні з запраектаваным павялічыўся амаль удвая - усё гэта





не магло не адбіцца на якасці ачысткі. Акрамя таго, як удакладняе інжынер-тэхнолаг Алена Міхнавец, з 2012 года ў краіне ў адпаведнасці з міжнароднымі патрабаваннямі змяніліся нормы па ачыстцы сцёкаў:

- Старыя тэхналогіі з гэтымі патрабаваннямі ўжо не спраўляюцца. Але, трэба прызнаць, гэта праблема не толькі Ліды, а ў цэлым састарэлага абсталявання і тэхналогій вадаканалаў краіны.

Каб адпавядаць патрабаванням, неабходна было падумаць пра мадэрнізацыю і рэканструкцыю. Але дзе ўзяць сродкі на дарагія праекты? Рашэнне, успамінае Юры Бярцэвіч, прыйшло каля пяці гадоў назад.

- Менавіта тады Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі прыняло праграму па водным сектары, якая прадугледжвае фінансаванне, у тым ліку за кошт крэдытных крыніц міжнародных фінансавых устаноў. Сістэма водаадвядзення горада Ліды ўключана ў інвестпраграму па водным сектары, фундаваную Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця.

Праграма працуе з 2015 года. Што ў планах? Устаноўка новых рашотак, будаўніцтва зліўной станцыі, рэканструкцыя пескаловак, першасных адстойнікаў, аэратэнкаў з вылучэннем зон нітрыфікацыі і дэнітрыфікацыі, другасных адстойнікаў, будаўніцтва дадатковых аэратэнкаў і другаснага адстойніка, закупка паветранадзімалак і аўтаматызацыя працэсаў ачысткі сцёкавых вод.

- Але ўсяму гэтаму папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца, - кажа Юры Бярцэвіч. - Ад тэхніка-эканамічнага абгрунтавання рэканструкцыі, поўнага аналізу сітуацыі да падпісання крэдытных дамоў. На сёння тэхнічны кансультант падрыхтаваў базавы праект, і мы змаглі абвясціць тэндар па выбары генпадрадчыка на рэканструкцыю. Спадзяёмся вызначыць яго ўжо ў красавіку. Па дарожнай карце рэканструкцыю ачышчальных збудаванняў завершым за тры гады.

Што плануецца змяніць? Першае і самае галоўнае, адзначае Алена Міхнавец, - гэта павелічэнне максімальнай магутнасці збудаванняў да 46 000 кубаметраў, а сярэдняя прадукцыйнасць складзе 33 500 кубаметраў.

- Гэтага будзе дастаткова, каб справіцца з любой сітуацыяй. Усе заяўленыя лічбы не выпадковыя: кожная выверана і пралічана, у тым ліку з улікам развіцця горада на перспектыву. Вядома, мы хочам таксама вырашыць праблему з ачысткай вады, улічваючы патрабаванні па біягенных элементах. Працэсы будуць аўтаматызаванымі, і сітуацыю можна будзе адсочваць з манітора кампутара ў рэжыме анлайн, - кажа Алена Міхнавец.

У доўгатэрміновай перспектыве будзе вырашана праблема і з глеевымі адкладаннямі: плануецца пабудаваць біягазавую ўстаноўку, якая, акрамя таго, дапаможа прадпрыемству ў будучыні зэканоміць на электрычнасці.

**Ад лакальнага да глабальнага**

Але рэканструкцыяй толькі аднаго прадпрыемства, нават самай лепшай, праблему ачысткі вод не вырашыць, калі да яе не падключыцца аднаго з галоўных забруджвальнікаў - прамысловасць. Бо, на сёння толькі ў Лідзе каля 30 адсоткаў сцёкаў належыць прадпрыемствам горада. Больш таго, па словах Алены Міхнавец, вялікая частка гэтых прадпрыемстваў не мае лакальных ачышчальных збудаванняў, а тыя, што ёсць, сучасным патрабаванням бяспекі адпавядаюць мала. Аднак і гэта праблема выходзіць за рамкі аднаго горада.

Да шчасця, ужо сёння ў рэгіёне ўсе прадпрыемствы, якія будуюцца з нуля (гэта палітыка і водаканала, і ў цэлым мясцовых уладаў) павінны мець лакальныя ачышчальныя магутнасці. Калі гэтага не рабіць, кажуць спецыялісты, выдаткі на ачыстку агульнагарадскіх сцёкаў павялічацца, а пастаўленая задача вырашана не будзе.

Аднак відавочна, што будаўніцтва лакальных ачышчальных збудаванняў - пытанне не аднаго дня. Таму, адзначае Юры Бярцэвіч, устаноўлены адпаведныя тэрміны для рашэння гэтай праблемы, і яны адсочваюцца райвыканкамам і ЛГУП ЖКГ.

Такім чынам экалагічная катастрофа на Дзітве і рэканструкцыя ачысных збудаванняў звязаліся наўпрост. Засталося адно толькі пытанне, за што плацілі штрафы Пантус і Ашурак?

***Яраслаў Грынкевіч.***

# 13-я Агульнацыянальная дыктоўка на Лідчыне

У 2020 годзе Лідчына падтрымала традыцыю масавага напісання Агульнанацыянальнай дыктоўкі. Дыктоўка пісалася ў рамках акцыі "Беларусь помніць".

**13 лютага** на базе Аддзела рамёслаў і традыцыйнай культуры г. Ліды адбылася Агульнанацыянальная дыктоўка для работнікаў культуры (15 устаноў культуры). Колькасць удзельнікаў - 22 чалавекі. Тэкст паводле твора Васіля Быкава "Кар'ер" дыктавала метадыст па аматарскіх аб'яднаннях Струмскіс Ірына Эдмундаўна.



Да дыктоўкі былі падрыхтаваны мастацкія аркушы паперы. На экране высвечваўся партрэт Васіля Быкава і яго выказванне, а таксама выказванне Рыгора Барадуліна: "Голас Васіля Быкава - голас сумлення нацыі, голас часу..." Дыктоўка рушыла.

**15 лютага** ў 11.00 13-ю Агульнанацыянальную дыктоўку пісьлі ў бібліятэцы в. Мінойты Лідскага раёна. Дыктоўку тут пісалі недзе ў шосты раз. У дыктоўцы сёлета бралі ўдзел жыхары вёскі Мінойты, а таксама старшыня і намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік і Сяргей Чарняк. Быў выбраны тэкст з аповесці А. Карпюка "Данута". Тэкст чытала настаўніца мовы і літаратуры Мінойтаўскай СШ Алена Іосіфаўна Скерсь.



На 10 балаў дыктоўку напісала Галіна Іванаўна Сідарэвіч. Дзявяткі атрымалі Валянціна Уладзіміраўна Станюкевіч, Валянціна Сяргееўна Някрасава і Станіслаў Вацлававіч Суднік. Вельмі добра напісалі і астатнія.

Пакуль ішла дасканалая праверка дыктовак перад прысутнымі з невялікім канцэртам выступіў бард Сяргей Чарняк.

На завяршэнне пераможцы дыктоўкі, а таксама і ўсе прысутныя атрымалі падарункі ад Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ - кнігі і асобнікі часопіса "Лідскі летапісец".

**15 лютага** ў 13.00 пачалася 13-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Бярозаўскім доме культуры. Дыктоўку па тэксце Васіля Быкава "На Чорных лядах" пісалі ў гэты дзень сябры Бярозаўскай арганізацыі ТБМ. Чытаў дыктоўку намеснік старшыні ТБМ, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік. У дыктоўцы браў удзел намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Сяргей Чарняк, які завяршыў імпрэзу нізкай патрыятычных песень.



Найлепш напісаў старшыня Бярозаўскай гарадской арганізацыі ТБМ Сяргей Дычок, на другім і трэцім месцы адпаведна - Сяргей Пантус і Вітольд Ашурак. Пераможцы, ды і ўсе ўдзельнікі атрымалі падарункі ад ТБМ.

З дыктоўкі ТБМ пачаўся Тыдзень роднай мовы ў Бярозаўцы, які прадугледжваў цэлы шэраг самых розных мерапрыемстваў.

Ужо не першы год у Доме Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея стала традыцыяй пісаць беларускія дыктоўкі, прысвечаныя да Міжнароднага дня роднай мовы. На гэты раз, **19 лютага**, зноў з вялікім задавальненнем прынялі ўдзел у гэтым значным мерапрыемстве ўдзельнікі праекта - гістарычнай гасцёўні "Памяць за сабою пакліч". Паколькі ўдзельнікі - людзі сталага ўзросту, людзі, якія пабачылі на сваіх вачах страх, голад, холад у гады ваеннага ліхалецця,



то і тэкст быў падобраны па іх тэме - урывак з аповесці Аляксея Карпюка "Данута". Тым больш, што ў гэтым годзе творчая інтэлігенцыя адзначала 100-годдзе з дня нараджэння Аляксея Нічыпаравіча Карпюка. Тэкст чытаў навуковы супрацоўнік Дома Таўлая Алесь Хітрун.

Трэба зазначыць, што нягледзячы на сталы ўзрост удзельнікаў, дыктоўка напісана нядрэнна. Адчуваецца ў іх граматны падыход да мерапрыемства, бы ведаюць, што ў Доме Таўлая павінна гучаць беларуская мова, хоць бы нават у такі значны дзень. Пасля яго напісання прайшла праверка, у выніку чаго былі падведзены вынікі. І так, І месца занялі Букоўская Таццяна Георгіеўна і куратар праекта - гістарычнай гасцёўні "Памяць за сабою пакліч" Каладзяжная Анастасія Аляксандраўна, ІІ месца падзялілі паміж Хейфец Наталляй Яўхімаўнай і Малахавай Зінаідай Васільеўнай, а трэцяе адпаведна атрымалі ўсе астатнія ўдзельнікі - Хейфец Лазар Лейвікавіч і Кобец Ніна Ягораўна.

**19-га лютага** да Міжнароднага дня роднай мовы, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" ў Лідзе на сваіх занятках у банкетнай зале кавярні "Тутака" далучыліся да 13-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

Для напісання Агульнанацыянальнай дыктоўкі Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны былі прапанаваныя на выбар чатыры тэксты. Выбар курсаў "Мова Нанова" ў Лідзе выпаў на тэкст Васіля Быкава "На Чорных лядах".



А распачалі дыктоўку вершам Уладзіміра Караткевіча "Дзе мой край", які цудоўна прачытала выкладчыца курсаў Марыя Ганчар.

Пасля напісання дыктоўкі адбылася прэзентацыя цудоўнай песні Людмілы Краснадубскай "Беларусь" у выкананні самой аўтаркі.

Дыктоўку напісалі ўсе на выдатна!

Музычна-паэтычная вечарына "Жывы выток зямлі беларускай", прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы прайшла ў малой зале Лідскага палаца культуры **19 лютага**. Вечарына планавалася на 21 лютага, але ўзніклі непераадольныя абставіны ў выглядзе ўрачыстага адкрыцця культурнай сталіцы Беларусі, і імпрэза, якая ладзіцца ўжо пяты год падрад, прайшла на два дні раней.

Вечарыну арганізоўвалі сіламі творчага аб'яднання "Музальянс", Лідскага музычнага каледжа, літаб'яднання "Суквецце". Рэжысёр праграмы - Горгуль Васіль Канстанцінавіч.



Гучалі песні ў выкананні Аліцыі Казак ("Спеў дубраў"), Славаміра Шклёніка (Мой родны кут...", "Мой край"), Людмілы Краснадубскай ("Беларусь"), Вікторыі Кузьмы ("А ў садзе рэчанька"), Анастасіі Круповіч ("А ў Марусі хата на памосце", "Лён, ляночак", "Вішня"), Лізаветы Капцевіч ("Месяц і вішанька"), беларуская народная песня "Дровы" ў выканні Народнага ансамбля "Вербіца", саліст Іван Мярэўца, песня "Больш табе я не пазваню" ў выкананні музычнага эстраднага калектыва "Талісман", кіраўнік Дзяніс Варановіч.

Лідскія паэты на сцэне заўважаны не былі, а вось паэтэс сабралася цэлае "Суквецце". Са сваімі вершамі, прысвечанымі роднай мове, малой і вялікай радзіме выступалі: Людміла Краснадубская, Вольга Бічэль-Ашмяна, Ганна Рэлікоўская, Станіслава Белагаловая, Ірына Маркевіч, Ала Юшко, Ірына Вашкевіч, Яна Марцэвіч.

Шчырая беларуская атмасфера, разняволеныя і ўпэўненыя ў сабе людзі, што на сцэне, што ў зале. Кавалачак сапраўднай Беларусі. І гэта толькі Палац культуры горада Ліды. А акрамя таго святочныя імпрэзы прайшлі ў Бярозаўцы, у многіх вясковых дамах культуры і бібліятэках.

Так, з мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы ў Бярозаўскім гарадскім Доме культуры Лідскага раёна адбылася квэст-гульня "Размаўляем пабеларуску", да Міжнароднага дня роднай мовы. Удзельнікаў чакала падарожжа па станцыях, на якіх прыходзілася выконваць цікавыя і разнастайныя заданні.

1-ае месца заняла каманда СШ № 3 г. Бярозаўкі "Крынічкі".

Шэраг мерапрыемстваў прайшлі ў філіялах ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы", прымеркаваных да Міжнароднага дня роднай мовы. Акрамя такіх звыклых форм, як літаратурныя вечары, гадзіны роднай мовы, гасцёўні, віктарыны, урокі беларусазнаўства традыцыйным стала правядзенне Агульнанацыянальнай дыктоўкі, якая сёлета прысвечана 75-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэтае мерапрыемства праводзіцца з мэтай папулярызацыі беларускай мовы, шырокага святкавання Міжнароднага дня роднай мовы.

**19 лютага** падчас гадзіны беларускай мовы "Далучыся да роднай мовы" у філіяле "Дітвянская сельская бібліятэка" прайшла дыктоўка, у якой прымалі ўдзел вучні мясцовай школы розных узростаў. Школьнікам звычна пісаць дыктоўкі, таму ўсе выдатна справіліся з пастаўленай задачай.

Здаць своеасаблівы "экзамен" на веданне роднай мовы ў Лідскую раённую бібліятэку імя Янкі Купалы **21 лютага** прыйшлі самыя актыўныя і адданыя чытачы. Да ўвагі ўдзельнікаў дыктоўкі быў прадстаўлены ўрывак з рамана "Векапомныя дні" М.Ц. Лынькова "Будзем жывы, будзе і дэпо". Адразу пасля дыктоўкі ўсе ўдзельнікі мелі магчымасць самастойна праверыць свой тэкст і зрабіць асабістыя высновы, наколькі добра яны валодаюць беларускай мовай. Трэба разумець, што гэта сімвалічная дыктоўка, нешта кшталту флэшмоба. Яго галоўная мэта - паказаць, што табе падабаецца беларусская мова. Такім чынам, дэвіз мерапрыемства - "Я ўдзельнічаю, таму што мне падабаецца". І людзі сапраўды атрымалі задавальненне.

Міжнародны дзень роднай мовы быў адзначаны і ў філіяле "Бярозаўская гарадская бібліятэка". **21 лютага** сябры аматарскага аб'яднання "Суразмоўніца" прынялі ўдзел у 13-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы, напісаўшы тэкст Васіля Быкава "На Чорных лядах".

Тым жа днём у філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6 імя В. Таўлая" ладзілася літаратурная гасцёўня "Родная мова - матчына мова, ззяе вясёлкай кожнае слова". Прысутным быў прапанаваны для дыктоўкі тэкст А. Карпюка "Данута", усе з ахвотай і выдатна яго напісалі. Падчас мерапрыемства гучалі вершы і песні на роднай мове. Дадаткам бібліятэкар правяла агляд кніг "Адкрываю… нанова беларускае слова".

**21 лютага** філіял "Дварышчанская сельская бібліятэка" запрасіў вучняў 5-га класа ДУА "Дварышчанскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садсярэдняя школа" адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы паэтычнай сустрэчай "І прыгожа льюцца на прасторы словы беларускай мовы". Свае веды вучні

прадэманстравалі адгадваючы загадкі, збіраючы прыказкі і напісаўшы дыктоўку, якую прапанавала настаўніца беларускай мовы І.Л. Шостак.



Апошнімі ўдзел у дыктоўцы прынялі чытачы філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 3", дзе ў рамках гадзіны роднай мовы "І прыгожа льецца па прасторы слова беларускай мовы" **22 лютага** прайшла дыктоўка. Тут тэкст з аповесці А. Карпюка "Данута" пісалі ў асноўным сябры лідскіх арганізацый ТБМ. Чытала А.Я. Папковіч.



Прайшлі мерапрыемствы і ў іншых бібліятэчных філіялах раёна. Да прыкладу:

**20 лютага** ў рамках дзіцячага клуба "Буслік" філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 2" прайшла пазнавальная сцяжынка "Чаму знікаюць словы?", прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы.

Да Міжнароднага дня роднай мовы **20 лютага** прайшла літаратурная вечарына "Роднаму слову прызнанне ў любові" ў філіяле "Тарноўская сельская бібліятэка".

**21 лютага** філіял "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" запрасіў навучэнцаў 3А класа ДУА "Сярэдняя школа № 8 г. Ліды" на літаратурную палітру "Беларускае роднае слова, ты на крылах бусліных ляціш", прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы.

**21 лютага** да Міжнароднага дня роднай мовы ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка №1" адбыўся паэтычны вянок па творах беларускіх паэтаў "У мовы роднай - роднае карэнне", і так па ўсіх філіялах.

**З 13 па 23 лютага** ў лідскіх установах адукацыі ішла Дэкада роднай мовы. Яна была напоўнена масай самых розных мерапрыемстваў, ключавым з якіх была 13-я Агульнанацыянальная дыктоўка.

Як і летась, асноўнай ударнай сілай дыктоўкі сталі лідскія школьнікі. Дыктоўку пісалі ўсе 34 установы агульнай сярэдняй адукацыі Лідскага раёна.



Сёлета ў лідскіх школах пісалі дзве дыктоўкі: вучні пісалі лідскую дыктоўку, прапанаваную Лідскім райвыканкамам, а настаўнікі, бацькі і іншыя прадстаўнікі грамадскасці пісалі гарадзенскую дыктоўку, прапанаванрую Гарадзенскім абласным упраўленнем адукацыі. Абедзве дыктоўкі былі прымеркаваны да 75-годдзя перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.





Дыктоўку пісалі 7926 вучняў, што некалькі менш, чым летась. З-за гэтага памяняліся лідары сярод школ:

СШ № 12 - 723 чал.
СШ № 15 - 663 чал.
СШ № 1 - 561 чал.

СШ № 8 - 522 чал.
СШ № 9 - 499 чал.
СШ № 6 - 457 чал...
Бярозаўская СШ № 3 - 342 чал. і г.д. на памяншэнне.
Сярод сельскіх школ:
Першамайская СШ - 145 чал.
Дзітвянская СШ - 115 чал.
Ёдкаўская СШ - 105 чал. і г.д.

Гарадзенскую дыктоўку пісалі:
настаўнікі - 425 чал.
бацькі - 180 чал.
іншыя прадстаўнікі грамадскасці - 47 чал.
Разам - 652 чалавекі.



Усяго ўдзельнікаў 13-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі ў лідскіх школах - **8578 чалавек.**

Безумоўным станоўчым момантам сёлетняй дыктоўкі стаў масавы ўдзел у ёй настаўнікаў, тэхнічных работнікаў школ і бацькоў.

Міжнародны дзень роднай мовы традыцыйна адзначаецца ва ўсіх установах дашкольнага выхавання Лідскага раёна. Сёлета ўрачыстыя мерапрыемствы прайшлі ва ўсіх 50 дзіцячых садках (з улікам і тых, якія ўваходзяць у школьныя комплексы).



Палічыць удзельнікаў тут вельмі праблематычна, але гэта недзе 1500 - 2000 чалавек.

Па здымках, узятых з сайта д/с № 24, відно, што дашкольныя ўстановы Лідчыны рыхтуюцца да Дня роднай мовы грунтоўна, нават нацыянальныя строі маюць.

У Лідскім каледжы ГрДУ імя Янкі Купалы добрай традыцыяй стала святкаванне Дня роднай мовы. Сёлета да гэтай даты быў падрыхтаваны шэраг мерапрыемстваў.

**21 лютага** пачаўся яскрава - відэапрэзентацыяй і фотавернісажам, арганізаваным у педагагічным корпусе каледжа. Шмат цікаўных сабрала гульня сярод першых курсаў гуманітарнага аддзялення "Размаўляем па-беларуску". Багата ўражанняў пакінула экскурсія навучэнцаў у Цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры, дзе яны змаглі дакрануцца да скарбаў народнай творчасці і стаць удзельнікам майстра-класа па ткацтве. А вось бадай самай масавай і папулярнай па традыцыі стала акцыя "Гавары са мной па-беларуску" і ўсеагульная дыктоўка, прысвечаная 75-годдзю Вялікай Перамогі, якую пісалі 233 навучэнцы каледжа 1- 4 курсаў усіх спецыяльнасцей.





Сёлета свой 80-гадовы юбілей адзначае Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. З нагоды слаўнай даты навучэнцы і выкладчыкі прынялі ўдзел у акцыі "Знайдзі сябе з намі": 25 чалавек пісалі дыктоўку "Пад зоркай Купалы".

Дзень роднай мовы праходзіць у каледжы ўжо не першы год і нязменна ахоплівае нямала цікаўных і неабыякавых да роднага слова навучэнцаў і выкладчыкаў. Далучэнне да роднага слова, літаратуры, культуры гарантавана стварае святочны настрой і пакідае шмат прыемных уражанняў, а самае галоўнае - папулярызуе наша роднае слова.

Сёлета да Агульнанацыяальнай дыктоўкі далучыўся Лідскі музычны каледж. Пісалі 104 чалавекі.

Лідскі музычны каледж таксама прыняў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні канцэрту да Дня роднай мовы ў Лідскім палацы культуры.

У рамках акцыі "Беларусь помніць" **20 лютага** 2020 года ў Лідскім політэхнічным ліцэі праведзена Гарадзенская абласная дыктоўка па тэксце, прысвечаным 75-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.



75 навучэнцаў удзельнічалі ў напісанні дыктоўкі. Абсалютны пераможца - Бранцэвіч Аляксандр, гр. 376. Хочацца адзначыць дыктоўкі Сыманюка Максіма, гр. 375; Мікуця Дзяніса, гр. 376; Куліковай Аляксандры, гр. 377; Волахава Ільі, гр. 372; Пыпеця Віталія, гр. 373.



Пасля дыктоўкі адбылася сустрэча з намеснікам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ бардам С. Чарняком "А мова гучыць…".

13-я Агульнанацыянальная дыктоўка прайшла ў Лідскім дзяржаўным прафесійным ліцэі меліярацыйнага будаўніцтва.

Пісалі дыктоўку 24 чалавекі спецыяльнасці "Грамадскае харчаванне". Чытала выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Вольга Мар'янаўна Вашкевіч.

По выніках дыктоўкі:

10 балаў - 1 чалавек;
9 балаў - 1;
8 балаў - 3;
7 балаў - 2;
6 балаў - 6.

Трэба думаць, што закончыўшы ліцэй, гэтыя маладыя спецыялісты, якія так паспяхова пішуць дыктоўкі, не будуць упадаць у ступар, калі ў іх папросяць рамонкавую гарбату ці якую іншую звыклую беларускую страву.

**21 лютага** ў Нёманскім дзяржаўным прафесійным ліцэі г. Бярозаўкі Лідскага раёна таксама адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы.



Беларусам многія народы могуць пайздросціць: у спадчыну нам засталася па-сапраўднаму ўнікальная мова. Таму і тут не маглі застацца ўбаку і правялі мерапрыемства "Гучы, наша родная мова, часцей". Удзел у мерапрыемстве прынялі ўсе навучэнцы ліцэя.

У ходзе мерапрыемства:

- была выпушчана насценгазета "Родная мова";
- складалі вершы, прысвечаныя роднай мове;
- пісалі сачыненні - разважанні "Што нам неабходна зрабіць, каб мова гучала часцей".

Абсалютная большасць кіраўнікоў першасных суполак БРСМ Лідскага раёна далажыла аб правядзенні або ўдзеле ў 13-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы. У навучальных установах суполкі БРСМ пісалі дыктоўкі ў агульнай плыні, а вось на прадпрыемствах арганізоўвалі мерапрыемства самастойна.

Сёлета мы маем абсалютна іншую пастаноўку справы. Калі пазалетась і летась у Лідзе дыктоўкі пісалі па 2-3 суполкі БРСМ, то зараз - 120. І гэта вялікая падтрымка для справы беларускай мовы.

**22-га лютага** да Міжнароднага дня роднай мовы ў Лідзе адбыўся штогадовы квэст ад платформы падтрымкі жывой беларускай мовы Say.by. Згуляць у квэст маглі ўсе ахвочыя без узроставых абмежаванняў.

Каб прайсці квэст трэба было абысці тры лакацыі: адшукаць QR коды ў кафэ хуткага харчавання "Тутака", у кавярні "Добрая кава" і кафэ "Тамака". Усяго было 13 пытанняў, і за кожны правільны адказ удзельнікі раскрывалі сімвал зачараванай фразы квэсту. Прайшоўшы паспяхова ўсе выпрабаванні можна было атрымаць - "Я (люблю) РОДНУЮ МОВУ".

У пытаннях трэба было: адгадаць беларускія



загадкі; пакуль гучыць урывак песні беларускай выканаўцы Palina - "Як ты" або ўрывак з перакладзенага фільма "Вядзьмар" студыяй дыктарскага агучвання пабеларуску Gavarun.by адшукаць ў прапанаваных тэкстах словы, якія не супадаюць з арыгіналам. Напісаць правільна пад дыктоўку знакамітыя цытаты і шмат інш.

Квэст доўжыўся ўвесь дзень і пад заканчэнне працоўнага часу кафэ "Тутака" ў 0:00 быў завершаны.

Падсумаваўшы вынікі былі вызначаны 8 паспяховых удзельнікаў сярод якіх былі вылучаны прызёры 1-га, 2-га і 3-га месца, якія справіліся першымі:





1. Ксенія;
2. Валерыя;
3. Дар'я;
4. Антон;
5. Дзіяна;
6. Зміцер;
7. Вікторыя;
8. Антон.

**23-га лютага** ў банкетнай зале кафэ хуткага харчавання "Тутака" адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне. Кіраўнік платформы Say.by Аляксандар Шастаковіч прывітаў усіх пераможцаў квэсту з Міжнародным днём роднай мовы і выдатна завершаным квэстам. Усе паспяховыя ўдзельнікі атрымалі арыгінальныя прызы ад платформы Say.by. А заняўшыя 1-е, 2-е і 3-е месцы ў дадатак атрымалі грашовыя сэртыфікаты ад “Тутака” па 10 рублёў, “Добрай кавы” па 5 рублёў і “Тамака” па 10 рублёў.

**Агульныя вынікі**
**13-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі і**
**Дня роднай мовы на Лідчыне**

Міжнародны дзень роднай мовы - нагода для носьбітаў любой мовы яшчэ раз задумацца аб лёсе той адзінай, якую мы завём роднай, якую чуем упершыню з матчыных вуснаў, на якой размаўлялі нашыя продкі. А дыктоўка дае магчымасць праверыць уласную пісьменнасць, садзейнічае развіццю патрыятызму, павагі да роднай культуры.

У пяты раз Лідчына масава пісала Агульнанацыянальную дыктоўку. Сёлета яна складалася як бы з чатырох частак:

- дыктоўка Гарадзенскага аблвыканкама;
- дыктоўка Лідскага райвыканкама;
- дыктоўка Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы;
- дыктоўка ТБМ.

Але ўсё гэта - тое самае.

Лідскія школы далі 8578 удзельнікаў дыктоўкі.

Два лідскія каледжы далі 362 удзельнікі.

Два прафесійныя ліцэі далі 99 чалавек.

Клубы - 22 чалавекі.

Бібліятэкі - 70 чалавек.

Музей - 6 чалавек.

“Мова нанова” - 15 чалавек.

Бярозаўскае ТБМ - 8 чалавек.

Разам атрымалася 9160 чалавек.

Сюды трэба дадаць удзельнікаў дыктовак з прадпрыемстваў. Такім чынам можам гаварыць недзе пра **9200** удзельнікаў 13-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі на Лідчыне. У прынцыпе Лідчына захавала пазіцыі.

Што тычыцца Дня роднай мовы наогул, то тут таксама пазіцыі не страчаны. Свята адзначалася ў 50 дзіцячых садках, быў канцэрт у Палацы культуры, быў квэст, прайшлі мерапрыемствы ў Бярозаўцы і на вёсках. Усяго ж мерапрыемствы да Дня роднай мовы ахапілі на Лідчыне каля 20 населеных пунктаў.

Сёлета 21 лютага Ліда акрамя ўсяго ўрачыста прыняла тытул культурнай сталіцы Беларусі.

Сёлета пад Дзень роднай мовы ўрачыста быў абвешчаны 4-ты конкурс “Дарослыя дзецям” імя Веры Навіцкай.

Дзень роднай мовы прайшоў. Для многіх ён адразу забыўся, але для сяброў ТБМ павінен быць у памяці, бо гэты дзень ёсць індыкатар, што нічога не страчана, што мы ўсё адродзім і вернем.

***Паводле “Нашага слова”.***

# У Дзень роднай мовы Ліда ўрачыста стала культурнай сталіцай Беларусі






Урачысты канцэрт на сцэне Палаца культуры ў Лідзе даў старт рэспубліканскай акцыі "Культурная сталіца Беларусі - 2020". У час канцэрту былі прадстаўлены розныя эпізоды гісторыі горада. Урачыстай праграме папярэднічала выстаўка культурных асаблівасцей і дасягненняў Ліды. Яна аб'яднала мінулае і сучаснае горада, прапанаваўшы гасцям інтэрактыўнае падарожжа па адной з яго найстарэйшых вуліц. Таксама да свята быў выпушчаны канверт з арыгінальнай маркай "Ліда - культурная сталіца Беларусі - 2020", на якім паказаны выдатныя мясціны горада. Сёння, 21 лютага, адбылося памятнае гашэнне маркі спецыяльным тэматычным штэмпелем. Ліда стала 11-м горадам, які атрымаў прэстыжны статус.

- Было некалькі прэтэндэнтаў на званне культурнай сталіцы. Але Ліда прэзентавала найбольш цікавую праграму, высокая была зацікаўленасць у тым, каб правесці акцыю, з боку мясцовых і абласных уладаў, - адзначыла ў час цырымоніі адкрыцця акцыі першы намеснік міністра культуры Наталля Карчэўская. - Ліда сёння ўваходзіць у бязвізавую зону, але вельмі важна, каб культурная сталіца стала прывабнай і для айчынных турыстаў.

Наталля Карчэўская ўручыла старшыні Лідскага райвыканкама Сяргею Ложачніку сімвал акцыі і сертыфікат "Ліда - культурная сталіца Беларусі - 2020".

- Гэта ганаровы і вельмі адказны статус. Каляндар культурных падзей на гэты год насычаны. Мы імкнуліся, каб кожнае мерапрыемства было перш за ўсё цікавае гараджанам і гасцям горада, - расказаў на добрай беларускай мове Сяргей Ложачнік.

Ён падкрэсліў: у гэтым годзе ў Лідзе запланавана больш за 3 тыс. мерапрыемстваў міжнароднага, рэспубліканскага і мясцовага маштабаў. Графік вялікіх сцэн Ліды распісаны да лістапада. Канцэрты, выстаўкі, майстар-класы, пленэры асабліва ў цёплы час года будуць праходзіць практычна пастаянна. Сярод самых яркіх падзей - фінальны тур нацыянальнага адбору на міжнародныя конкурсы "Славянскага базару ў Віцебску", а таксама традыцыйныя спаборніцтвы юных выканаўцаў, якія сталі адным з культурных брэндаў раёна. З траўня па верасень будзе працаваць культурна-турыстычны праект "Замкавы гасцінец". Кожную суботу і нядзелю тэрыторыя вакол Лідскага замка будзе ператварацца ў святочную пляцоўку з рамеснымі радамі, майстар-класамі, канцэртамі, гульнямі, тэатральнымі выступленнямі. Дарэчы, у гэтым годзе плануецца адкрыццё абноўленай паўднёва-заходняй вежы замка, дзе з'явіцца і новая музейная экспазіцыя. Вежа названа імем Гедыміна. У верасні традыцыйна Ліда збярэ дзясяткі тысяч гасцей на Дзень горада, фестываль хмелю, соладу і вады з маштабным опэн-эйрам, а таксама відовішчны рыцарскі турнір. У гэтым годзе акрамя байк-злёту Ліда прыме і незвычайны аўтафестываль. Запланавана і міжнародная выстаўка "Арт-Экспа" з удзелам прадстаўнікоў краін СНД.



Тэма Дня роднай мовы загучала на імпрэзе ад самага пачатку, ад перадачы эстафеты Пінскам. Далей уся праграма ішла ў асноўным па-беларуску. Асобныя расейскамоўныя нумары ў выглядзе выступленняў некаторых чыноўнікаў і рэдкіх песень успрымаліся прысутнымі як дзікія і чужынскія.

***belta.by, Радыё Рацыя.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У студзені з Лідскай друкарні выйшаў найлепшы літаратурны зборнік Лідчыны ўсіх часоў "Ад лідскіх муроў" № 9. 434 ст. 150 ас.



17 студзеня ўраджэнка Ліды Вольга Вронская атрымала званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь"




18 студзеня лідзянка Вікторыя Цеста ўзнагароджана "Ордэнам Маці"



15 лютага падчас адкрыцця Стральцоўскага фэсту прайшла 17-я цырымонія ўзнагароджання прэміяй "Залаты апостраф" за найлепшую публікацыю ў часопісе "Дзеяслоў".
"Залаты апостраф" у намінацыі "Дэбют": Кацярына Янчэўская. “Белае шматкроп'е”. Вершы. № 101.




У лютым у выдавецтве ЮрСаПрынт (г. Гародня) выйшла кніга Леаніда Лаўрэша “Шпацыры па старой Лідзе”, А-4, 340 ст. 90 ас.

У лютым ў серыі "Біблятэка Свабоды XXI стагоддзя" выйшла кніга Сяргея Астраўцова "Спадар Свабода" пра журналіста, рэдактара і палітыка Ігара Герменчука.



***Сяргей Астраўцоў на прэзентацыі кнігі "Спадар Свабода" ў Гародні, 7 сакавіка 2020 г.***

# Лідскія юбіляры 2020 года

## Браніслаў Друцкі-Падбярэскі

## *Да 130-тых угодкаў з дня нараджэння*

*Крычэў я гучна аб свабодзе,*
*Урад чародны ганіць смеў...*
*Аб бедным сумаваў Народзе -*
*І... на Лукішках пасядзеў...*[1]

Пра беларускага літаратара, філолага і палітыка Браніслава[2] Друцкага-Падбярэскага інфармацыі не шмат. У асноўным гэта кароткія біяграмы ў розных выданнях пра Заходнюю Беларусь. У 2007 г. Арсень Ліс падсумаваў усё вядомае на той час пра гэтага чалавека ў сваім артыкуле, надрукаваным у "Краязнаўчай газеце" [3]. За гэты час нашы веды пра беларускую гісторыю пашырыліся, і я паспрабую трохі больш распавесці пра гэтага чалавека.

Са звестак, падаваных Браніславам Друцкім-Падбярэскім пра самога сябе, вядома, што ён нарадзіўся 6 студзеня 1890 г. у вёсцы Белая Полацкага павета[4]. Насамрэч ён быў Сігізмундам Кіпрыянавічам Падбярэскім, паходзіў са шляхты Вількамірскага павета і жыў у мястэчку Свянцяны[5]. Потым, каб падкрэсліць шляхецкае паходжанне, ён далучыў да свайго прозвішча прыстаўку Друцкі, і таму "Браніслаў Друцкі-Падбярэскі" - гэта пазнейшае імя ці псеўданім.

Цікавы выбар менавіта гэткага імя ці псеўданіма, бо насамрэч у той час існаваў сапраўдны князь Браніслаў Кіпрыянавіч Друцкі-Падбярэскі (1884 - ?) герба Газдава, сын Кіпрыяна (Цыпрыяна), які ўзяў шлюб з Юзэфай Корсак (1885 - ?), і ў 1905 г. у іх нарадзіўся сын Юзаф Друцкі-Падбярэскі[6].

Думаю, карэктна будзе выказаць здагадку, што наш Сігізмунд Кіпрыянавіч Падбярэскі - пазашлюбны сын князя Кіпрыяна і зводны брат Браніслава Кіпрыянавіча Друцкага-Падбярэскага, які не перажыў бурлівыя часы рэвалюцыі. А пасля яго смерці, магчыма, з дазволу бацькі, імя Браніслава ўзяў Сігізмунд Кіпрыянавіч Падбярэскі - беларускі палітык і філолаг.

У 1915 г. Падбярэскі, ратуючыся ад наступаўшых немцаў, пераехаў у Менск, дзе працаваў у земскім саюзе[7]. У жніўні 1917 г. у Петраградзе пабраўся шлюбам з Аленай Гурскай[8].

У 1920 г. прыехаў у Польшчу і спярша жыў у Варшаве. З ліпеня 1920 г. пасяліўся ў Наваградку[9], дзе ў 1922 г. ўзначаліў выбарчы камітэт. Менавіта як старшыню камітэта падчас выбараў 1922 г. яго ў мемуарах узгадвае Васіль Рагуля: *"Назаўтра мы сабраліся ў кабінэце старшыні наваградзкага камітэту - адваката Друцкага-Падбярэскага"* [10]. Калі ў Навагрудак з Вільні прыязджалі беларускія палітыкі, дык Падбярэскі прымаў іх і ладзіў сустрэчы з насельніцтвам[11].

Вядома, што і сам Падбярэскі падчас выбараў у Польскі Сейм у 1922 г. быў кандыдатам па Навагрдскай акрузе ад спісу № 16. Пасля паразы на выбарах пераехаў у Вільню і спрабаваў заняцца адвакацкай практыкай, але не атрымаў дазволу ад уладаў. Нейкі час працаваў сакратаром пры беларускім пасольскім клубе і юрыстконсультам газеты "Наш сцяг". Магчыма, быў сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Паводле данясення дэфензівы: *"Чалавек разумны і вядомы як адзін з адукаваных беларусаў"* [12].

На пачатку 1920-х гг. быў сябрам Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта (да 1926 г. камітэт меў назву "Часовая беларуская рада" - ЧБР)[13].

У чэрвені 1925 г. беларускі пасол польскага Сейма Аўсянік вёў перамовы з дзеячам ЧБР Падбярэскім, каб той выступіў супраць лідара беларускіх паланафілаў Паўлюкевіча і пераехаў жыць у Гародню (у Гародні планавалася ўтварыць адзін з цэнтраў беларускага руху, распачаць выданне беларускай газеты і інш.). Разам з Друцкім-Падбярэскім у пера-

---

[1] Друцкі-Падбярэскі Б. Байкі. Гумар. Сатыра. Вільня, 1928. С. 51.
[2] У гістарычнай літаратуры яго калі-нікалі чамусьці называюць Баляславам.
[3] Гл: Ліс А. І ён шмат мог і жадаў // Краязнаўчая газета. 2007. № 18.
[4] Lietuvos centrinis valstybes archyvas (далей - LCVA). F. 53. Ap. 23. B. 597. L. 67.
[5] LCVA. F. 53. Ap. 23. B. 597. L. 70.
[6] http://genealogia. grocholski.pl/gd/osoba. php?id=066969
[7] LCVA. F. 53. Ap. 23. B. 597. L. 89.
[8] Там жа. L. 70.
[9] Там жа. L. 89.
[10] http://pawet.net/library/history/bel_history/_memoirs/035/Рагуля_Васіль._Успаміны.html
[11] Ліс А. І ён шмат мог і жадаў.
[12] LCVA. F. 53. Ap. 23. B. 597. L. 76.
[13] Кароткі нарыс беларускага пытання. Мінск, 2008. С. 298.

мовах таксама прымалі ўдзел М. Касцевіч (Макар Краўцоў) і У. Більдзюкевіч - асобы, набліжаныя да ЧБР. Усе гэтыя дзеячы выказвалі незадаволенасць самаўладнымі паводзінамі Паўлюкевіча, які самастойна распараджаўся фінансамі арганізацыі і не выплачваў грошай сваім супрацоўнікам. Нягледзячы на гэта, 18 чэрвеня 1925 г. на паседжанні ЧБР супраць Паўлюкевіча выступілі толькі Касцевіч і Друцкі-Падбярэскі. Як паведамляла паліцыя, Паўлюкевіч, адчуваючы, "што над яго галавой збіраецца бура", папярэдне ўмацаваў свае пазіцыі ў арганізацыі[14].

У траўні 1926 г. Падбярэскі збіраў подпісы выбаршчыкаў у Беларускі пасольскі клуб з патрабаваннем абрання маршала Пілсудскага прэзідэнтам Польшчы. Пілсудскі толькі што арганізаваў так званы "травеньскі пераварот" і меў вялікія сімпатыі з боку нацыянальных меншасцяў і левых партый. Падбярэскі правёў 15 сходаў - амаль на кожным сходзе прымаліся рэзалюцыі "ад імя беларускага народа" ў падтрымку травеньскага перавароту і складаліся тэлеграмы да беларускіх дэпутатаў з патрабаваннем аддаць свой голас за Пілсудскага падчас прэзідэнцкіх выбараў[15]. Дзякуючы гэтай кампаніі, былі высланы тэлеграмы ад 140 беларускіх вёсак.

У жніўні 1926 г. лідар беларускіх паланафілаў А. Паўлюкевіч разам з Падбярэскім, Ф. Аляхновічам і іншымі палітыкамі звярнуўся да ўладаў па дазвол на адкрыццё гэтак званага "Беларускага клуба", які мог бы за кошт камерцыйнай дзейнасці прыносіць прыбыткі на выданне газеты. Але пасля рэгістрацыі ўладамі статута арганізацыі сам Паўлюкевіч не быў абраны ва ўправу клуба[16].

Падчас выбараў у Сейм 1928 г. ад спісу паланафілаў № 37 па Лідскай акрузе на першых месцах знаходзіліся М. Іванкевіч і Б. Друцкі-Падбярэскі. Але паланафілы прайгралі выбары, узяўшы ў Лідскай акрузе толькі 826 галасоў[17].

У 1920-х гг. Падбярэскі друкаваўся ў часопісах "Беларуская культура", "Беларускі радны", "Беларуская хата", газетах "Беларускае слова", "Беларускі дзень" [18] - газетах паланафільскай арыентацыі.

Тады ж ён выдаў шэраг кніг: "Байкі", (24 стар. 1926, друкарня "Nowoczesna"), "Пернік": проза; (10 стар., 1000 ас. 1927, друкарня Баеўскага), "Байкі, гумар, сатыра", (64 стар., 1000 ас. 1928, друкарня Клецкіна). Выдатны аналіз літаратурнай творчасці Падбярэскага як байкапісца зрабіў філолаг Уладзімір Каяла[19]. У 1937 г. выйшла польскамоўная кніга "Kresowe migawki sadowe : sceny i obrazki z sali sadowej na kresach"[20].

Пэўна, галоўнай працай Падбярэскага стаў "Падручны беларуска-польскі слоўнік", (324 стар. 1929, друкарня Клецкіна). Слоўнік быў адрэдагаваны прафесійным філолагам В. Грышкевічам. Арсень Ліс заўважыў, што абодва суаўтары - укладальнік і навуковы рэдактар - засведчылі добрае веданне беларускай мовы і знаходзілі адэкватныя семантычныя эквіваленты на польскай мове[21].

Для мяне ж самым цікавым з'яўляецца тое, што Падбярэскі займаўся краязнаўчым апісаннем Лідчыны, пра што паведаміў Леанід Маракоў[22]. На жаль, краязнаўчыя тэксты яго пакуль не знойдзены.

Падбярэскі быў арыштаваны органамі НКВД восенню 1939 г. у рэдакцыі газеты "Вілейская праўда", куды зайшоў па літаратурных справах. Засведчыў гэты факт журналіст Вульф Сосенскі. Далейшы лёс гэтага чалавека невядомы[23].

Аўтар выказвае вялікую падзяку выдатным беларускім гісторыкам Андрэю Чарнякевічу і Алесю Горнаму, без якіх гэты артыкул не мог бы з'явіцца.

***Леанід Лаўрэш.***

[14] Горны А. С. "Місія Аўсяніка": да пытання аб палітычнай барацьбе паміж Беларускім пасольскім клубам і Часовай беларускай радай у Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду // VIII Машеровские чтения: материалы международной научно-практической конференции студентов, аспирантов и молодых ученых, Витебск, 16-17 октября 2014 г. Витебск, 2014. С. 91.

[15] Горны А. С. Беларускія паланафілы і майскі пераварот у Польшчы 1926 года // Беларусь у XIX-XXI стагоддзях: праблемы этнакультурнага і нацыянальна-дзяржаўнага развіцця: зб. навук. арт. Гомель, 2013. С. 123.

[16] Чарнякевіч Андрэй. Беларускія паланафілы і Грамада. 1925 - пачатак 1927 г. // Гістарычны альманах. Т. 12. 2006. С. 76-77.

[17] Горны А. С. Удзел беларускіх паланафілаў у польскіх парламенцкіх выбарах у 1928 г. // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajemnosci : матэрыялы XX міжнар. навук. канф. (Гродна, 23-24 кастр. 2014 г.). Мінск, 2015. С. 255.

[18] Кароткі нарыс беларускага пытання. С. 298.

[19] Гл: Каяла Уладзімір. Б. Друцкі-Падбярэскі як пісьменнік-сатырык // Творчасць Элізы Ажэшкі і беларуская культура: Зб. навук. прац пад рэд. С. П. Мусіенкі. Гродна, 2002. С. 213-220.

[20] Drucki-Podbereski B. Kresowe migawki sadowe : sceny i obrazki z sali sadowej na kresach. Z. 1. Wilno, 1937.

[21] Ліс А. І ён шмат мог і жадаў.

[22] Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794-1991. Энцыклапедычны даведнік. Т. 1. Мінск, 2003. С. 322-333.

[23] Там жа.

*Леанід Лаўрэш*

# Зноў пра святароў і царкву ў Малым Мажэйкаве

У гэтым артыкуле падаю новую інфармацыю пра святароў Маламажэйкаўскай царквы Паўла Сцепуржынскага і Льва Савіцкага. Калі пра Сцепуржынскага ў сваіх папярэдніх матэрыялах я толькі ўзгадваў, дык пра Льва Савіцкага пісаў дастаткова падрабязна.

Таксама ў артыкуле падаюцца новыя матэрыялы пра саму царкву.

**Міхал Сцепуржынскі.**

У Паўла Сцепуржынскага, які з 1795 па 1817 гг. служыў адміністратарам Радзівонішскай царквы, у Радзівонішках нарадзіўся сын Міхал, які адносіўся да тых прадстаўнікоў "новаправаслаўнага" духавенства (былых уніятаў), якія гэтак і не знайшлі сябе ў новай сістэме.

Міхал Сцепуржынскі нарадзіўся ў 1796 г. Свецкім навукам з 1812 па 1819 г. навучаўся ў Шчучынскай гімназічнай павятовай вучэльні, дзе скончыў 4 класы з "пахвальным пасведчаннем". Духоўныя навукі вывучаў у 1820-1821 гг. у Жыровічах. У духоўнае званне ўступіў і быў высвечаны ў святары грэка-каталіцкім біскупам Адрыянам Галаўнём у Вільні і 24 чэрвеня 1822 г. накіраваны ў Радзівонішскую Свята-Ганненскую царкву вікарыем да свайго бацькі, святара Паўла Сцепуржынскага. У тым жа годзе малады святар ажаніўся з Ганнай[1], дачкой Маламажэйкаваўскага святара Яна Плаўскага і быў пераведзены ў Маламажэйкаўскую царкву: *"паступіў у прычт да свайго цесця святара Іаана Плаўскага"* [2]. З 1831 па 1837 гг. служыў тут адміністратарам царквы, гэта значыць, цесць стаў вікарыем у свайго зяця.

З кліравых ведамасцей 1844 г. даведваемся, што святар Іван Дзям'янавіч Плаўскі, сын святара, першапачатковым навукам навучаўся ў свецкай павятовай Наваградскай вучэльні з 1800 г. Закончыў курс і ў 1804 г. паступіў Берасцейскую Літоўскую семінарыю Пасля заканчэння курса навук высвечаны ў святары мітрапалітам Булгакам у Наваградку ў 1805 г., а ў 1810 г. прызначаны парахам Маламажэйкаўскай царквы. У 1842 г. прызначаны духоўнікам Лідскага дабрачыння[3].

У Малым Мажэйкаве малады святар *"перабудаваў старыя пабудовы плябаніі і пабудаваў некаторыя новыя ..."* [4]. У цесця *"Сцепуржынскі застаў стары жылы дом, два хлявы і старыя гаспадарчыя пабудовы - маёмасць Плаўскага, старыя пабудовы за некалькі гадоў ... Сцепуржынскі перабудаваў ..."* [5]. З-за гэтага паміж зяцем і цесцем сапсаваліся адносіны і з'явіліся маёмасныя праблемы, але аналізаваць спрэчкі цесця з зяцем і ўчытвацца ў дзесяткі старонак рукапіснага тэксту ў архіве, мне было не цікава.

У 1837 г. епіскап Антон Зубко разам з дэканам Брэнам праводзіў праверку Маламажэйкаўскай царквы. Адзін з ліквідатараў уніі Зубко, сваімі вачамі ўбачыў, што *"ў дзень Абразання Гасподняга ў царкве спявалі "Анёл Панскі""* [6]. З-за гэтага: *"... святар Міхал Сцепуржынскі ... які быў настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы, але не выканаў прадпісанняў ... нізведзены ў вікарыі гэтай царквы, а яго цесць, святар Іаан Плаўскі ... як і раней, пастаўлены настаяцелем ..."* [7]. Насамрэч Сцержынскага нават вывелі за штат[8].

Менавіта з 1837 г., з моманту знішчэння ўніяцкай царквы, у святара з'явіліся праблемы. У дакументах 1839 г. адзначалася, што ён знаходзіўся пад царкоўным судом за няправільнае здзяйсненне богаслужэння і непадпарадкаванне начальству - меўся на ўвазе той самы "Анёл Панскі". Святар характарызаваўся як нездольны з-за "неприлежания", запальчывы і ўпарты. Гэта азначала, што а. Міхал, як мог, супраціўляўся скасаванню сваёй царквы і, як бачна з дакументаў, нават спрачаўся з самім Зубко. Таму не дзіва, што быў рэпрэсаваны.

У 1844 г. Сцепружынскі ўжо меў "добрыя паводзіны". Аднак у 1849 г. ковенскім епіскапам (Яўсевіем) адзначалася, што *"служыць не ўмее"* і мае прыхільнасць да *"горячительных"* напояў. У 1859 г. запісана, што *"нічым па царкве не займаецца, вельмі рэдка служыць, цалкам не здольны"* [9].

Са справы 1843-1853 гг. аб накладанні епітыміі

[1] Сужэнцы мелі дзяцей: сыноў Ануфрыя (1837 г.н.), Міхася (1838 г. н.), Восіпа (1844 г. н.) і дачок - Яну (1824 г. н.), Сафію (1826 г. н.), Касыльду (1828 г. н.), Антаніну (1835 г н.), Стэфаніду (1840 г. н.), Алену (1843 г. н.), Марыю ( 1847 г. н.).

[2] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 285. Дело о назначении эпитемии св. Маломожейковской церкви Михаилу Сцепуржинскому. 1842-1853 годы. Арк. 50.

[3] ДГАЛ. Ф. 695. Воп. 6. Спр. 87. Клировые ведомости Лидского уезда за 1844 г. Арк. 42 адв - 43.

[4] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 285. Арк. 53.

[5] Там жа. Арк. 54.

[6] Там жа. Арк. 50 адв.

[7] Там жа. Арк. 52 адв.

[8] Там жа. Арк. 50 адв.

[9] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 6. Спр. 86. Формулярные списки Лидского благочиния 1839. Спр 87. Клировые ведомости 1844 года. Спр. 88. Клировые ведомости 1849. Спр. 91. Клировые ведомости 1859. Спр. 96. Клировые ведомости 1864.

на Міхала Сцепуржынскага, бачна што, святар *"Сцепуржынскі не выконвае да гэтага часу прадпісанне 1842 г. аб яўцы на адзін месяц у Кафедральны сабор для вывучэння багаслужэння".* З даведкі бачна, што ён падчас рэвізіі 1849 г. *"праасвяшчэнным Яўсевіем цэркваў Лідскага павета, запісаны слабым у багаслужэнні і зараз дабрачынны даносіць, што Сцепуржынскі не выказаў у гэтым поспеху"* [10]. У сваё апраўданне Сцепуржынскі давёў, што ён ужо ў 1835 і 1839 гг. па некалькі тыдняў абучаўся ў Жыровіцкім кафедральным саборы[11]. Але, як і шмат хто з іншых былых уніяцкіх святароў, служыць на маскоўскі ўзор не навучыўся і не жадаў гэтага рабіць.

Цікава, што Сцепуржынскага абвінавацілі ў тым, што ён хаваў вернікаў (8 чалавек) не на могілках, а каля царквы, на пагосце. І жах! Дабрачынны Брэн заўважыў на адным з крыжоў на магіле каля царквы надпіс на польскай мове. Такі надпіс меўся на магіле селяніна вёскі Зенавічы Івана Змітровіча (у спісе парафіян Маламажэйкаўскай царквы 1829 г., у вёсцы Зенавічы Змітровіч ідзе пад № 2, у спісе - "Ян Змітровіч, 38 г."). Сцепуржынскі адказаў, што крыж з польскім надпісам зрабілі самі сяляне і ён не мае да гэтага дачынення, да таго ж, ён не быў настаяцелем царквы і не вырашаў пытанне з месцам пахавання вернікаў[12].

На абвінавачванні ў п'янстве святар адказаў, што на прыходзе ён *"жыве 30 гадоў і гатовы прадставіць сведкамі ўсіх сялян і суседніх абшарнікаў, што ён не п'е, а абвінавачванні дабрачыннага гэта паклёп. ... Што датычыць бруду ў царкве, дык гэта таму, што царква, хоць і мураваная, але надта старая і патрабуе вялікага рамонту. Падчас дажджу працякае дах ..."* [13].

З дакументаў аб накладанні епітыміі на Сцепуржынскага, бачна, што не ўсё адназначна са справай адабрання зямлі абшарнікам Кастравіцкім, пра якую пісаў Леў Савіцкі[14]. Кансісторыя не ўпэўнена, *"ці насамрэч у свой час фундушовая зямля ... была адабрана нябожчыкам, абшарнікам Кастравіцкім, якая па словам Сцепуржынскага была аддадзена толькі часткова? Колькі канкрэтна і калі яна была адабраная? І чаму дабрачынны як адказны за цэласнасць царкоўнай маёмасці ... не паклапаціўся аб яе вяртанні?"* [15]

У выніку Міхал Сцепуржынскі атрымаў у епітымію: *"20 зямных паклонаў, якія ён абавязаны пакласці ў Лідскай царкве пад наглядам протаіерэя Брэна"* [16]. Здаецца, не надта моцны прысуд, пэўна ўсё ж святар быў не вельмі вінаваты.

У ведамасці Маламажэйкаўскай Багародзіцкай царквы за 1844 г. чытаем, што царква *"пабудавана ў 1542 г. абшарнікам Шымкам Мацкавічам з маёнтка Вялікае Мажэйкава.*

*Царкоўны прычт мае тры моргі сядзібнай зямлі і тры полі ворнай зямлі ( 9, 10, 9 моргаў), 15 моргаў сенакосу і зарослай хмызняком тры моргі.*

*Дом святара драўляны, новапабудаваны на сродкі святара.*

*На ўтрыманне святара і дзьячка - 160 рублёў срэбрам, утрыманне дастатковае.*

*Маюцца сапраўдныя метрычныя кнігі з 1776 г. аб нованароджаных, памерлых і шлюбах па сённяшні год, захоўваюцца ў цэласнасці"* [17].

У 1849 г. пачаўся рамонт царквы, пра які можна даведацца ў "Деле о починке Маломажейковской церкви"[18]. Лідскі дабрачынны Брэн, святары Іван Плаўскі і Міхал Сцепуржынскі, а таксама дыякан Аляксандр Малішэўскі падпісалі акт наступнага зместу: *"1848 года, жніўня, 16 дня ніжэйпадпісаныя Лідскі дабрачынны протаіерэй Самсон Брэн з прычтам Маламажэйкаўскай царквы, пасля яе агляду, прызналі неабходным зрабіць некаторыя папраўкі і купіць неабходныя рэчы, а менавіта: прыбудаваныя па кутах царквы чатыры вежы пакрыць новай гонтай і на адной з вежаў, з правага боку пры ўваходзе ў царкву, зрабіць жалезны крыж, фасад з самага фронту пры ўваходзе ў царкву паправіць і абтынкаваць, падлогу ў некаторых месцах выправіць, на паўночных і паўднёвых дзвярах напісаць абразы Архідыякана Стэфана і Архістратыга Міхала, напісаць два вялікія насценныя абразы на царскія вароты, напісаць малыя абразы чатырох евангелістаў, а над царскімі брамай - абраз Тайнай Вячэры а таксама дзве харугвы, зрабіць чатыры невялікія аналоі і покрыўкі на іх, купіць царкоўныя кнігі: Апостал, Актоіх, вялікі трэбнік і акафіст з канонам і дзве святарскія рызы з царкоўным прыборам, адну з іх жалобную, а другую светлую. Аб чым складзены намі акт, уласнаручнымі подпісамі пацвярджаем"* [19].

Пачалася доўгая перапіска паміж маршалкам лідскай шляхты Буткевічам (які павінен быў прымусіць гаспадара маёнтка Малое Мажэйкава Рышарда Ромера да рамонту царквы) і Літоўскай кансісторыяй. Вынікам перапіскі стала тое, што ўсё ж была падлічана неабходная сума ў 303 руб. 44 кап., але справа рамонту царквы ўсяроўна з месца не зрушылася[20].

Абшарнік Ромер прасіў, каб царкву рамантавалі

[10] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 285. Арк. 49.
[11] Там жа. Арк. 51 адв.
[12] Там жа. Арк. 56 адв - 58.
[13] Там жа. Арк. 59 - 60.
[14] Лаўрэш Л. Л. Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс. Гродна, 2017. С. 47.
[15] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 285. Арк. 65.
[16] Там жа. Арк. 63.
[17] ДГАЛ. Ф. 695. Воп. 6. Спр. 87. Клировые ведомости Лидского уезда за 1844 г. Арк. 41 - 41 адв.
[18] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 1482. Дело о починке Маломажэйковской церкви.
[19] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 2. Спр. 1482. Дело о починке Маломажэйковской церкви. Арк. 2.
[20] Там жа. Арк. 37 адв.

разам з ім абшарнікі Грабоўскі (Вялікае Мажэйкава) і Важынскі (Ішчална), бо сяляне гэтых маёнткаў з'яўляюцца прыхаджанамі царквы. У 1856 г. лідскі дабрачынны Брэн канстатаваў, што *"рамонт царквы не робіцца, і яна ўсё больш і больш руйнуецца"* [21].

У 1857 г. да перапіскі далучылася канцылярыя Віленскага генерал-губернатара, але справа не рухалася. У 1862 г. да планаванага рамонту царквы вырашылі дадаць яшчэ і пашырэнне могілак[22]. Аднак, здаецца, нічога не зрабілі, і справа аб рамонце была закрыта 27 лютага 1863 г. і адпраўлена ў архіў 28 сакавіка 1870 г.

Газета "Літоўскія епархіяльныя ведамасці" паведаміла, што *"заштатны святар Маламажэйкаўскай царквы Лідскага павета Міхал Сцепуржынскі памёр 10 лютага 1865 г., яго маёмасць засталася ўдаве і сіротам"* [23].

Рамонт і перабудова Маламажэйкаўскай царквы адбылася толькі пры святары Льву Савіцкім.

**Леў Савіцкі.** Першая згадка пра святарскі род Савіцкіх, знойдзеная на сённяшні дзень, датуецца 1762 г. Гэта год нараджэння святара грэка-каталіцкай царквы Савы Савіцкага. Ён высвечаны біскупам Пінска-Тураўскай епархіі Гедэонам Дашкевічам-Гарбацкім 23.07.1788 г., інсталяваны Берасцейскім біскупам Язафатам Булгакам 05.04.1812 г. Служыў адміністратарам у царкве вёскі Пажог Пінскага павета з 3.07.1788 па 04.04.1812 г., потым у гэтай жа царкве парахам з 05.04.1812 г. па 23.01.1820 г. Зараз вёска Пажог знаходзіцца ў Любяшоўскім раёне Валынскай вобласці (Украіна). Сям'я ў Савы Савіцкага на той час была параўнальна невялікая: жонка Мар'яна, 1768 г. н. і трое дзяцей: Іосіф (15.01.1800 г. н. ), Адам (1810 г. н.), Ганна (1804 г. н.).

Пра дачку Ганну на дадзены момант нічога не вядома, а абодва сыны пайшлі па слядах бацькі і сталі святарамі. Адам Савіцкі ў 1838 г. змяніў свайго бацьку і стаў настаяцелем царквы ў вёсцы Пажог, Іосіф Савіцкі 23.01.1820 г. скончыў Любяшоўскі калегіюм піяраў.

У 1838 г. Іосіф Савіч Савіцкі - святар царквы ў сяле Спорава Слонімскага павета Гарадзенскай губерні. Яго жонка - Юстына Раманаўна, народжаная Ержыкоўская. 18 чэрвеня 1841 г. у вёсцы Спорава Слонімскага павета нарадзіўся Леў Савіцкі. Спярша ён скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а ў 1863 г. стаў выпускніком Літоўскай духоўнай семінарыі[24].

А ў кнізе "Кладзецца імгла на старыя прыступкі" А. П. Чудакова, ёсць радкі пра будні семінарыстаў напісаныя па расказах дзеда А. Чудакова Леаніда Львовіча Савіцкага (сына Льва Савіцкага):

*"Дзед расказваў пра Віленскую духоўную семінарыю. Айцец Панкрацій Дабранраваў потым стаў епіскапам. Яфім Фёдаравіч Карскі, будучы акадэмік, быў выкладчыкам рускай мовы ў другой віленскай гімназіі, а ў нас па сумяшчальніцтву, выкладаў царкоўна-славянскую мову. ...*

*... Старэйшыя семінарысты называліся філасафамі, сярэднія - прамоўцамі. ...*

*Дыспуты ў нас на дагматычныя тэмы ... вялі філасофы і, мабыць, прамоўцы. Як зменіцца свет пасля Страшнага суду? Што ёсць вера? Бог стварыў свет адразу або па частках? Мы, сінтаксісты, малодшыя, болей любілі размовы.*

*- Балбатаць адзін з адным?*

*- Не, так называлася нешта накшталт тэатральных паказаў, на якія прыходзіла і пабочная публіка - актавая залы часам не магла змясціць усіх. Якія размовы? Ставіліся спрэчкі паміж часткамі рэчы: кожная сцвярджала, што яна ў мове самая важная. ...*

*- А якія пытанні былі на іспытах?*

*- Розныя ... Напрыклад: у чым складалася ерась Арыя? Або: якія розныя рысы ў кожным з чатырох Евангелляў? Ці працэй: выкласці любое з Паўлавых Пасланняў. Але гэта для нас было проста, а якоганебудзь гімназіста спытай - стане ў тупік. Хіба ён ведаў Евангелле? - дзед пачынаў камусьці пярэчыць, хвалявацца, гэтае пытанне і зараз, праз паўстагоддзя, чапала яго. - Гімназіст ведаў не Евангелле, а Святую гісторыю Новага Запавету - сачыненне святара Рудакова. Ды і то няцвёрда. Нагаворыць настаўніку закона ўсякага глупства, а той толькі: "засвоіў няўцямна", і ставіць здавальняльны бал.*

*Але гэта мне было ўжо нецікава, я спяшаўся змяніць тэму і пытаўся, як забаўляліся семінарысты.*

*- Як усе хлопчыкі. Гулялі ў чахарду, у карты, хоць яны строга забараняліся. Спявалі што? Свецкае не ўхвалялася. Але мы знаходзілі спосаб. Спявалі, - дзед пачынаў на царкоўны распеў, - такое: "Айцец дабрачынны купіў нож перачынны"* [25]*... А хор: "У-дзі-віцель-на!" ... "і кажух аўчыны" ... Хор: "Ва-схі-ці-цельна!" Спявалі вечарамі, але ўнізе сядзеў вартаўнік, і ён усё даносіў начальству. А тут - чыста: развучваем літургію на голас шосты ці сёмы ... Ну а ... калі ўсё ж, чуем, падымаецца па лесвіцы наш Аргус, пачынаем: "Et tonat, et donat" - стары бурсацкі пераклад украінскай песні: "И шуме, и греме, дрибен дощик иде, а кто мени молодую тай до дому доведе…"*

*Вартаўнік паслухае-паслухае: латынь! значыцца, усё ў парадку ... "* [26].

10 лістапада 1863 г., закончыўшы курс Літоўскай духоўнай семінарыі, Леў Савіцкі быў рукапакладзены ў святары Маламажэйкаўскай царквы Віленскай

[21] Там жа. Арк. 62.

[22] Там жа. Арк. 71 - 74.

[23] Литовские епархиальные ведомости. 1865 - № 6. С. 215.

[24] Андреев И. А. Род православных священников Савицких. Генеалогический очерк. Н. Новгород, 2019. С. 5-7., 16.

[25] "Отец благочинный купил нож перочинный".

[26] Чудаков А. П. Ложится мгла на старые ступени: Роман - идиллия. Москва, 2001. С. 309-310.

губерні Лідскага павета[27]. Жонка святара - Сцепуржынская Сцефаніда Міхайлаўна, дачка маламажэйкаўскага свята Міхала Сцепуржынскга. Савіцкі ўспадкаваў месца ў царкве "па-кудзелі".



***Дачка Міхала Сцепуржынскага і жонка Льва Савіцкага Сцефаніда Міхайлаўна***



***Леў Савіцкі***

Леў і Сцефаніда Савіцкія мелі адзінаццаць дзяцей: Дар'я (1865 г. н.), Уладзімір (1866 г. н.), Стэфаніда (1867 г. н.), Міхаіл (1869 г. н.), Іосіф (1871 г. н.), Надзея (1873 г. н.), Аляксандр (1874 г. н.), Зінаіда (1876 г. н.), Леанід (1878 г. н.), Мікалай (1879 г. н.), Павел (1885 г. н.).

Трэба расказаць пра Маламажэйкаўскую царкоўна-прыходскую школу, якая была заснавана ў 1864 г. для цалкам непісьменных вернікаў царквы. Першапачаткова школа месцілася ў пакоі для прыслугі святарскага дома, у вучнях было 11 хлопчыкаў. 26 кастрычніка 1864 г. у доме здарыўся пажар, і школу перанеслі ў напаўзгнілы багадзельны дом. Вучоба ў ім не магла працягвацца ўсю зіму з-за холаду, і таму дзяцей перавялі ў дом псаломшчыка.

У 1866 г. былі адкрыты дзве рухомыя школы ў бліжэйшых да царквы вёсках, якія налічвалі 23 вучні. Гэтыя рухомыя школы былі вельмі бедна і непрывабна абстаўлены, і часта разам з дзецьмі кніжную мудрасць слухалі і свойскія жывёлы. Такое навучанне працягвалася да 1871 г. Клопатамі Льва Савіцкага для школы быў пабудаваны асобны дом і за грошы святара куплена мэбля. У розныя гады ў гэтай школе налічвалася ад 30 да 40 вучняў.

10 лютага 1882 г. згарэў і гэты будынак, але навучанне працягвалася ў рухомай школе. Пераканаць вернікаў у неабходнасці пабудовы новага будынка каштавала вялікіх высілкаў. Большасць з сялян, вядома ж, была за навуку, але меліся і праціўнікі. Супраць было і сельскае начальства (валасны старшына і пісар), яны казалі, што будаўніцтва школы фінансава зруйнуе прыход. Аднак, у 1883 г. Савіцкі змог пераканаць вернікаў падпісаць "вырак" за пабудову новай школы. З кожнага двара належала сабраць па 5 рублёў, што агулам павінна было скласці суму ў 305 рублёў. Але і тут не абышлося без складанасці. Па-першае, стаяла вясновая пара, і ў сялян ужо не заставалася харчовых запасаў, а не тое што грошай, па-другое, пажарам была знішчана адна з самых вялікіх вёсак парафіі. Для таго, каб выкупіць зруб для новага будынка школы ў яўрэя-

[27] ЛЕВ. 1863. № 20. С. 886.



***Сям'я Льва Савіцкага, 1907 г.***

лесапрамыслоўца бракавала 160 рублёў. Іх унёс сам святар і тым самым уратаваў зруб ад перапродажу іншым пакупнікам. Гэтая сума была ўнесеная авансам, г. зн., потым сяляне павінны былі вярнуць грошы святару.

4 лістапада адбылося ўрачыстае адкрыццё і высвячэнне новай школы. Леў Савіцкі абвясціў, што дапамагаць у навучанні яму будзе старэйшая дачка Дар'я, якая скончыла курс навук у Віленскім жаночым духоўным вучылішчы. Гэтак жа святар абвясціў, што навучанне будзе бясплатным. Апошняе прыйшлося парафіянам па сэрцы, і праз тры дні школу ўжо наведвалі 52 вучні. Такую колькасць дзяцей нават не было дзе пасадзіць з-за недахопу парт.

Галоўнай праблемай з'яўлялася адсутнасць падручнікаў і кніг. У пачатку 1860-х гг. у мясцовага насельніцтва на руках практычна не было кніг, а калі і былі, дык на польскай мове, што ніякім чынам не пасавала для праваслаўнай школы. Першая дапамога кнігамі была атрымана ў 1865 г., гэта былі брашуры і настаўленні сялянам, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, а таксама чатыры кнігі на стараславянскай мове. У наступныя гады новыя кнігі набываліся на асабістыя сродкі Савіцкага. Так працягвалася да 1880 г., калі школа атрымала 104 падручнікі. Аднак, неўзабаве падручнікі былі знішчаны пажарам. Таму, баючыся, што вучэнне можа перапыніцца святар быў вымушаны купіць 60 асобнікаў розных вучэбных кніг за свой кошт. Але неўзабаве школа дастала 44 кнігі ад Сінода, потым яшчэ 104 кнігі з Віленскай дырэкцыі навучальнай акругі, а ў 1885 г. на долю школы прыйшлося яшчэ 300 асобнікаў кніг. Багатае забеспячэнне школы кнігамі стала галоўнай прычынай павелічэння колькасці навучэнцаў, да вясны 1885 г. ў школе вучыліся ўжо да 60 чалавек.

Унутранае ўбранне школы не было багатым. У першым школьным памяшканні школы мэбля складалася з простых лавак, пазбіваных з дошак і пакладзеных на ўбітыя ў зямлю калы. Замест парт стаялі простыя доўгія сталы. Дошкай служылі ўваходныя дзверы, афарбаваныя ў чорны колер. У ізноў пабудаваным ў 1884 г. будынку стаялі доўгія класныя парты, адзін вялікі стол, стол і крэсла для настаўніка, класная дошка, а для кніг Савіцкі ахвяраваў новую вялікую шафу. У куце стаялі абраз Збавіцеля, Божай Маці, выява Св. Кірыла і Мяфодзія. Па сценках вісеў тэкст малітвы "Ойча наш", кароткі малітваслоў і славяна-руская азбука. Школа мела глінабітную падлогу. Для абагрэву выкарыстоўвалі зялёную кафляную печ. Пры ўваходзе вісеў пайменны спіс усіх вучняў, расклад заняткаў, а таксама ранішніх і вячэрніх малітваў, якія прамаўляліся вучнямі па чарзе.

Вучылі ў школе не толькі грамаце. Напамяць вывучалі малітвы, прычым "з правільным вымаўленнем і разуменнем сэнсу". У праграму штодзённых заняткаў уваходзілі царкоўныя спевы. Вывучалася

свяшчэнная гісторыя Старога і Новага запавету. Арыфметыка выкладалася на прыкладах, запазычаных з жыцця, знаёмага сялянскім дзецям. З геаграфіі даваліся самыя элементарныя пазнанні аб зямлі, планетах, але галоўным чынам неабходныя звесткі аб Расійскай Імперыі з наглядным указаннем на карце галоўных рэк і гарадоў. З гісторыі выкладаліся кароткія звесткі аб заснаванні рускай дзяржавы. Але галоўная ўвага звярталася на славянскую і рускую мовы, поспехі ў якіх вышэй за іншыя навукі адзначалі інспектары. Гэта і зразумела, беларускія дзеці мелі вялікія праблемы з рускай мовай, пра гэта можна прачытаць у шматлікіх мемуарыстаў таго і пазнейшага часу. Па выніках адной з рэвізій поспехі дзяцей былі прызнаныя здавальняючымі па ўсіх прадметах, за што вучняў ўзнагародзілі кнігамі (па кнізе на кожнага і яшчэ 25 кніг школе), а Льву Савіцкаму аб'яўлена ўдзячнасць ад епархіяльнага начальства.

Спосабы выкладання ў школе былі далёкімі ад патрабаванняў педагогікі, гэта святар тлумачыў адсутнасцю неабходных дапаможнікаў. Ва ўсе часы існавання школы галоўным выкладчыкам з'яўляўся святар і часткова псаломшчык (спевы). Падчас адсутнасці настаўніканазіранне за вучнямі ўскладалася на аднаго з лепшых вучняў. Але Савіцкі знаходзіў гэта ненармальным. Ён быў вымушаны наймаць асоб, больш-менш здольных быць памочнікамі ў справе адукацыі і выхавання дзяцей. У новым будынку школы дапамагала вучыць дзяцей старэйшая дачка Савіцкага Дар'я. На святары ляжаў абавязак выкладання Закона Божага і тлумачэнне набажэнства.

Адукацыя патрабавала некаторых выдаткаў пры тым, што большасць сялян была вельмі беднай. Пры школе не мелася памяшкання для начлегу, і таму некаторыя дзеці былі вымушаны хадзіць у школу штодзень за 4-5 вёрст. Пры дрэнным надвор'і, асабліва ўзімку, школу яны наведвалі не рэгулярна.

Свецкія ўлады былі незадаволены ўзроўнем адукацыі, якую давалі царкоўныя школы. Недарэмна, нават і ў наш час пра неадукаванага і цёмнага чалавека кажуць: "Ён скончыў царкоўна-прыходскую школу".

Шматлікія праблемы з уладамі меў і Савіцкі. Часта валасныя старшыны прылюдна, на сходах, забаранялі вернікам Маламажэйкаўскай царквы аддаваць дзяцей у школу і нават пагражалі грашовымі штрафамі. Ад валасных старэйшын паступалі скаргі на царкоўную школу за супрацьдзеянне народнай адукацыі ў народных школах[28].

11 сакавіка 1877 г. Савіцкага выклікалі ў вёску Дзікушкі, дзе яму ў прысутнасці дзікушскага святара і народнага настаўніка, інспектар народных вучылішч сказаў: "Гэта Вы адкрылі ў сябе патаемныя школы. Хто вам дазволіў? Якое Вы маеце права?" На што Леў Савіцкі адказаў, што яго школа не тайная, існуе ўжо 14 гадоў, а права вучыць дзяцей свайго прыходу дае яму сан святара і Палажэнне ад 25 мая 1874 года. Пасля гэтага інспектар сказаў святару, што калі ён не жадае быць адказным за падрыў справы народнай адукацыі, дык павінен перадаць сваю школу ў якасці аддзела, дзікушскаму народнаму настаўніку. Святар адказваў, што ён не можа быць памочнікам народнага настаўніка, бо гэта было б ненармальна і падрывала б яго аўтарытэт і сан, і, нарэшце, яго адукацыя дае яму, святару, права на званне настаўніка народа. Дадам, што Леў Савіцкі меў сярэднюю адукацыю.

5 лютага 1880 г. народны настаўнік Дзікушскай школы зноў падаваў скаргу на царкоўную школу Савіцкага. Потым, каб зачыніць царкоўную школу, той жа настаўнік прыходзіў разам з валасным старшынём (гэты візіт Савіцкі назваў "набегам"), але яны толькі адабралі некалькі падручнікаў.

А 12 студзеня 1882 г. у адной з вёсак прыходу, якая была акружана каталіцкімі вёскамі, была выяўленая таемная польская школа. Савіцкі адразу ж данёс уладам. Польскія кнігі былі прадстаўлены міравому пасярэдніку, і святар падаў заяву з патрабаваннем, каб гэтых дзяцей, якія вучыліся польскай грамаце (відавочна, што католікаў), перадалі яму, у праваслаўную царкоўна-прыходскую школу. Але яго царкоўная школа мела такую рэпутацыю, што пасярэднік, замест таго, каб падтрымаць праваслаўнага святара, вярнуў польскія кнігі, матывуючы гэта словамі: "Хай лепш вучацца па-польску, чым нічаму не вучацца".

Яшчэ да выкрыцця польскай школы, міравы пасярэднік заўсёды адхіляў заявы Савіцкага як асабістага характару, гэтак і заявы ў інтарэсах школы[29].

Заўважу, што ў 1882 г. на Лідчыне былі два міравыя пасярэднікі: Васілій Дзмітрыевіч Шышкоў (на пасадзе з 4 траўня 1873 г., меў баявыя ўзнагароды за Крымскую вайну) і Іван Захаравіч Зубоўскі (на пасадзе з 29 верасня 1880 г., таксама меў баявыя ўзнагароды за Крымскую вайну і медаль за "Усмирение польского мятежа 1863-1864 гг."). Зразумела, што абодва былі праваслаўнага веравызнання[30]. Таму вычарпальная ацэнка вынікаў асветнай дзейнасці святара з боку праваслаўнага чыноўніка з'яўляецца цікавай для разумення сутнасці справы.

З газеты "Літоўскія епархіяльныя ведамасці" можна зрабіць наступную храналогію жыцця святара. У лістападзе 1876 г. Леў Савіцкі за старанную службу ўзнагароджаны набедраннікам[31]. У 1879 г. піша некралог па святары царквы ў Мыто а. Андрэі Пігулеўскім[32]. 19 чэрвеня 1882 г. Льву Савіцкаму выказана ўдзячнасць Епархіяльнага начальства[33]. У 1886 г. ён

[28] Народныя школы - агульная назва пачатковых вучылішч даступных для народных мас. Пачатковыя народныя вучэльні давалі толькі пачатковую адукацыю.

[29] Литовские епархиальнве ведомости. 1889. № 15. С. 124-126.

[30] Памятная книжка Виленской губернии на 1882 год. Вильна, 1882. С. 244.

[31] ЛЕВ. 1876. № 47. С. 392.

[32] ЛЕВ. 1879. № 8. С. 62-63.

[33] ЛЕВ. 1882. № 26. С. 204.

ахвяруе 5 руб. 50 кап. Віленскаму Свята-Духаваму брацтву[34]. У тым жа годзе ахвяруе 2 рублі на царкоўную харугву[35]. У 1894 г. Леў Савіцкі прызначаны на пасаду члена савета Лідскага дабрачыння[36], а ў 1895 г. ахвяруе 3 рублі Віленскаму Свята-Андрэеўскаму брацтву[37]. 18 лютага 1897 г. узнагароджаны скуф'ёй[38]. У 1899 святару выказана архіпастырскае дабраслаўленне за руплівую працу ў царкоўных школах[39].

Таксама Леў Савіцкі ўзнагароджваўся камілаўкай. 1 чэрвеня 1901 г. быў прызначаны памочнікам Лідскага дабрачыннага, але 6 верасня звольнены з пасады. Зразумела, што дзве нагэтулькі ўладалюбныя асобы, як Леў Савіцкі і Іосіф Каяловіч разам ужыцца не маглі.

Аднак з 10 студзеня 1902 г. прызначаецца духоўнікам Лідскага дабрачыння. 27 траўня 1907 г. узнагароджваецца наперсным крыжам, а 3 лютага - 1903 г. ордэнам св. Ганны 3 ст. Меў медаль "Усмирение польского мятежа 1863-1864 гг."

Нагадаю, што гэты медаль быў заснаваны ў 1865 г. і меў два варыянты: светла-бронзавы і цёмна-бронзавы, імі ўзнагароджваліся розныя групы асоб. Адчаканена каля 370 тысяч светла-бронзавых і больш за 230 тысяч цёмна-бронзавых медалёў. Насілі медаль на грудзях на бел-памяранцава-чорнай стужцы. Медалямі з цёмнай бронзы ўзнагароджваліся тыя прадстаўнікі духавенства, якія спрыялі спыненню паўстання.

Цікава, што Савіцкі якраз пачаў служыць у 1863 г., а наяўнасць гэтага медаля з высокай верагоднасцю можа сведчыць пра, мякка кажучы, асведамляльна-даносніцкую працу гэтага чалавека. Ніякіх дакументаў покуль не знойдзена, але, у непасрэднай блізкасці ад Савіцкага за агітацыю на карысць паўстання быў арыштаваны і расстраляны эканом маёнтка Вялікае Мажэйкава Лідскага павета Юльян Ляснеўскі[40], а ў яшчэ аднаго эканома гэтага ж маёнтка Аляксандра Марцінкевіча за "дачыненне да непарадкаў" была канфіскавана маёмасць[41]. Дрэнны медаль меў гэты святар.

Таксама Леў Савіцкі быў узнагароджаны медалём у памяць уравання Імператара Александра III, медалём у памяць 25-ці гадовага юбілею царкоўнапрыходскіх школ і срэбным знакам ад Імператарскага пажарнага таварыства[42].

Трэба заўважыць, што праз свае поспехі ў службе, на пачатку XX ст. а. Леў Савіцкі стаў багатым чалавекам, яму асабіста належала 300 дзесяцін зямлі[43].

Вярнуўшыся з бежанства, у 1923 г. Леў Савіцкі напісаў "Летапіс Маламажэйкаўскай царквы", у якім цікаўнасць мае апісанне стану царквы ў 1915 - 1923 гг. (гл. дадаткі).

Пры канцы трэба сказаць, што Леў Савіцкі быў пахаваны на могілках вёскі Аленкаўцы.

**Новае пра царкву ў Малым Мажэйкаве.** Калі я рыхтаваў кнігу пра Маламажэйкаўскую царкву, нейкі час ад яе апублікавання мяне стрымлівала тое, што ні ў адной беларускай бібліятэцы я не мог знайсці вялікага артыкула Юзафа Ядкоўскага, які ў свой час лічыўся базавым пра беларускія цэрквы-цвердзі. Зараз жа, уважліва вывучыўшы артыкул Ядкоўскага, уздыхнуў з палёгкай - ніякіх разыходжанняў паміж маімі ідэямі, выказанымі ў кнізе, і высновамі мэтра гісторыі няма.

Артыкул Ядкоўскага даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю[44] і таму перакажу некаторыя новыя для мяне моманты ў гісторыі Маламажэйкаўскай царквы, якія ўбачыў у яго тэксце.

Юзаф Ядкоўскі пісаў: *"Маламажэйкаўская царква, называецца "Мураванай" ці проста, як завуць яе сяляне, "Мураванкай"*. З тэксту бачна, што Ядкоўскі працаваў у архіве Маламажэйкаўскай царквы і сам бачыў тыя дакументы, пра якія пісаў Леў Савіцкі. Пра заснаванне царквы гісторык паведаміў, што ў архіве плябаніі меўся дакумент 1542 г. (я апублікаваў яго ў маёй кнізе). У адрозненні ад Савіцкага, які надрукаваў гэты дакумент наблізіўшы да сучаснай яму рускай граматыкі, Юзаф Ядкоўскі надрукаваў дакумент на аўтэнтычнай старабеларускай мове.

Каментуючы святкаванне 500-годдзя царквы ў 1907 г., Ядкоўскі называе Савіцкага *"мясцовым "даследчыкам""*, прычым слова *"даследчык"* бярэ ў двукоссі, таксама ў двукоссі ён бярэ і слова *"даследаванне"* ў дачыненні да працы Савіцкага[45]. Ядкоўскі пісаў, што Льву Савіцкаму немагчыма даравацьфальшаванне даты заснавання царквы з наступным святкаваннем несапраўднага 500-годдзя, бо святар меў сапраўдныя дакументы, чытаў і добра ведаў іх[46]. Нават у Кліравых ведамасцях за 1844 г., якія былі ў распараджэнні Савіцкага, напісана, што царква *"пабудавана ў 1542 г. абшарнікам Шымкам Мацкавічам з маёнтка Вялікае Мажэйкава"* [47]. Гэты фрагмент ведамасцей я ўжо друкаваў вышэй. Такім чынам святар пайшоў на

[34] ЛЕВ. 1886. № 39. С. 364.
[35] ЛЕВ. 1889. № 22. С. 177.
[36] ЛЕВ. 1894. № 13. С. 107.
[37] ЛЕВ. 1895. № 42. С. 390.
[38] ЛЕВ. 1897. № 9. С. 73.
[39] ЛЕВ. 1899. № 51. С. 556.
[40] Матвейчык Д. Ч. Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў біяграфічны слоўнік. Мінск, 2016. С. 353.
[41] Матвейчык Д. Ч. Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў біяграфічны слоўнік. С. 375.
[42] Вестник Виленского Св. Дух. Братства. 1914. № 12. С. 278.
[43] Виленские губернские ведомости. 1912. № 61.
[44] Гл: Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности. Труды комиссии по сохранению древних памятников. Москва, 1915. Т. 6. С. 245-311.
[45] Там жа. С. 271-273.
[46] Там жа. С. 279.
[47] ДГАЛ. Ф. 695. Воп. 6. Спр. 87. Клировые ведомости Лидского уезда за 1844 г. Арк. 41 - 41 адв.

свядомы падлог з мэтай даказаць яшчэ большую "ўкаранённасць" сваёй канфесіі ў нашым краі і такім чынам абгрунтаваць яе асаблівыя правы. З псіхалагічнага боку гледжання такія паводзіны святара якраз кажуць пра яго глыбокую асабістую няўпэўненасць у гэтым праве.

Ядкоўскі справядліва ўказвае на тое, што нават сама архітэктура храма дазваляе датаваць яго першай паловай XVI ст.[48] Тое, што Савіцкі "састарыў" царкву на 100 гадоў і лічыў сабе знаўцам гісторыі, якому гэта сыдзе з рук, кажа пра глыбокае, фундаментальнае неразуменне ім праблемы як з гістарычнага, гэтак і з мастацтвазнаўчага боку. Пры тым, што Леў Савіцкі, як я пісаў вышэй, вельмі ганарыўся сваёй, па-сучаснаму кажучы, сярэдне-прафесійнай адукацыяй і, верагодна, з яго боку гледжання, каб "састарыць" царкву, дастаткова было толькі ўжыць моцны на той час адміністрацыйны рэсурс, якім валодала яго канфесія. Дарэчы, у нейкай ужо сучаснай, таксама канфесійнай кнізе пра Сынкавіцкую царкву (назву кнігі і аўтараў, з-за нецікавасці, не памятаю), дата пабудовы Сынкавіцкай царквы таксама даецца на 100 ці нават болей гадоў старэйшай за рэальную. Як бачым, адносіны гэтых людзей да навуковых ведаў не патрабуюць каментарыяў, і пра нейкую каштоўнасць такога кшталту кніг, выдадзеных у наш час, таксама можна не казаць.

Але вернемся да гісторыі царквы. Юзаф Ядкоўскі ўдакладняе, што інфармацыя пра напад казакаў на Маламажэйкаўскую царкву ў 1655 г., падчас вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй, калі быў забіты святар Фядосі Варатынскі, спалена забудова плябаніі, разрабаваны царкоўныя рэчы і раскіданы богаслужбовыя кнігі, выкладзена ў дакуменце пад назвай "List podawczy plebany Mozejkowskiey … X. Rozycowi po zamerdowaniu Przewielebnego Xiedza Worotyskiego … przez Moskwe na ten czas grasujaca". Пасля рабавання ў царкве засталіся толькі ўніяцкія рызы святара, тры срэбныя пазалочаныя чашы з пры-борам (адна з чаш была закладзена Фядосіем Варатынскім, каб заплаціць падатак ў памеры 10 коп літоўскіх грошаў для найму жаўнераў у наша войска), срэбны крыж, які меў назву "Можа", старажытнае рукапіснае Евангелле (гэта Евангелле ў 1864 г. у Вільню запатрабаваў Мураўёў-вешальнік, і, дзе яно зараз знаходзіцца, невядома, аднак па меркаванні Ядкоўскага, гэта кніга ў яго часы знаходзілася ў Пецярбургскай Публічнай бібліятэцы пад № 15 і пад № 26.) Іншыя богаслужбовая кнігі былі падабраныя ў полі дзякам пасля таго, як казакі пайшлі. Аднак кнігі былі не цэлыя: Апостал быў без пачатку і канца, знойдзены чатыры кнігі Міней і г. д.[49]

На пачатку XX ст. захоўваўся дакумент ад 1664 г., у якім справа ідзе пра нявыдачу дзесяціны з маёнтка Красулі, святар Фёдар Гладкевіч пачаў патрабаваць дзесяціну ад абшарніка Нарушэвіча і ў 1673 г. дабіўся абяцання выплаты належнай дзесяціны ў дамоўлены тэрмін.

Каля 1717 г. як маламажэйкаўскі святар згадваецца Баеўскі.

У канцы XVIII ст. пагоршыліся стасункі паміж святаром Міцкевічам і цыбарскім старастам Казімірам Кастравіцкім. Кастравіцкі загадваў разганяць сялян, якія служылі ў святара, забраў 1 валоку зямлі і сенакосу на 15 вазоў, святара не пускаў ў царкоўны двор. Міцкевіч жаліўся на абшарніка лідскаму земскаму спраўніку, і Кастравіцкага выклікалі ў Ліду, але ён не з’явіўся, і справа не была вырашана. Як я пісаў у сваёй кнізе, прычынай такіх адносінаў абшарніка, верагодна, былі абуральныя паводзіны а. Андрэя Міцкевіча. Цікава, што пры а. Андрэі Міцкевічы ў царкве з'явіўся арган[50].

На пачатку XIX ст. Маламажэйкаўская царква знаходзілася ў сумным стане. Вось што пісаў візітатар Антон Наленч Тупальскі ў акце візітацыі ад 1804 г.: "Cerkiew Malo-Mozeykowska, doprowadzona jest do tego stopnia ruiny, w ktorem powinna byc interdykowana …". Таму вясной таго ж года было вырашана пачаць рамонт царквы, бо, як бачым, ёй пагражала закрыццё. Ужо ў 1811 г. візітатар знайшоў у царкве 4 новыя акны, вялікі алтар, дараносіцу, пафарбаваную ў белы колер з пазалочаным слупком і звон вагой каля 30 пудоў. Ядкоўскі адзначае, што на пачатку XX ст. гэтага звона няма, і невядома, куды ён знік.

У 1817 г. калятар царквы Кастравіцкі вырашыў пачаць рамонт, але невядома, што канкрэтна рамантавалася. Савіцкі даводзіў, што тады быў паніжаны царкоўны дах, пастаўлены новыя бэлькі і зроблена падлога з цэглы. Рамонт рабіўся на сродкі, якія былі атрыманы за здадзеныя ў арэнду царкоўныя землі.

Ядкоўскі лічыў, што падчас апошняга рамонту і перароблі 1871 - 1872 гг. царква страціла свой гістарычны твар і аднавіць яго вельмі цяжка. Тады заходнія вежы былі ўзняты на 1 сажань, у адной з іх зроблена званіца, атынкаваныя і пафарбаваныя ў цёмна-чырвоны колер неатынкаваныя да гэтага часткі царквы (відочна, для ўзмацнення кантрасту). Ва ўсходніх вежах зламаныя хады і зроблена рызніцы, замест старой, цаглянай зроблена драўляная падлога і, самае цікавае, у алтары пастаўлена нікому непатрэбная печка з жалезнай трубой, якая выходзіла вонкі з байніцы паўднёва-ўсходняй вежы, Ядкоўскі піша, што гэтая труба *"крычала пра вандалізм"* [51].

Усе 4 вежы раней мелі аднолькавую канструкцыю, былі на 2 сажні вышэй за бакавыя царкоўныя сцены і мелі вінтавыя лесвіцы з выхадам на іх з царквы. Ва ўсходніх вежах гэтыя лесвіцы былі разабраныя (пры Савіцкім) і ў іх зроблены рызніцы. Падчас рамонту 1871-72 гг. заходнія вежы былі паднятыя на 1 сажань, і ў адной з іх зроблена званіца.

У былыя часы званіца знаходзілася на цар-

[48] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 279.
[49] Там жа. С. 279 - 280.
[50] Там жа. С. 281.
[51] Там жа. С. 282.



коўным пагосце, гэта бачна з рукапісу "Podanie cerkwi Mozeykowskiey" ад 1801 г., у якім чытаем: *"Званіца на чатырох слупах, крытая гонтай, на ёй два невялікія званы"*. У 1809 г. напісана пра новапабудаваную званіцу і ўсталяванне звона ў 30 пудоў. На пачатку XX ст. у званіцы меліся 4 званы, адзін з іх з надпісам "IEZUS ET MARIA SONET IN CORDIBVS NOSTRIS ANNO 1732".

Новыя крыжы на царкве ўсталяваны ў 1871 г.

На пярэдніх, заходніх вежах, ва ўніяцкія часы меліся дзве жалезныя фігуры анёлаў - адзін з мячом, а другі з трубой, гэта былі флюгеры, якія паказвалі напрамак ветру. Як у вежах, гэтак і ў сценах, вышэй царкоўных вокнаў маюцца байніцы. У вежах раней былі байніцы ў тры шэрагі, зараз шмат з іх замуравана. Асабліва цікавыя байніцы меліся ў заходніх вежах[52].

Існаванне паміж дахам і скляпеннямі вольнай прасторы давала магчымасць пераходзіць з вежы ў вежу падчас бою і мець доступ да байніц. Юзаф Ядкоўскі адзначыў, што круглае гатычнае акно-ружу мае яшчэ толькі Супрасльскі сабор.

Ядкоўскі не выключаў, што галоўныя вокны Маламажэйкаўскай царквы былі расшыраны на пачатку XIX ст. пры рамонце. Аконныя пралёты расшыраюцца як унутр, гэтак і вонкі, прычым падваконнікі маюць ухілы, што прадухіляе зацяканне вады[53].

Паўцыркульныя вокны Маламажэйкаўскай



***Малюнкі Пятрова да перабудовы царквы Савіцкім, 1866 г.***

[52] Иодковский И. И. Церкви, приспо-собленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 283.

[53] Там жа. С. 285.



***Жалезная труба, якая выходзіла вонкі з байніцы паўднёва-ўсходняй вежы Маламажэйкаўскай царквы, якая па-словах Юзафа Ядкоўскага "крычала пра вандалізм"***



***Абраз Маці Божай у прытворы, Юзаф Ядкоўскі вызначыў, што гэта абраз XVII - XVIII стст.***

царквы з'явіліся пад уплывам форм рэнесансу, але сам спосаб апрацоўкі вокнаў застаўся яшчэ гатычны.

Уваходны пралёт царкоўных дзвярэй апраўлены двума выступаючымі валікамі, якія пачынаюцца знізу і заканчваюцца ўверсе формай какошніка з крыжам. Юзаф Ядкоўскі лічыў, што ўваходны партал Маламажэйкаўскай царквы нагадвае партал (porta della carta) палаца дожа Фрачэска Фаскары ў Венецыі (Palazzo Foscari), які быў пабудаваны ў сярэдзіне XV ст. Зараз партал знаходзіцца ўнутры царквы з-за потым дабудаванага царкоўнага прытвора.

Юзаф Ядкоўскі пісаў, што сцяна, якая ў выглядзе слупа з пралётам аддзяляе алтар ад цэнтральнай часткі храма, верагодна, была дабудавана потым, пасля пабудовы храма. Бо, па-першае, яна рэзка вылучаецца ў тых месцах, дзе ўпіраецца ў арку прычым добра бачна правільны абрыс старажытнай паўцыркульнай аркі, і, па-другое, у візітацыі 1796 г. напісана, што *"вялікі алтар некалі быў за Царскімі варотамі"*. А ў "Podanie cerkwi Mozeykowskiey" ад 1801 г., якое захоўвалася ў архіве царквы, напісана: *"Вялікі алтар некалі быў за пафарбанымі Царскімі варотамі сталярнай работы з абразом Найсвяцейшай Панны Марыі. На прастоле даранасіца сніцарскай работы на два паверхі, пафарбаваная ў чорны колер. Падобных алтароў чатыры, з іх першы з новым абразом Усіх Святых. Другі з абразом Св. Юрыя ..., трэці з абразом Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Трэці з фігурай знятага ўкрыжаванага Збаўцы"*. Прастол у царкве, некалі быў квадратны, мураваны[54].

Ядкоўскі адзначае, што ніхто не зафатаграфаваў ці замаляваў магільны камень з надпісам "Христовъ рабъ Іерей Авраамъ" і год "1469". Леў Савіцкі патлумачыў Ядкоўскаму, што не памятае, якімі лічбамі была запісана дата. Але Савіцкі пацвердзіў, што гэты помнік быў пакінуты на месцы, г. зн., пад падлогай царквы.

У царкве знаходзіліся 2 шанаваныя абразы Божай Маці, адзін мясцовы, па левы бок Царскіх варот, другі ў асобым кіёце быў перанесены з ранейшай царквы ў Воўчынках. Юзаф Ядкоўскі заўважыў, што ў мастацкім сэнсе абодва абразы не маюць каштоўнасці. Гэта няўмелыя копіі, намаляваныя, верагодна, мясцовым майстрам не раней за XVIII ст.Ваўчынскі абраз меў надпіс на рызе: "JEZVS MARYA IOZEF KRZISZTOF OWSIANY KATARZINA OWSIANY".

Больш цікавы абраз быў у царкоўным прытворы. Гэты абрах невялікага памеру (34 х 43 см), напісаны на дошцы. На светлым фоне намалявана Божая Маці ў кароне, якая трымае правай рукой Немаўля, а ў левай руцэ трымае тры кветкі. Ядкоўскі вызначыў, што гэты абраз добрай заходняй работы XVII - XVIII стст.[55]

Захавалася апісанне Воўчынскай філіяльнай царквы ад 1801 г.: *"Царква ў Воўчыне ў маёмасці Вялебнага Пана Паплаўскага, каморніка Лідскага павета. Пабудавана з дрэва, унутры атынкаваная, крытая гонтай, з адным купалам ... Алтар прыстойна аздоблены, з абразом Панны Марыі, на ім срэбная шата і месяц пад нагамі"*. Царква была прададзена яўрэям пад лазню і перавезена ў мястэчка Васілішкі[56].

[54] Иодковский И. И. Церкви, приспо-собленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 286.

[55] Там жа. С. 288.

[56] Там жа. С. 289.

***Дадаткі***

**Летапіс Маламажэйкаўскай царквы, Лідскага дабрачыння за 1923 г.**

...

Маламажэйкаўская царква да Сусветнай вайны была цалкам уладкавана. Але за час вайны царква падвяргалася рабункам і блюзнерству. Немцы, заняўшы нашу мясцовасць у верасні 1915 г., зрабілі ў царкве склад правіянту. З алтара вынесены святы прастол і ахвярнік, і тут пачалі ссыпаць зерне. Потым у царкве ўтрымліваліся ваеннапалонныя, якія бясчынствавалі і нішчылі богаслужбовыя і царкоўныя кнігі, дакументы і бібліятэку. Акрамя таго былі зняважаны святыя абразы, напрыклад абраз "Тайная вячэра" над царскімі варотамі мае пяць дзюрак ад рэвальверных стрэлаў, а абраз Збаўцы і Дабравешчання па адной гэтакай дзюрцы. Дах царкоўнай мураванай агароджы, а таксама брама і дзве брамкі сарваныя.

Увесну 1920 г. калі я вярнуўся ў прыход з 4,5 гадавых уцёкаў, Маламажэйкаўская царква была зачынена мясцовай польскай уладай, і службы ў ёй не вяліся. Таму я быў прымушаны клапаціцца і пасля пяцідзённых старанняў, даказаўшы старажытнасць ... Маламажэйкаўскай царквы, атрымаў неабходны дазвол ад польскіх уладаў, якія накіравалі мяне да Лідскага старасты, які выдаў дазвол адчыніць царкву і служыць у ёй.

Сумны від меў старажытны храм унутры: прастрэленыя абразы, драўляная падлога ў алтары і каля сцен сапсаваная падчас ссыпкі і захавання зерня, тынкоўка і афарбоўка сцен сапсавана ваеннапалоннымі, якія ўтрымліваліся ў царкве. Акрамя таго, усе лепшае царкоўнае начынне разам з богаслужбовымі і метрычнымі кнігамі, якія былі восенню 1915 г. падчас агульнай эвакуацыі адасланыя па камандзе епархіяльнага начальства ў Маскоўскую сінадальную кантору, а таксама эвакуяваныя пяць званоў, да гэтага часу не вернуты, і невядома, дзе знаходзяцца. Зараз звана на званіцы няма (верагодна маецца на ўвазе адна з фасадных вежаў царквы - *Л. Л.*).

У наш час царква патрабуе рамонту як звонку, гэтак і знутры: рамонту атынкоўкі вонкавай сцяны, асабліва франтальнай часткі і вежаў, афарбоўкі сцен і дахаў чатырох вежаў, а ўнутры - афарбоўкі столі і сцен, рамонту падлогі ў алтары.

З царкоўнага начыння захавалася самае старое, але і яно сапсаванае пацукамі. Богаслужбовых кнігі, акрамя Апостала, двух Актоіхаў святочнай Мінеі, няма.

Збудаваныя ў 1901 г. пабудовы прычту спалены датла рускімі войскамі ўвосень 1915 г. Ацалеў толькі адзін дом святара, але і ён за час вайны даведзены да запусцення і патрабуе капітальнага рамонту. З пабудоў псаломшчыка захаваўся толькі жылы дом і свіран, але і свіран напаўразбураны.

Летам 1923 г. польская ўлада зрабіла абмер царкоўнай зямлі і з 63 дзесяцін пакінула прычту толькі 33 дзесяціны, астатняя зямля адышла да скарбу. Гэтым прычту нанесена непапраўная грашовая шкода.

7 жніўня царкву наведаў Высокапраасвяшчэннейшы архіепіскап Віленскі і Лідскі Феадосій, які рэвізаваў лідскія цэрквы. Ён звярнуў асаблівую ўвагу на старажытны храм і падрабязна яго агледзеў.

***а. Леў Савіцкі.***



***Маламажэйкаўская царква ў 1899 ці 1900 г.***



***Маламажэйкаўская царква каля 1910 г.***

# "МАЕ БАЦЬКІ ПРАЦАВАЛІ Ў ПАНА ГЕНЕРАЛА І ПАНІ ГЕНЕРАЛОВАЙ… "

## *Па слядах жыцця і гаспадарчай дзейнасці генерала К. Кандратовіча і яго сям'і ў маёнтку Гародна*

### I. Уводзіны

Генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч прайшоў слаўны жыццёвы шлях. Удзельнічаў у чатырох войнах (руска-турэцкай, руска-японскай, задушэнні паўстання баксёраў у Кітаі, Першай сусветнай). Атрымаў вышэйшае ў Расійскай імперыі вайсковае званне (генерал ад інфантэрыі). У час службы ў 1918 г. у тагачасным Менску зблізіўся з беларускімі патрыётамі. Стаў генералам Беларускай Народнай Рэспублікі. Арганізоўваў беларускае войска (*А. Краўцэвіч, 2018*), удзельнічаў у Парыжскай мірнай канферэнцыі (*Г. Семянчук, 2018*), дзе бараніў права беларускага народа на стварэнне ўласнай дзяржавы. БНР была абвешчана юрыдычна, але фактычна дзяржаву тады стварыць не ўдалося (*А. Краўцэвіч, 2018*).

У сувязі са стогадовым юбілеем БНР і БССР з'явіўся шэраг публікацый аб жыцці і дзейнасці генерала Кандратовіча ў газеце ТБМ "Наша слова". Аўтары - вядомыя лідскія даследчыкі Лявон Лаўрэш, Станіслаў Суднік. Было апублікавана інтэрвію з Уладзімірам Круцікавам. Выйшла ў свет кніга лідскага краязнаўца і гісторыка Лявона Лаўрэша "Генерал які дайшоў да Беларусі". Былі зняты і паказаны: папулярная тэлевізійная перадача Юрыя Жыгімонта "Падарожжа дылетанта. Пагародна", кранальны фільм гарадзенскага прафесара Алеся Краўцэвіча "Ён выбраў свой народ". У інтэрнэце інфармацыя аб генерале К. Кандратовічы знаходзіцца на сайтах www. pawet.net, www.radzima.org і інш. Многія старонкі жыцця і дзейнасці генерала Кіпрыяна Кандратовіча даследаваны, але засталося шмат белых плямаў.

Мы павінны быць удзячнымі тым гістарычным дзеячам, якія стаялі ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Выяўленне кожнай новай падрабязнасці з іх жыцця і дзейнасці, жыцця і дзейнасці іх сем'яў - заўсёды актуальная тэма. Тым больш, што лёс многіх бацькоў-заснавальнікаў беларускай дзяржавы быў трагічным. Магіла ген. К. Кандратовіча была закінута і забыта на доўгія дзесяцігоддзі. Беларуская нацыянальная памяць - святое.

Адна з белым плям - падрабязнасці жыцця і гаспадарчай дзейнасці генерала і яго сям'і (да і пасля смерці К. Кандратовіча ў 1932 г.) у 1920-30-ыя гг. (XX ст.) у маёнтку Гародна, што ў сучасным Воранаўскім раёне Гарадзенскай вобласці [12, с. 48].

Па сутнасці тэмы знойдзена тры ўспаміны. На сайце www.pawet.net успаміны Уладзіслава Струкеля - былога памочніка садоўніка маёнтка [16, с. 51], а таксама вядомага мастака, рэстаўратара, гісторыка мастацтва і дацэнта Віленскага ўніверсітэту Ежы Хапэна, або Ежы Шапэна (Jerzy Choppen, 1891-1969). Ва ўспамінах Ежы Хапэна згадваецца адзіны ў Гародне тэлефон у палацы (№ 3), аўтамабілі: амерыканскі і польскі, а таксама вялікая альтанка на мураваных калонах у канцы рэгуляванага става ды мураваныя лавы і старыя каштанавыя алеі. У газеце "Наша слова" апублікаваны ўспамін былой пакаёўкі ў гаспадарцы ген. К. Кандратовіча [17, с. 51].

Мэта даследавання: устанаўленне элементаў побыту і гаспадарчай дзейнасці сям'і К. і А. Кандратовічаў у маёнтку Гародна ў 1920-30-ыя гг. XX ст., а таксама выяўленне месцазнаходжання палаца, частак парку, гаспадарчых пабудоў і інш. на тэрыторыі маёнтка (дакладна або прыкладна).

Задача: па ўспамінах нашчадкаў працаўнікоў, па зласных здымках сям'і Кандратовічаў, карцінах у палявым даследаванні выявіць элементы побыту і гаспадарчай дзейнасці сям'і Кандратовічаў. На падставе аналізу і сінтэзу атрыманай інфармацыі ўстанавіць дакладнае або прыкладнае месцазнаходжанне палаца, гаспадарчых пабудоў, саду, агароду і алеяў парку сям'і Кандратовічаў.

**Узроўні даследавання** - выяўленне асоб, рэканструкцыя элементаў соцыюму (побыт і гаспадарчая дзейнасць).

**Адзінкі даследавання** - асоба, мясцовы (лакальны) соцыюм.

**Прадмет даследавання** - элементы побыту, галіны гаспадаркі.

**Аб'екты даследавання** - асобы, соцыюмы.

**Спосабы даследавання:**

1. Даследаванне літаратуры, карт, тэледэтэкцыі і інтэрнэтных рэсурсаў.
2. Апытанні жыхароў в. Пагародна.
3. Збіранне вуснай гісторыі ў в. Пагародна (паводле лекцый і прыкладаў праф. А. Смалянчука). www.fly-uni.org › ales-smalyanchuk, https://eurobelarus.info › society › 2014/03/03, 01. Уводзіны ў вусную гісторыю (27. 03. 2015), Прафесар Алесь Смалянчук у гасцях на TUT BY (2011).
4. Палявое даследаванне матэрыяльнай спадчыны (рэшткі парку і навакольных пабудоў, каплічкі).

**Гіпотэзы.**

1. З элементаў побыту найбольш верагодна ўстанавіць віды работ і адпачынку працаўнікоў сям'і Кандратовічаў, а таксама рабочае і святочнае адзенне работнікаў.

2. Сям'я К. Кандратовіча хутчэй займалася многімі галінамі сельскай гаспадаркі. З раслінаводства: вырошчваннем зерневых культур (жыта, пшаніцы), бульбы, садаводствам (яблыкі, грушкі, вішні, сліўкі), агародніцтвам (цыбуля, часнык, агуркі, памідоры), вырошчваннем тытуню. З жывёлагадоўлі:

гадоўляй буйной рагатай жывёлы, свінагадоўляй, птушкагадоўляй, конегадоўляй.

**II. Асноўная частка**

**Ход даследавання:**

I. Даследаванне пачалося са знаёмства з агульнай даступнай інфармацыяй (з энцыклапедый, кніг, газет, карт і інтэрнэтрэсурсаў). Яны выкладзены ва ўводзінах і літаратуры.

II. Першая паездка ў в. Пагародна пачалася са знаёмства з інфармацыяй у Пагародненскай бібліятэцы. Там было ўказана імя і прозвішча былой работніцы ў гаспадарцы ген. К. Кандратовіча Зофіі Азяроўскай. Апытанне жыхароў в. Пагародна дало вынікі. У Пагародне жыве яе дачка Ганна Браніславаўна Лінга (дзявочае прозвішча Азяроўская). Спосабам збірання вуснай гісторыі атрымалі: змястоўны расповед Ганны Браніславаўны Лінгі, фотаздымкі з сямейнага архіва Кіпрыяна і Ады Кандратовічаў, якія прывёз з Лондана іх унук Юры [1, с. 16; 6, с. 20; 8, с. 30; 9, с. 34].

III. Другая паездка ў Пагародна дала наступныя вынікі. Пагародзенцы нам падказалі, што продкі (бацькі) Зыгмунта Матоніса, Яніны Банкоўскай і Ірэны Козел працавалі ў сям'і ген. К. Кандратовіча. Атрымалі расповеды [2-4, с. 16-19].

IV. У выніку трэцяй паездкі быў даследаваны фрагмент парку XVIII ст. Паводле расповедаў вышэйназваных жыхароў было ўстаноўлена месца знаходжання палаца ген. К. Кандратовіча, знойдзены рэшткі пабудовы для захоўвання насення, падмуркі для бурта, сад з 1920-30-ых гадоў, а таксама алеі. Зроблены фотаздымкі адпаведных аб'ектаў [10д-ж, с. 39-41; 10л-м, с. 45].

V. У чацвёрты раз мы (падчас імшы ў пагародненскай капліцы) ўбачылі каплічку знутры і (на цэнтральным алтары) гістарычны крыж, які захоўваўся на гарышчы дома Ірэны Козел [10к, с. 44], а таксама абраз, што захоўваўся дома ў Галіны Галіцкай. Зрабілі фотаздымкі каплічкі звонку і знутры [10а, с. 35; 10н, с. 46] Аднак з-за таго, што крыж і абраз не асветлены збізку, а ўвосень у капліцы быў змрок, - у нас не было магчымасці іх сфатаграфаваць. Асобы старэйшага пакалення нам распавялі пра Галіну Галіцкую, аднак мы не засталі яе дома.

VI. Пятая паездка была і выніковай, і не. Мы запісалі ўспамін Галіны Галіцкай [5, с. 19] і не запісалі самы важны ўспамін - пані Марысі. Ад Галіны Галіцкай мы даведаліся пра паню Марысю. Пані Марыся - апошняя жыхарка Пагародна, якая працавала ў пана генерала і пані генераловай. Як сказаў нам унук - пані Марыся знаходзіцца ў Вільні ў дачкі, і яе прывязуць аж у пачатку лютага 2020 г.

VII. Падчас камеральнай апрацоўкі вынікаў даследаванняў было ўстаноўлена:

1. Адзенне, што насілі людзі ў гаспадарцы Кіпрыяна і Ады Кандратовічаў у 1920-30-ыя гг.:

а) У час працы. Жанчыны насілі хусткі, кашулі, доўгія спадніцы. Часта былі без абутку. Спераду на спадніцы завязвалі фартухі [6в, с. 22; 6з, с. 24; 8в, с. 31]. Мужчыны - кашулі, порткі, часам кепкі [6к, с. 25]. Пакаёўка апранала сінюю сукенку, белы фартушок, чорныя панчошкі, завязвала белую хустачку. Ада Кандратовіч на карціне - у, верагодна, цёмна-сіняй сукенцы [8а, с. 30].

б) У час свят. Жанчыны завязвалі хусткі, апраналі кашулі, спадніцы, нават сукенкі. Абувалі боцікі [6і, с. 25; 8б, с. 31]. Юная Верачка Кандратавічаначка на фотаздымку апранута ў сукенку, трымае на руцэ плашч, абута ў туфлі, хутчэй за ўсё, на высокіх абцасах [6б, с.21]. На кані апранута ў порткі і, хутчэй за ўсё, у дзявочы пінжачок [6к, с. 25]. Юныя дзяўчаты хустак звычайна не насілі. Апраналі кашулі, спаднічкі, фартушкі, нават сукенкі. Мужчыны на святы апраналіся ў гарнітуры (касцюмы). Узімку апраналі кажухі. Тое бачна на фотаздымку калядавання [6ж, с. 24; 6і, с. 25; 6е, с. 23].

2. Элементы побыту:

а) праца на жніве: жалі сярпамі [6з, с. 24];

б) пры складанні стога: салому і сена насілі, хутчэй за ўсё, віламі (сахарамі), трымалі ўверсе над галовамі, падавалі наверх віламі. Тронкі былі, хутчэй за ўсё не доўгія [8д, с. 33];

в) праца пакаёўкі: прыбіранне ў пакоях, раздача ежы на стол [17, с. 51];

г) пры выпасе кароў і коней: гналі на пашу аж пад вёску Жусіны, дзе пасвілі і адкуль прыганялі на ноч у кароўнік [5, с. 19];

д) адпачынак: танцы [8б, 31];

і) калядаванне [6е, 23];

к) паездка ў касцёл св. Юрыя (в. Асава) [15, с. 50].

3. Месцы (дакладна або прыкладна), дзе размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы і палеткі з гаспадаркі К. і А. Кандратовічаў, месцы адпачынку, а таксама дамы работнікаў - чвартакі і іншае (гл. тэледэтэкцыю):

**Умоўныя абазначэнні:**

1. Палац. Не захаваўся. Быў спалены ў час Другой сусветнай вайны. Усе сведкі кажуць, што на гэтым месцы пабудаваны будынак.

2. Капліца. Пасля Другой сусветнай вайны яе разбурылі. Засталіся толькі сцены. Была адбудавана, аднак вонкавы і ўнутраны выгляд спрацаваўся.

3. Дом для прыслугі. Разбураны. Не адноўлены.

4. Алея. Ліпы былі спілаваны. Вяла з палаца да шашы Гародня - Тракелі і далей.

5. Чвартакі. Шэсць чвартакоў - дамоў, у якіх жылі работнікі (знаходзіліся па абодва бакі збоку і спераду ад палаца) былі знесены.

6. Ферма. Не захавалася. Знаходзілася справа ад параднага ўваходу ад палаца. На тым месцы пабудовы: дом і хлеў.

7. Сад.Знаходзіўся па левы бок ад палаца і парку. Засталіся старыя дрэвы, магчыма, пасаджаныя пазней. Каб палічыць колькі год дрэвам, патрэбна спілаваць адно старое дрэва і палічыць колькасць колаў прыросту.




8. Склад. Засталіся сцены і заваленыя бэлькі. Падмурак, магчыма, ад іншага склада або парніка.

9. Агароды. Не захаваліся. Прыкладна займалі прамежкі паміж алеямі.

10. Лядоўня. Не захавалася. Гіпатэтычна знаходзілася з левага боку ад парку або ля фермы.

11. Возера. Захавалася. Паводле ўспамінаў пагародненцаў у 1980 гг. бабры валілі ў яго дрэвы. Было рашчышчана ад дрэў.

13. Дарожка ў парку. Захавалася.

14. Альтанка. Не захавалася. Лаўкі не захаваліся.

15. Алеі. Не захаваліся. Зараслі падростам. Магчыма, змяніўся відавы склад дрэў.

16. Магіла Веры Рэйней, або Рэйні (Кандратавічанкі).

### III. Заключэнне

Нашы гіпотэзы ў асноўным пацвердзіліся. Па ўспамінах, фотаздымках і карцінах, а таксама падчас палявых даследаванняў нам удалося ўстанавіць віды работ і адпачынку як работнікаў гаспадаркі маёнтка, так і гаспадароў, устанавіць іх знешні выгляд, а таксама тыя галіны найперш сельскай гаспадаркі, якія былі прадстаўлены ў гаспадарцы К. і А. Кандратовічаў.

Жыццё генерала Кіпрыяна Кандратовіча і яго сям'і ў маёнтку Гародна ў 1920-30-ыя гады слаба вывучаная тэма. Былыя работнікі Кіпрыяна і Ады Кандратовічаў памерлі. Засталіся іх нашчадкі. Гэта людзі старэйшага ўзросту. Мы доўга шукалі такіх асоб.

Яшчэ дваццаць-дзесяць год таму жылі людзі, якія працавалі ў гародзенскай гаспадарцы. У працэсе далейшых пошукаў мы паспрабуем знайсці нашчадкаў Лебедзя, нашчадкаў пані Адаміцкай, якая дапамагала гадаваць дачку генерала Веру, нашчадкаў іншых асоб, што працавалі ў беларускага патрыёта за польскім часам. Пошукі працягваюцца…

Надзвычай уразіла тое як добра адзываліся нашчадкі работнікаў гаспадаркі генерала К. Кандратовіча аб тых, хто даваў працу іх бацькам [1-5, с. 16-19]. Нямала з іх было беззямельных сялян. У ваколіцы, нам

казалі, хадзілі пагалоскі пра добрых пана генерала і пані генераловай. Таму да яго працаваць прыехалі продкі Ірэны Козел з Івейшчыны, а Галіны Галіцкай - з-пад Салечнікаў. Ці мог не любіць нашых людзей той хто змагаўся за тое, каб нашы продкі мелі сваю дзяржаву? Ці мог ненавідзець іх той хто выбраў іх - свой народ? Пытанне рытарычнае…

Галоўнае, што мы даведаліся аб тым, што генерал Кіпрыян Антонавіч Кандратовіч быў выбітным дбайным гаспадаром [6, с. 20-27: 8, с. 30-33]. Ён працягнуў традыцыю нашых славутых землякоў Тодара Нарбута, Францішака Багушэвіча і Вандаліна Шукевіча. Пасля яго ў другой палове XX ст. такім жа выбітным гаспадаром у Доцішках стаў Франц Казлоўскі.

У будучыні магчыма аднаўленне палаца і пабудоў.

Нам важна знайсці былога святара воранаўскай праваслаўнай царквы, адшукаць адрас унука Кіпрыяна і Ады Кандратовічаў Юрыя з Вялікабрытаніі, сабраць сродкі на добры помнік генералу К. А. Кандратовічу і г. д.

Захаваўся вершаваны наказ беларускім жаўнерам ад імя генерала К. Кандратовіча:

*Не заб'юць Пагоню і не спыняць,*
*І Беларусь не запалоняць,*
*Не знішчаць нас, не забароняць,*
*Жаўнеры ёсць. Ёсць ваяры.*
*Ёсць абаронцы.*

Гэта яго наказ нам - нашчадкам.

Бацькам-заснавальнікам БНР і БССР знакаміты беларускі рок-спявак Лявон Вольскі прысвяціў сваю песню "Героі не паміраюць". У ёй ёсць наступныя радкі:

*Героі не паміраюць.*
*Яны нас не пакідаюць.*
*У свеце слаты ды імжы.*
*Героі не паміраюць.*
*Яны ў душы нам заглядаюць.*
*І ў душах працягваюць жыць.*

Я веру, што ў будучыні будзе адбудаваны палац генерала К. Кандратовіча. У ім паўстане музей прысведчаны жыццю і дзейнасці нашага земляка і яго сям'і - чалавека, які глядзеў на дзесяцігоддзі наперад. Пры ўласным жыцці ён не дачакаўся паўстання беларускай дзяржавы. Прайшлі дзесяцігоддзі. У 1990-91 гадах мара жыцця генерала Кіпрыяна Кандратовіча споўнілася. Беларусь стала суверэннай дзяржавай.

**Літаратура:**

1. Лаўрэш, Л. Генералы БНР / Л. Лаўрэш // Наша слова. 2018. - 31 студз. - С. 6.

2. Суднік, С. У мясцінах Кіпрыяна Кандратовіча / С. Суднік // Наша слова. - 2018. - 14 лют. С. 8.

3. Лаўрэш, Л. Стэнаграма відэазапісу (зроблены з Рулько Г. А. былой пакаёўкай Кандратовічаў). Відэазапіс захоўваецца ў Пагародненскай сярэдняй школе / Л. Лаўрэш // Наша слова. - 2018. - 14 лют. С. 8.

4. Лаўрэш, Л. Ён прыйшоў да Беларусі /Л. Лаўрэш. - Мінск: Технопринт, 2018. - 440 с.

# Дадаткі

***Дадатак 1***

**Расповед Ганны Браніславаўны Лінгі.**
**Запісана 28. 10. 2019 г.**

Жыве ў в. Пагародна Пагародзенскага сельсавета Воранаўскага раёна Гарадзенскай вобласці.

"Мае бацькі працавалі ў пана генерала і пані генераловай за польскім часам у 1920-30-ыя гады.

Казалі, што пан генерал і пані генералова мелі велькую гаспадарку, якая мела сотні гектараў земляў. Вырошчвалі жыта, пшаніцу, бульбу. Гаралі зямлю коньмі. Аднаго-трох коней запрагалі ў плугі. Затым сеялі зерне альбо садзілі бульбу. Загортвалі баронамі. Жалі сярпамі. Малацілі зерне цапамі, а хавалі ў свірнах. Салому і сена складалі ў велькія стагі (салому падсцілалі жывёліне, а сенам армілі).

У гаспадарцы быў кароўнік, дзе трымалі венцай, чым сто кароў і быкоў. Малочныя пароды кароў на той час давалі за 20 літраў малака ў суткі.

У свінарніку ўтрымоўваліся сотні галоў свіней пародаў на скварку і на мяса.

Зараблялі па два злотыя ў дзень. Гэта было дужа, бо на такія грошы можна было купіць пуд зерня.

Жылі ў чвартаках. Чвартакамі называлі велькія дамы на чатыры сям'і. Мой тата працаваў лясніком. Адзін раз з гранаты хацеў зрабіць люльку. Тая ўзарвалася і пакалечыла яму твар і вочы. Пан і пані заплацілі яму за медычную дапамогу. Посля таго тата не змог працаваць у лесе, але гадаваў кароў і коней. Яны высеціліся з чвартака ў іншы дом.

Гаспадарку вяла пані генералова. Была дбайнай гаспадыняй. Трымала эканомку і служанку.

Тым работнікам, якія не мелі ні сена, ні саломы давала сена і салому. Тых сялян, якія мелі ўласныя коні і вазы, прасіла дапамагчы на сезонных работах (пры падвозе сена, саломы і інш.). За працу ім плаціла.

У гаспадарцы быў сад, дзе раслі яблыкі, вішні, сліўкі і інш.

А якім ладным быў парк з возерам у сярэдзіне ў выглядзе крыжа! Бацькі казалі пра ліповую алею. Як квітнелі ліпы, было файна.

Хто працаваў у выхадныя дні, зараблялі за дзень у два разы венцай - чатыры злотыя. Ім дазвалялася гуляць у парку.

У парку праходзілі танцы. Музыканты гралі на гармоніках, бубне і скрыпцы. На гітарах тады ніхто не граў.

У велькім палацы жылі пан генерал, пані генералова, іх дачка Вера. Жылі так, як і ўсе паны. Была канюшня. Мелі коней. Конюх гадаваў, карміў і прыглядаў коней. Дачка Вера любіла ездзіць на конях.

Перад 1939 годам дачка К. і А. Кандратовічаў Вера пазнаёмілася з кавалерам з Англіі. Той быў мастаком. Маляваў файна. Гасціў у панны Веры. Намаляваў дужа карцін аб побыце ў маёнтку Гародна.

У 1939 годзе разумныя людзі ведалі, што будзе вайна, таму з Англіі прыляцеў самалёт і забраў пані Кандратовічаву з дачкой Верай. Пагарадзенец Адам Стрэлка нёс ім чамадан. Казаў, што быў не велькі, але моцна цяжкі.

Пан Кіпрыян Кандратовіч прыходзіў у каплічку і мадліўся. Мае бацькі казалі, што да пана генерала ніхто не прыязджаў.

У 1990-ых гг. у Пагародна з Англіі на машыне прыехаў унук ген. К. Кандратовіча Юрка. Ён думаў, што ў Беларусі няма асвальтавых дарог. Пагарадзенцы добра адзеліся і яго ладня спатыкнулі. Ён не думаў, што ў Беларусі ест асвальтаваныя дарогі, а таксама, што людзі ладня адзяваюцца.

Затым Юрка пачаў сябраваць з бацюшкам Вараноўскай праваслаўнай парафіі і дапамагаў яму будаваць цэркву".

*Дадатак 2*

**Расповед Зыгмунта Матоніса.**
**Запісана 14.11.2019 г.**

"Мой бацька Казімір Матоніс працаваў у пані генераловай у 1920-30-ых гадах. На працу хадзіў з вёскі Вайкунцы. Па ўмове мусіў адпрацаваць тры дні на тыдзень. Працаваў на ферме, гараў зямлю. Як калі што трэба было рабіць.

Фермы былі направа ад палаца, убок перад капліцай.

Нарадзіўся мой тата ў 1900 годзе, а памёр у 1983."

*Дадатак 3*

**Расповед Яніны Банкоўскай.**
**Запісана 21.11.2019 г.**

"Называюся я Яніна Банкоўская (па-мужу). Нарадзілася ў 1935 г.

Мая мама ў пана генерала і пані генераловай працавала пакаёўкай у 1920 гады. Тады яшчэ жыў сам пан генерал. Называлася Марыся Вітукевічанка (дзявочае прозвішча). Калі выйшла замуж, стала Зіневічавай. Яшчэ гадавала малую Верачку Кандратавічаначку.

У пані выйшла замуж. Пані дала пасаг грашыма - злотымі. Венцай, чым 50 польскіх злотаў. За такі велькі пасаг маладыя купілі аж каня з возам. Мае бацькі пачалі жыць каля Даўгялаў.

Братова мая называлася Стася Вайткунова. У палацы працавала кухаркай. І варыла сама і дапамагала варыць. Кармілі і пана, і пані, і работнікаў.

Мой тата Ян Зіневіч працаваў столярам. У гаспадарцы пана была сталярня.

Найперш рабіў вазы. Да вазоў - колы з дзерава. Круглыя! Да круглых колаў прыбіваў бляху. Каб дзерава не з’езджвалася.

Будаваў дамы. Пілавалі дзеравы, сушылі. Разам з дзеравамі сушылі мох. Мералі мэтрамі. Удвух пілавалі піламі. Пілы былі велькімі, на две ручкі. Выпілоўвалі куты. Потым складалі дзеравы. Паміж дзеравоў лажылі сухі мох. Потым наверх падымалі бэлькі, ставілі кроквы. Дужа работы мелі.

Яшчэ мой тата ставіў печкі з цэглы, з гліны і абкладваў печкі кафляй.

Казалі, што добрым быў майстрам.

Памёр, калі меў шэсцьдзясят гадоў. Мне тады было тылько дванасця гадоў".

*Дадатак 4*

**Расповед Ірэны Козел.**
**Запісана 04.12.2019 г.**

"Называюць мяне Ірэна Козел. Нарадзілася другога студзеня 1934 года.

Мой бацька Язэп Плюст з-пад Іўя. Быў мужыком. Сваей зямлі не меў. Хадзіў па панох і наймаўся рабіць. У 1920-30 гадох, каб пракарміць сям'ю працаваў у паноў Кандратовічаў. Гараў зямлю, гадаваў скаціну на фермах. Рабіў усё тое, што трэба было рабіць.

Жылі мы ў чвартаку. Як ідзеш да палаца, чвартак стаяў направа. У чвартакох было ад чатырох да васьмі дзвярэй.

Бандыты спалілі дзеравянны палац. Невядома чаго! Але і ладны быў! У ім нават галава зубра вісела.

Лядоўня на той бок пад парк была. Што ў яе лажылі - мне не вядома.

Пасля вайны мой бацька з чвартака злажыў нашу хату.

Пан Езус з каплічкі ляжаў на гары ў нашай хаце".

*Дадатак 5*

**Расповед Галіны Галіцкай.**
**Запісана 09.12.2019 г.**

"Я Галіна Галіцкая. Нарадзілася ў 1948 року.

Мая мама, Станіслава Банкоўская, нарадзілася ў Вільканцах, што ў Салечніцкім раёне Літвы. Бацькі маёй мамы былі беззямельнымі сялянамі. Прыехалі ў Гародна на працу да пана генерала і пані генераловай. Жыла мая мама з бацькамі ў чвараку. Чваракоў было шэсць, па чатыры кватэры для работнікаў.

Працавала да 1936 року. Даіла каровы. Каровы былі рабыя (чорна-белыя) і давалі дужа малака. Скаціна: каровы і коні пасвілася каля Лапацішкаў.

Замуж мая мама выйшла ў 1936 року. Пані генералова падарыла шафу і грошы-злотыя.

Мой тата быў леснікам, даглядаў прыватныя лясы Кандратовічаў.

У нашай хаце ад 1939 року да часу, калі была адбудавана каплічка, ляжаў даўнейшы абраз".

*Дадатак 6*

**Фотаздымкі з сямейнага альбома ўнука К. Кандратовіча Юрыя з Вялікабрытаніі (копіі ў Ганны Лінгі)**

а) Палац генерала К. Кандратовіча. Выгляд з задняга боку.



б) Ада Кандратовічава - жонка ген. К. Кандратовіча на фоне задняга ўваходу ў палац.



в) Ада Кандратовічава з дзіцячай каляскай гадуе дачку Веру.



г) Панна Вера Кандратавічанка - дачка генерала К. Кандратовіча.



д) Юная панна Верачка Кандратавічаначка на кані.



е) Коні з канюшні К. Кандратовіча.



ж) Лебедзь - наглядчык і работнік у садзе і парку ген. К. Кандратовіча.



і) Дзяўчаты і жанчыны - работніцы ў пана генерала і пані генераловай на сходах ля палаца.



к) Жніво.



л) Жанчыны падчас свята ўраджаю.




м) Дзеці з пачастункамі.



н) Інтэр'ер у палацы ген. К. Кандратовіча.



о) Унутраныя дзверы ў палацы ген. К. Кандратовіча.



з) Пагародзенкі і пагародзенцы са скрыпкай калядуюць ля дзвярэй палаца К. Кандратовіча.



*Дадатак 7*

**Фотаздымкі з сямейнага альбома Галіны Галіцкай**

а) Вера Кандратовіч.



б) Ада Кандратовіч.



в) Генерал Кіпрыян Кандратовіч з жонкай Адай, дачкой Верай і сяброўкамі з сабачкам пад час адпачынку.



***Дадатак 8***

**Карціны мужа В. Рэйні (Кандратовіч):**

а) Вера Кандратавічанка разам са служанкай.



в) Жанчына працуе…



г) Гаспадарчая пабудова (лядоўня).



д) Сяляне кладуць стог.



***Дадатак 9***

**Фотаздымак унука генерала К. Кандратовіча Юрыя. Юры на фоне дарожкі, што вядзе да возера ў гародзенскім парку.**



***Дадатак 10***

**Фотаздымкі з паездак у в. Пагародна.**
**Восень 2019 г.**

а) Каплічка (сучасны выгляд).





б) Уваход у парк.





в) Возера ў парку.





г) Магіла Веры Рэйні (Кандратовіч).





д) Фрагменты алеі ў парку К. і А. Кандратовічаў.



з) Былы сад у гаспадарцы К. і А. Кандратовічаў.



е) Былыя цяпліца і агарод К. і А. Кандратовічаў.





і) Яніна Банкоўская.



ж) Рэшткі будынка склада ў гаспадарцы.





к) Ірэна Козел.



л) Тут раслаа ліпавая алея.



м) Тут стаяў палац К. Кандратовіча.



***Дадатак 11***

**Карта маёнтка Гародна. З Інстытута геаграфіі Польскай акадэміі навук**

***Дадатак 12***

**Гародненская капліца: знешні і ўнутраны выгляд. Крыніца: www.radzima.org. Тут маліўся генерал К. Кандратовіч.**





***Дадатак 13***

**Палац у Гародна. Малюнак Напалеона Орды. www.radzima.org**



***Дадатак 14***

**В. Асава. Касцёл св. Юрыя. Тут маліліся работнікі, што працавалі ў пана генерала і пані генераловай.**



***Дадатак 15***

**Успаміны Уладзіслава Струкеля - былога памочніка садоўніка маёнтка. Крыніца: www radzima.org.**

"Сям'я Кандратовічаў вызначалася інтэлегентнасцю і дабразычлівасцю да людзей. Сам генерал карыстаўся расейскай, беларускай, польскай мовамі ў побыце, у залежнасці ад абставін. Можна меркаваць, што адносіны з навакольнымі абшарнікамі не склаліся і блізкае сяброўства ўсталявалася толькі з уладальнікам сядзібы Малое Мажэйкава інжынерам А. Брахоцкім. Госці прыязджалі з Варшавы і Парыжа, дзе жылі сваякі жонкі Ады. У маёнтку быў аўтамабіль, які бачны на адным з фотаздымкаў. Дачка Вера атрымала хатнюю адукацыю, выйшла замуж за мастака з Англіі, іспанца па паходжанні, Трыстама Рэйні (Tristam Reiney). З другой паловы 30-х і да смерці ў 1988 г. жыла ў Англіі.

У жніво, жонка Ада сустракала кожныя першыя вазы з падзякай да сялян і келіхам гарэлкі. Сам Струкель, тады яшчэ малады хлопец, атрымліваў заробак у памеры 90 пудоў жыта ў год плюс корм для жывёлы і бульбу, колькі трэба. Асабліва жонка генерала сачыла за прыгажосцю і парадкам у парку, сваім доме і ў дамах, дзе жыла прыслуга. Людзі, якія працавалі ў Кандратовічаў, атрымоўвалі беспрацэнтныя крэдыты на развіццё гаспадаркі, і, калі гаспадары бачылі, што грошы ўкладзены з розумам, крэдыт спісваўся... "-

***Аўтар: Матусевіч Валянціна Міраславаўна.***
***Кіраўнік: Куплевіч Віталь Эдуардавіч.***

***Таццяна Валянцінаўна Кашпар***
***выкладчык гісторыі***
***вышэйшай катэгорыі***

# Гісторыя Лідскага педагагічнага вучылішча 1944 - 1956 гг.

**З ГІСТОРЫІ ГІМНАЗІІ ІМЯ ГЕТМАНА КАРАЛЯ ХАДКЕВІЧА**

З 1921 па 1939 год тэрыторыя Заходняй Беларусі знаходзілася ў складзе Польшчы. Горад Ліда быў цэнтрам павета, і ў ім актыўна вялося будаўніцтва. На забалочанай тэрыторыі паміж чыгункай і цэнтрам горада вырашана было стварыць новы раён. Гэты ўчастак лідзяне звалі "выган" і пасвілі тут жывёлу. Пасля меліярацыі тэрыторыі тут праклалі новую вуліцу Міцкевіча (назва захавалася да цяперашняга часу) і пабудавалі Дом старасты, жылыя будынкі для службоўцаў рангам ніжэй і комплекс грамадскіх будынкаў (школа імя Нарутовіча, паштамт). Найбуйнейшай міжваеннай новабудоўляй усё на той жа вуліцы Міцкевіча стаў будынак дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Гэты маштабны аб'ект, у аблічча якога праступаюць рысы функцыяналізму, быў на той час адным з найбуйнейшых "польскіх" будынкаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Будаўніцтва скончылася ў 1929 годзе (па некаторых крыніцах у 1935 г.). Будынак меў тры паверхі. Плошча новай навучальнай установы склала 2800 квадратных метраў. Яна была разлічана на 500 навучэнцаў [10]. З-за высокай аплаты ў гімназіі вучыліся галоўным чынам дзеці вайскоўцаў, паліцыянтаў, дзяржаўных службоўцаў, багатых гараджан. У гімназію прымалі дзяцей пасля сямігадовай агульнаадукацыйнай школы. Навучальны курс падзяляўся на два этапы: агульнаадукацыйны - чатыры гады і спецыяльны ці ліцэй - двухгадовы, на якім рыхтавалі ва ўніверсітэт. Плата за навучанне складала 25 злотых першы год, 30 злотых - другі, 35 - усе наступныя [7]. Гімназісты мелі форменную вопратку: куртачку сіняга колеру, у ліцэі - бардовага і такія ж фуражкі. Дзяўчаты



***Будынак дзяржаўнай гімназіі імя Кароля Хадкевіча. Фасад, які выходзіць на вуліцу Міцкевіча***



*Гімназічная форма. Малюнак мастака Ларысы Драко*

ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

*Атэстат сталасці выпускніцы гімназіі Жук Ядвігі. 1933 год*

ŚWIADECTWO ROCZNE

*Пасведчанне з гадавымі адзнакамі за навучанне ў гімназіі. 1926 год*

ў гімназіі насілі цёмна-сінюю плісаваную спаднічку і белую льняную блюзку. Да блюзкі прымацоўвалі стужку, а на рукаве насілі блакітную павязку. На барэце быў малюнак арла і блакітны кант. У ліцэі, адпаведна,

кант, бант, павязка былі бардовага колеру [ 7]. Прыналежнасць да гімназіі і нашэнне формы навучэнцы лічылі гонарам для сябе.

З успамінаў карэннай лідзянкі Яўгеніі Ярмант мы дазналіся пра настаўнікаў гімназіі. Настаўнікі карысталіся вялікай павагай як сярод вучняў, так і ва ўсім горадзе. Польскую мову выкладаў пан В. Маеўскі. Пад яго кіраўніцтвам у кастрычніку 1935 г. навучэнцы старэйшых класаў гімназіі выдалі ў друкарні Ш. Зяльдовіча шастнаццацістаронкавы часопіс "Творчасць" [11]. Матэматыку вёў пан Каляцінскі. Гэта быў высокі прадстаўнічы мужчына, бацька двух сыноў, якія загінулі падчас вайны ў партызанах. Настаўнікам гімнастыкі ў дзяўчат была пані Папко. Пан Садзевіч і пані Ядвіга Мастовіч пасвячалі вучняў у таямніцы латыні, якая аказалася вельмі цікавым прадметам. Фізіку выкладаў пан Яўген Шулакевіч. Настаўнікам хіміі быў пан Зыгмунт Манке, які пасля вайны выехаў у Польшчу. Геаграфію выкладаў пан Руткоўскі. Вучні маглі выбіраць для вывучэння нямецкую ці французскую мовы. У гімназіі працавала некалькі настаўнікаўгерманістаў - пан Сабанскі, пан Кляйдыенст, пан Сямінскі. Толькі пан Сямінскі дазваляў вучням надпісваць алоўкам у падручніку польскі пераклад нямецкага тэксту. Звычайна настаўнікі забаранялі пісаць у падручніках. Сын пана Кляйдыенста Яська падчас вайны загінуў у партызанах. Катэхізіс выкладаў ксёндз Вітольд Нелюбовіч [5, з.82]. У дзяржаўных гімназіях навучанне дзяўчынак і хлопчыкаў вялося сумесна, у той час як у Купецкай гімназіі дзяўчынкі і хлопчыкі займаліся ў асобных будынках. Патрабаванні да паводзін гімназістаў былі цвёрдыя. Напрыклад: гімназістам не дазвалялася бываць на вуліцы без суправаджэння дарослых пасля васьмі гадзін вечара, тым больш хадзіць у кіно на вячэрнія сеансы.

Дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча вабіла многіх людзей. Вучоба ў ёй адкрывала вялікія перспектывы ў жыцці. Зручна было і тое, што не трэба было з'язджаць з роднага горада, ад сям'і. Акрамя таго прыцягвала выдатнае выкладанне гуманітарных дысцыплін. Па сведчанні былых выпускнікоў гімназіі, адзнака паспяховасці залежала выключна ад здольнасцяў і старання навучэнцаў, а не ад іх фінансавага становішча. Не існавала ніякіх элементаў дыскрымінацыі па рэлігійнай прыналежнасці ці па нацыянальнасці [7]. Дзяцей сялян сюды не прымалі, а тыя, каго прынялі, у сацыяльным плане былі раўнапраўнымі.

У верасні - кастрычніку 1939 г. адбылося ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Увосень 1939 года будынак аддалі школе, якая атрымала назву беларускай, хоць навучанне ішло на рускай мове, акрамя двух урокаў - беларускай мовы і літаратуры. Большасць даваенных настаўнікаў, пакінутых у школе, гаварылі па-руску. Рускую мову ў старэйшых класах выкладала новая настаўніца, якая прыбыла з Савецкага Саюза - Марыя Навумаўна. Яна была строгай, але на заключным іспыце выяўляла да ўсіх вучняў лаяльнасць. Настаўнікам, які ў дасканаласці валодаў беларускай мовай, чым захапляў дзяцей, быў выкладчык матэматыкі Навум Голямполь. Ён любіў гутарыць з навучэнцамі на адцягненыя тэмы, напрыклад пра існаванне Бога. Дыскусіі праходзілі вельмі рызыкоўна. Выкладчык фізкультуры арганізаваў у школе дзве каманды акрабатычнай гімнастыкі, асобна з хлопчыкаў і дзяўчынак. Абедзве каманды часта выступалі ў гімнастычнай зале ў прысутнасці гледачоў. З'явіўся ансамбль песні і танцу. Ён выконваў беларускія народныя песні, а танцы былі рускія народныя [5, з.103].

Ва ўспамінах Райковай (Кумпяк) З.В. сказана, што ў 1940-1941 гг. у гэтым жа будынку было адкрыта Лідскае педагагічнае вучылішча [6]. Дырэктарам яго быў прызначаны Цвяткоў. Тым часам тут вучыліся Макуцевіч Пётр Купрыянавіч, Макуцевіч Вольга Купрыянаўна, Макуцевіч Ніна Купрыянаўна, Сарока (Перкіна) Ганна Мікалаеўна. Нажаль, гэты факт пакуль не атрымоўваецца пацвердзіць дакументальна.

У 1941-1944 гг. будынак займалі германскія акупацыйныя ўлады. Тут размяшчаліся гебітскамісарыят і паліцэйская камендатура [6].

**ЛІДСКАЕ ПЕДАГАГІЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА ў 1944 - 1956 гг.**

9 ліпеня 1944 года горад Ліда быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Горад быў разбураны на 80%, цэнтр горада разбураны практычна цалкам. Засталося не больш за дзясятак двухпавярховых мураваных будынкаў. У адным з іх - будынку былой гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча па вуліцы Міцкевіча - 30 жніўня 1944 гады пачала працу прыёмная камісія Лідскага педагагічнага вучылішча, утворанага па рашэнні ўрада 15 жніўня 1944 года. Яшчэ ішла Вялікая Айчынная вайна, а краіна ўжо пачала працу па аднаўленні народнай гаспадаркі, па адраджэнні мірнага жыцця.

Адкрываліся школы, але ў іх катастрафічна бракавала настаўнікаў. У кожнай вобласці Беларусі



**Забота аб школе**

У 1941-м годзе на тэрыто-
ыі Лідскага раёну налічвала-
ся 100 школ. За час акупа-
цыі немцамі было прыведзёна
ў нягожасць і занята каля
70-ці школ пад склады, стай-
ні, паліцэйскія гарнізоны і ін-
шае.

Неабходна было ўсё нанава
аднавіць і перабудаваць па-
мяшканні, забяспечыўшы іх
сталамі і лаўкамі.

Гэтую задачу Лідскі РК.КП(б)Б
і Рай АНА добра выконваюць,
прыкладая да яе ўсе сілы.

Школы к новаму навучальнаму 1944-1945-му году будуць адчынены.

Нашы дзеці будуць навучацца на роднай мове ў утульна-раскошных памяшканнях Совецкай школы.

**Сакратар РК ЛКСМБ ВОЎКАЎ.**

В. а. нам. радактара КІЯН

***Артыкул з газеты "Уперад" пра стан школ на Лідчыне. 16 жніўня 1944 г.***

было створана па 5 - 6 педвучылішчаў, задача якіх хутка насыціць кадрамі сістэму народнай адукацыі. Так з'явілася Лідскае педвучылішча. Дырэктарам быў прызначаны Фралоў А.Т. Ён займаўся падборам педагагічных кадраў, падрыхтоўкай навучальнага корпуса да заняткаў, рамонтам інтэрната, камплектацыяй бібліятэкі неабходнымі падручнікамі і літаратурай.

Набор абітурыентаў праводзіўся на базе сямігадовай школы і на базе 8 - 10 класаў з паскораным курсам навучання - адзін год. Набор склаў 271 чалавек. Першы паскораны выпуск навучэнцаў адбыўся ўжо ў 1945 годзе. 20 ліпеня 1945 года 29 выпускнікам была прысвоена кваліфікацыя настаўніка пачатковых класаў.

З успамінаў навучэнца першага набору Мікалая Дзікевіча: *"У адзін з вераснёвых дзён на станцыю Нёман прыехаў настаўнік беларускай мовы Голуб. Ён прывёз аб'яву пра арганізацыю ў Лідзе педагагічнага вучылішча. Навучэнцы трэцяга курса атрымлівалі бронь. Такім чынам з першага кастрычніка я стаў студэнтам трэцяга курса. Настаўнікаў бракавала, таму ў вучылішча скарацілі тэрмін навучання і павялічылі колькасць урокаў у тыдзень, на колькі маглі скарацілі праграму. Вучыліся ў двухпавярховым будынку, што насупраць СШ № 1. У канцы траўня 1945 гада педвучылішчу перадалі будынак былой гімназіі, які перад гэтым займалі вайскоўцы. У класах вучэльні стаялі доўгія сталы, а лаўкі былі спісаны па-нямецку. Падручнікаў практычна не было. Чыталі па чарзе па два-тры падручнікі на курс. Нашым выратаваннем былі канспекты. Але трэба было бачыць нашы сшыткі, зробленыя са старых нямецкіх улётак, шпалераў, квітанцый! У іх канспек-*



# АБ'ЯВА

**Беларускае дзяржаўнае педагагічнае вучылішча ў горадзе Ліда аб'яўляе набор на 1, 2 і 3 курсы.**

Прымаюцца асобы скончыўшыя 7, 8, 9 і 10 класаў ва ўзросце ад 14 да 35 год.

Студэнты забяспечваюцца карткамі на прадукты харчавання. Пры педвучылішчы будзе адчынена сталовая для студэнтаў. Іншагародзія студэнты будуць забяспечаны інтэрнатам.

Паступаючыя прадстаўляюць наступныя дакументы, або даведкі іх замяняючыя: Заяву, дакумент (або даведку) аб асвеце, даведку аб стане здароўя і даведку аб узросце.

Прыймовыя іспыты будуць праводзіцца з 1. 9. па 10. 9. 1944 г.

Дакументы прадстаўляюцца па адрасу: Горад Ліда, вуліца Кірава 86 (былая Школьная), канцылярыя педагагічнага вучылішча.

Дырэкцыя.

**Аб'ява пра набор навучэнцаў у Лідскае педвучылішча 16 жніўня 1944 г.**



**Лідскае педагагічнае вучылішча. 1944 - 1956 гг.**

*тавалі педагогіку, гісторыю, геаграфію і іншыя прадметы. У набытых сшытках пісалі заданні па мове і матэматыцы ці малявалі. Памятаю прозвішчы некаторых выкладчыкаў. Дырэктар вучылішча Фралоў выкладаў гісторыю, завуч Дзяменцій Пятровіч Кардаш выкладаў педагогіку і псіхалогію, Сцяпан Рыгоравіч Зыкаў - хімію і біялогію, Голуб - беларускую мову, Левін - фізкультуру…"*

У выніку высілкаў краіны ў 1946 годзе колькасць настаўнікаў у Беларусі склала 80% ад даваеннага. Першы навучальны год 1944 - 1945 педагагічны калектыў вучылішча складалі сем чалавек: Фралоў А.Т. - дырэктар, выкладчыкі - Хатэнка М.Н., Голуб С.Ф., Кардаш Д.П., Старасцін А.А., Левін І.І., Зыкаў С.Г. [7]. У жніўні 1945 года дырэктарам педвучылішча быў прызначаны Макаранка Макар Фёдаравіч - выкладчык фізікі, адстаўны афіцэр, інвалід Вялікай Айчыннай вайны. Шмат высілкаў прыклаў Макар Фёдаравіч для стварэння матэрыяльнай базы навучальнай установы. Вучэльня займала дзевяць класных пакояў па 60 кв. м, дзевяць класаў па 30 кв. м. і спартовую зала (г.зн. палову будынка). У гадавой справаздачы за 1946 - 1947 гг. сказана, што ўдалося адрамантаваць цэнтральную ацяпляльную сістэму, але яна не працавала з-за адсутнасці паліва. Навучальныя класы абаграваліся жалезнымі печкамі - часовымі збудаваннямі. Усяго былі 33 печкі. Дровы калектыў нарыхтоўваў самастойна сіламі настаўнікаў і навучэнцаў. Імкнуліся зрабіць гэта да пачатку летніх вакацый. Печы паліў апальшчык. Прыбралі печы ў 1947 годзе [ф. 32, воп.1, спр. 4]. У вучылішчы працавала сталовая. Спачатку ў ёй рыхтавалі толькі абеды. Цэны былі даступныя для навучэнцаў. З 1947 года пачалі рыхтаваць сняданак і вячэру. Студэнтам у патрэбе выдзялялася матэрыяльная дапамога па трыста рублёў (дадзеныя на 1947 год). Многія навучэнцы, як і ў наш час, іншагароднія, таму існавалі два інтэрнаты - мураваны двухпавярховы на 120 чалавек і маленькая драўляная хата на 20 чалавек. У 1947 годзе ў цокальным паверсе навучальнага корпуса абсталявалі два пакоі пад інтэрнат: адзін пакой для юнакоў, другі для дзяўчат. Жыхарам інтэрната выдавалася не толькі пасцельная бялізна, але і абрусы, фіранкі, дарожкі на падлогу. У гэтым жа 1947 годзе ўдалося цалкам зашкліць падвойныя вокны. Улетку 1947 года конны транспарт, які належаў вучылішчу, замянілі на аўтамабільны, у вучылішчы з'явілася машына і шафёр [ф. 32, воп.1, спр. 4]. На наступны навучальны год педагагічны калектыў папоўніўся за кошт выпускнікоў ВНУ і дасведчаных педагогаў са стажам працы больш дзесяці гадоў. З 16 выкладчыкаў 12 мелі вышэйшую адукацыю, 4 - сярэднюю. Але паранейшаму не было выкладчыкаў па маляванні і па працы. У 1945 годзе аплата працы педагогаў была невысокай: стаўка дырэктара і завуча складала па 750 рублёў [ф. 32, воп. 1, спр. 2]. У 1946 - 1947 навучальным годзе зарплата была падвышана: стаўка дырэктара склала 1157 рублёў, а настаўніка - 730 рублёў [ф. 32, воп. 1, спр. 4]. Вялікая частка настаўнікаў жыла на кватэрах у гараджан. Дзяржава выплачвала на арэнду жылля кватэрныя. У 1947 гозе драўляны будынак інтэрната пераабсталявалі пад кватэры для выкладчыкаў. Тут пасялілася шэсць чалавек. Дзевяць выкладчыкаў атрымалі кватэры ў гарадскіх дамах камунальнай гаспадаркі. Трое выкладчыкаў засталіся на прыватных кватэрах [ф. 32, воп.1, спр. 8].

Напачатку 1946 года былі створаны два метадычныя аб'яднанні выкладчыкаў - натуральна-матэ-



***Першы пасляваенны выпуск Лідскага педвучылішча, травень 1945 г. Сядзяць (злева направа) Голуб (беларуская мова), Патапенка (матэматыка), настаўніца рускай мовы, Фралоў (дырэктар, гісторыя), Д.П. Кардаш (завуч, педагогіка), настаўніца (?), Левін (фізкультура), С.Р. Зыкаў (хімія, біялогія)***

матычных і гуманітарных навук. У вучылішчы працавалі тры кабінеты - прыродазнаўства і геаграфіі, фізікі і матэматыкі, педагогікі і прыватных методык. У кабінеты было набыта абсталяванне і навучальныя дапаможнікі на суму 9 тысяч рублёў, а ў бібліятэку набылі 4471 кнігу на суму пяць тысяч рублёў [ф. 32, воп. 1, спр. 2]. Горш за ўсё літаратурай былі забяспечаны такія прадметы, як педагогіка, псіхалогія, прыватныя методыкі. Падручнікі былі на рускай і на беларускай мовах. Адзін падручнік прыпадаў на пяць-шэсць навучэнцаў. Вядома, навучальнага абсталявання і дапаможнікаў бракавала. За 1944 - 1946 гады навучэнцы пад кіраўніцтвам выкладчыкаў вырабілі 146 табліц, 54 макеты, 26 дапаможнікаў па літаратуры і гісторыі [ф. 32, воп.1, спр. 2]. Заняткі праходзілі ў першую змену, а ў другой палове дня навучэнцы працавалі ў кабінетах, выкарыстоўваючы наяўную там літаратуру. Кабінеты і бібліятэка працавалі з 14 да 22 гадзін. Каб навучэнцы маглі быць у курсе жыцця краіны, бібліятэка вучылішча выпісвала газеты "Праўда", "Камсамольская праўда", "Настаўніцкая газета", "Савецкая Беларусь", "Зорка", "Гарадзенская праўда" і "Уперад". А ўжо ў 1947 годзе было выпісана дадаткова 19 літаратурных і грамадска-палітычных і 15 адмысловых метадычных часопісаў.17 найменняў газет і 10 часопісаў выпісана выкладчыкамі асабіста [ф. 32, воп. 1, спр. 8]. Вялікая праца праводзілася па навядзенні парадку на прылеглай да вучылішча тэрыторыі. Быў закладзены доследны ўчастак у двары. У 1949 годзе да яго дадалі парнік. На ўчастку гадавалі расаду для падшэфнага калгаса імя Сталіна, а таксама тронкі парэчак. З 1946 года вучылішча мела дапаможную гаспадарку, у якой сеялі па гектары ячменю і вікі і 0,35 га аўсу на корм [ф. 32, воп.1, спр. 4]. Навучэнцы вучылішча дапамагалі падшэфнаму калгасу. Так за 1954 - 1955 гады было выкапана 59 гектараў бульбы, прыбрана 12 гектараў морквы, пасеяна 46 гектараў кукурузы, выкапаны дзве сіласныя ямы. Навучэнцы старэйшых курсаў дапамагалі агітаваць калгаснікаў падпісацца на дзяржаўную пазыку. Але самай любімай справай было выступаць з канцэртамі мастацкай самадзейнасці перад вяскоўцамі [ф. 32, воп. 1, спр. 42].

Чым бы не займаліся навучэнцы, іх галоўная мэта была атрыманне якаснай адукацыі для таго, каб стаць добрымі настаўнікамі. Узровень адукацыі шмат у чым залежаў ад педкалектыва. Выкладчыкі працавалі над удасканаленнем праграм і навучальных планаў, над складаннем курсаў лекцый і практычных заняткаў. Каб веды навучэнцаў былі трывалымі, выкладчыкі шмат працавалі з дзецьмі пасля ўрокаў. Напачатку навучальнага года кожны выкладчык даваў навучэнцам спіс навучальнай і папулярнай літаратуры абавязковай для вывучэння, а таксама метадычныя парады па ажыццяўленні самастойнай працы. Два разы ў месяц правяралася выкананне задання. На працягу навучальнага года навучэнцы педвучылішча выконвалі творчыя пісьмовыя работы пасля ўрокаў. Перад выкананнем пісьмовай работы яны павінны былі выканаць заданне - мінімум па сваёй тэме [ф. 32, воп.1 спр. 4].

Важнае пытанне ў прафесійнай адукацыі - гэта практыка навучэнцаў. Высілкамі дырэктара педвучылішча Макаранкі М.Ф. было вырашана пытанне з базай практыкі. Успомнім, што палову будынка (правае крыло) займала педвучылішча, другую палову (левае крыло) - СШ № 2, у пачатковых класах якой і было арганізавана праходжанне педагагічнай практыкі. У 1946 годзе кожны навучэнец даваў 5 - 6 пробных урокаў па беларускай і рускай мовах, чытанні, арыфметыцы, гісторыі, прыродзе, маляванні, фізкультуры. Акрамя гэтага праходзіла двухтыднёвая практыка ў сельскіх школах (двухкамплектных). З 1947 года сістэма педагагічнай практыкі стала больш прадуманай. Яна складалася з наступных частак:

назіранне "Першыя дні дзіцяці ў школе" - 10 дзён;

назіранне паказальных урокаў у школе;

правядзенне пробных урокаў у школе (8 - 9 урокаў);

аднадзённая педагагічная практыка;

двухтыднёвая педагагічная практыка (галоўным чынам у школах Ліды).

З 1948 года з'яўляецца пасада "кіраўнік педагагічнай практыкі". Спачатку гэтую працу выконвала выкладчык педагогікі Баброўская Н.А., а з 1953 года - выкладчык педагогікі Стрэльскі Т.П. Сістэма педагагічнай практыкі была арганізавана добра. Пра гэта часта ўспаміналі былыя выпускнікі падчас сустрэч у сценах сучаснага каледжа. Успаміналі смешныя выпадкі і вострыя сітуацыі на ўроках. Выпускнікоў педвучылішча адрознівала моцная практычная падрыхтоўка. Яны ведалі, як рацыянальна выбудаваць занятак, як працаваць з навучэнцамі з розным узроўнем падрыхтоўкі, як супакоіць гарэзу і многае іншае. За чатыры - пяць гадоў працы ў вучылішчы з'явіліся дасведчаныя выкладчыкі-метадысты: Чарнічэнка Емяльян Рыгоравіч (матэматыка), Патапенка Канстанцін Емяльянавіч (матэматыка), Буланкова Марыя Мікалаеўна (прыродазнаўства), Шнейдар Алена Пятроўна (бел. мова), Шаўлюга Вольга Аляксееўна (рус. мова), Каробка Зінаіда Антонаўна (рус. мова). З 1948 года выкладчыкі Лідскага педвучылішча выступаюць з дакладамі па методыцы выкладання розных прадметаў у пачатковай школе на настаўніцкіх канферэнцыях у горадзе Лідзе [ф. 32, воп.1, спр. 11].

З успамінаў Янчэўскага Уладзіміра Уладзіміравіча: *"Лідскае педвучылішча я закончыў у 1948 г. Вучыўся з Віктарам Каваленкам, студэнт як студэнт, мы з ім у інтэрнаце жылі ў адным пакоі. Я быў старастам пакоя, лепшы сябар Залескі быў з Багданава, яго маланкай забіла. Мы з ім сябравалі, а з Каваленкам так. Вучыўся ён добра. Сур'ёзны хлопец, сустрэліліся неяк выпадкова ў Менску. Мы - падросткі - на 3 курсе былі. Інтэрнат апальваўся звычайнымі печкамі. Дырэктар Макар Фёдаравіч Макаранка, без рукі. Хатэнка фізіку вёў, хадзячая энцыклапедыя, Пікулік вёў беларускую, гісторыю вёў Івашын, біёлаг Зыкаў, халасцяк, з сынам Дзімам, Гарбачова - настаўніца, рускую вёў Мастовіч Аркадзь Уладзіміравіч, літараед".*

У 1948 годзе Лідскае педагагічнае вучылішча ўзначаліў Якімовіч К.В., удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, выкладчык гісторыі, які затым быў пераведзе-

ны на працу ў Міністэрства асветы БССР на пасаду начальніка аддзела кадраў [7].

У 1949 годзе вучылішча перайшло на чатырохгадовае навучанне. У навучальныя планы быў уведзены яшчэ адзін прадмет - замежная мова. Вышэйпастаўленыя арганізацыі, галіновае міністэрства, безумоўна, кантралявалі працу маладой навучальнай установы. У красавіку 1949 года Лідскае педвучылішча было падвергнута інспектарскай праверцы з боку Міністэрства адукацыі БССР. На працягу пяці дзён праверку ажыццяўляла дасведчаны інспектар Суворава Лідзія Георгіеўна. Яе заўвагі і рэкамендацыі былі карысныя маладому калектыву педвучылішча [ф. 32, воп. 1, спр. 11]. У траўні 1952 года праца педвучылішча была праверана інспектарам Гарадзенскага аблана Гагарыным П.Д., які даў станоўчую адзнаку дзейнасці педкалектыва [ф. 32, воп. 1, спр. 28]. У сярэдзіне лютага 1953 гады па даручэнні Гарадзенскага абкама партыі быў правераны стан выкладання гісторыі, педагогікі і літаратуры завучам Гарадзенскага пединстытута тав. Лявіцкім. Працы дадзена станоўчая адзнака. У канцы сакавіка 1953 года працу навучальнай установы правярала інспектар аддзела педВНУ і педвучылішчаў Міністэрства адукацыі БССР Суворава Лідзія Георгіеўна. Інспектар зрабіла шэраг заўваг. Вынікі праверкі абмяркоўваліся на педсавеце 30 сакавіка. Педсавет прайшоў бурна [ф. 32, воп. 1, спр. 31].

У любой справе важна наладзіць працоўную дысцыпліну. У гэтым кірунку вынікі былі проста дзіўныя. Чытаем у гадавой справаздачы Лідскага педвучылішча за 1947 - 1948 гг.: *"Пропускаў заняткаў без паважлівай прычыны сярод навучэнцаў не было. Пропускаў заняткаў сярод настаўнікаў не было"* [ф. 32, воп. 1, спр. 8]. Вось да такой дысцыпліны трэба імкнуцца і сёння.

З 1952 па 1956 год Лідскае педвучылішча ўзначальваў Уладзімір Канстанцінавіч Занкевіч [7]. Ён выкладаў матэматыку, быў удзельнікам партызанскага руху. Педагагічны калектыў шмат увагі надаваў самастойнай падрыхтоўцы навучэнцаў да заняткаў. Педагогі вучылі моладзь, як правільна арганізаваць свой працоўны дзень, каб паспець зрабіць усё неабходнае, як рыхтавацца да выканання розных тыпаў заданняў, як чытаць хутка, але ўважліва і г.д. Па кожным навучальным прадмеце выкладчыкі праводзілі кансультацыі (па раскладзе кансультацый). Навучэнцы маглі працаваць у навучальных кабінетах. Аднак, нягледзячы на ўсе высілкі выкладчыкаў і старанні навучэнцаў, паспяховасць пакідала жадаць лепшага. Так, з 247 навучэнцаў у 1951 годзе не паспявала 50 чалавек (г.зн. паспяховасць 75,7%), а з 252 навучэнцаў у 1952 годзе не паспявала 40 (паспяховасць 85,7%). Праблема падвышэння якасці выкладання і паляпшэння якасці адукацыі ўвесь час знаходзілася ў поле зроку педкалектыва. Пытанню актывізацыі барацьбы з другагоднікцвам і непаспяховасцю быў прысвечаны асобны педсавет 7 кастрычніка 1953 года, выкананне рашэнняў якога строга кантралявалася адміністрацыяй [ф. 32, воп. 1 спр. 36]. Але акрамя вучобы педагогі стваралі ўмовы для агульнага развіцця навучэнцаў. Ужо ў 1945 годзе ў вучылішчы працавала шэсць гурткоў: палітгурток, хор, драматычны, фізкультурны, літаратурны



***Лідскае педагагічнае вучылішча. 3клас Б. 1949/50 навучальны год***

і выпуск насценнай газеты. У 1947 годзе дадаліся гістарычны, фізічны, народных танцаў, стралковы. Але навучэнцам ставілі абмежаванні - наведваць не больш за два гурткі! Потым гурткоў стала яшчэ больш [ф. 32, воп. 1, спр. 11]. За 1951-1952 навучальны год драматычны гурток, у якім займалася 25 навучэнцаў пад кіраўніцтвам Шаўлюгі В.А., паставіў п'есы: "Твая песня" Гусева В., "Прамяні сонца" Чыкаркова, "Тарас Бульба" Гогаля М.В., падрыхтаваў літаратурныя вечары, прысвечаныя Гайдару А., Някрасаву А., Лермантаву М., Пушкіну А., Гогалю М. У 1952 годзе шырока адзначалася 70-годдзе Якуба Коласа. Былі праведзены чытацкія канферэнцыі па кнігах "Вуліца малодшага сына", "Чацвёртая вышыня", "Дарагія мае хлопчыкі", "Аповесць пра Зою і Шуру" [ф. 32, воп. 1, спр. 31]. У падрыхтоўцы і правядзенні вечароў бралі ўдзел таксама гурткі мастацкай самадзейнасці і акрабатыкі. Гурткі мастацкай самадзейнасці рыхтавалі канцэртныя праграмы да святочных дат і выступалі з канцэртамі ў падшэфным калгасе. Так, толькі за 1946 - 1947 навучальны год было праведзена 12 тэматычных вечароў. "Жадаеце танцы - рыхтуйце вечар", - казалі настаўнікі, і дзеці рыхтавалі. У першыя пасляваенныя гады практыкаваўся калектыўны прагляд кінастужак. За 1946 - 1947 навучальны год навучэнцы паглядзелі 14 кінастужак [ф. 32, воп. 1, спр. 9].

З 1951 года на першым і другім курсах уведзены індывідуальныя заняткі па музыцы. Эстэтычнаму, у прыватнасці музычнаму выхаванню, пачалі надаваць больш увагі. У вучылішчы з'явілася тры выкладчыкі музыкі. Выкладчык Штундар С.П. выдатна граў на скрыпцы (вучыўся ў Віленскай кансерваторыі). Быў арганізаваны струнны аркестр. Вялікая ўвага надавалася праслухоўванню класічнай музыкі. Перад педагогамі ставілася задача - растлумачваць важнасць музычнай адукацыі для будучага настаўніка пачатковых класаў. Увайшло ў традыцыю праслухоўванне музычных твораў у выкананні выкладчыкаў [ф. 32, воп. 1, спр. 16].

У 1952 годзе, 1 сакавіка ўпершыню быў арганізаваны вечар сустрэчы з выпускнікамі. Гэта стала добрай традыцыяй. І калі на гэтым жа месцы, у гэтым жа будынку праз 26 гадоў ізноў было адкрыта педвучылішча, выпускнікі першага педвучылішча пачалі прыходзіць у родныя сцены. Адна група сабралася на свой 30-гадовы юбілей, потым на 40-гадовы і ў 2005 годзе 16 чалавек з групы выпуску 1955 года сабраліся на 50-годдзе свайго выпуску. Яны падарылі музею педвучылішча некалькі цікавых экспанатаў.

З 1950 года для выкладчыкаў існавала абавязковая форма палітвучобы: кожны выкладчык павінен быў вывучыць якую-небудзь першакрыніцу па марксізму-ленінізму, прачытаць, заканспектаваць і вытрымаць гутарку па змесце твора (мабыць у дырэктара). Адзін раз у тыдзень выкладчык праводзіў у сваёй групе палітзанятак. У выкладчыка абавязкова павінен быў быць канспект занятку. Навучэнцам 3 - 4 курсаў дазвалялася самастойна праводзіць палітінфармацыі, рабіць даклады, але канспект таксама абавязковы і для іх [ф. 32, воп. 1, спр. 26].

Са жніўня 1951 года ў Лідскім педагагічным вучылішчы функцыянавала метадычнае аб'яднанне класных кіраўнікоў. Архіўныя матэрыялы нам падказваюць, што выхаваўчая праца ніколі не пускалася на самацёк. Планы выхаваўчай працы класных кіраўнікоў захоўваюцца ў Лідскім занальным архіве за ўсе гады працы вучылішча. На зімовых вакацыях у 1952 годзе калектыў упершыню змог арганізаваць вялікую экскурсію. Навучэнцы 3 - 4 курсаў пабывалі ў сталіцы БССР горадзе Менску, а ўлетку таго ж года - у Маскве. Гэта была ініцыятыва дырэктара вучылішча Якімовіча К.В.

21 красавіка 1954 года ў вучылішчы ўпершыню была арганізавана выстава наглядных дапаможнікаў, самастойна выробленых навучэнцамі. Нагляднасці для правядзення ўрокаў у школах па-ранейшаму бракавала і кожны настаўнік павінен быў умець зрабіць патрэбную табліцу, макет ці карту сваімі рукамі [ф. 32, воп. 1, спр. 36]. У 1953 - 1954 навучальным годзе з'явілася магчымасць праводзіць кінаўрокі ў адмыслова абсталяваным класе.

У Лідскім педвучылішчы некаторы час працавала завочнае аддзяленне. Яно было адкрыта ў снежні 1944 года. Працу завочнага аддзялення ўзначаліў Старасцін А.А. У 1946 годзе на завочным аддзяленні навучаліся 250 чалавек. Завочнае аддзяленне працавала да 1949 года. Па рашэнні Міністэрства асветы БССР завочнае аддзяленне Лідскага педвучылішча было перададзена ў Гарадзенскае педвучылішча ў 1949 годзе [ф. 32, воп.1, спр. 10].

У 1951 -1952 навучальным годзе вучылішча скончылі 46 чалавек. Іх накіравалі на працу галоўным чынам у школы Радуньскага і Воранаўскага раёнаў [ф. 32, воп. 1, спр. 28]. Са 145 выпускнікоў 1954 года 72 накіраваны на настаўніцкую працу, 63 - на пасаду піянерскіх важатых, 10 чалавек накіраваны ў распараджэнне Міністэрства культуры [ф. 32, воп. 1, спр. 44].

У 1953 - 1954 навучальным годзе ў Лідскае педвучылішча былі пераведзены чатыры групы навучэнцаў і чацвёра выкладчыкаў з Ваўкавыскага педвучылішча. У наступным 1954 - 1955 навучальным годзе ў вучылішчы займалася 367 чалавек (з іх 354 камсамольцы, 74 юнакі, 293 дзяўчыны). Працуе 25 выкладчыкаў, 18 з іх з вышэйшай адукацыяй, 2 з няскончанай вышэйшай і 5 з сярэдняй адукацыяй. Гэта выкладчыкі чыстапісання, малявання і музыкі. Заняткі праводзіліся ў адну змену ў дзесяцці класных пакоях. Працавала ўжо шэсць кабінетаў: рускай мовы і літаратуры, педагогікі, гісторыі, фізіка-матэматычны, біялогіі, музычны. Вучылішча таксама мела фізкультурную залу, бібліятэку, у якой не было чытальнай залы, і невялікія пакоі, дзе размяшчаліся кабінет дырэктара, кабінет завуча, канцылярыя, настаўніцкая і памяшканне для працы камітэта камсамолу. Тым часам ужо востра адчувалася неабходнасць пашырэння плошчы навучальнага корпуса за кошт памяшканняў школы, размешчанай у гэтым жа будынку. З 1954 года пачалі скарачаць набор. У 1955 - 1956 навучальным годзе займалася 270 чалавек [ф. 32, воп. 1, спр. 42].

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР № 333 ад 21 чэрвеня 1956 года Лідскае педагагічнае вучылішча было закрыта з 15 жніўня 1956 года.

Частка навучэнцаў завяршыла адукацыю ў Наваградскім педагагічным вучылішчы [ф. 32, воп. 1].

З 1944 па 1956 год былі зроблены адзінаццаць выпускаў навучэнцаў. 710 выпускнікам прысвоена кваліфікацыя "Настаўнік пачатковых класаў". Многія з тых, хто атрымаў педагагічную падрыхтоўку ў сценах вучылішча, з'яўляюцца сапраўднымі асветнікамі, вядомымі на Лідчыне і ва ўсёй Беларусі. Гэта выпускнікі і навучэнцы вучылішча:

- Бурдун Аляксей Аляксандравіч - кандыдат педагагічных навук, выкладчык БДУ (выпуск 1953 года);
- Каваленка Віктар Антонавіч - доктар філалагічных навук, выкладчык БДУ, кіраўнік інстытута літаратуры АН БССР;
- Бартон Віталь Іванавіч - кандыдат філасофскіх навук, выкладчык БДУ (выпуск 1955 года);
- Сідар Сяргей Іванавіч - доктар педагагічных навук, аўтар падручнікаў і дапаможнікаў па геаграфіі для сярэдняй школы, выкладчык БДУ (выпуск 1955 года);
- Кудла Канстанцін Канстанцінавіч - кандыдат геаграфічных навук, выкладчык педагагічнага інстытута імя М. Танка (выпуск 1955 года);
- Урбановіч Уладзімір Аляксандравіч - настаўнік беларускай мовы і літаратуры Валеўскай СШ Наваградскага раёна, краязнавец, стваральнік народнага музея ў Валеўскай СШ, аўтар дзвюх кніг па літаратурным краязнаўстве;
- Бічэль Данута Янаўна - беларуская паэтка;
- Васько Антон Іосіфавіч - выкладчык Мазырскага педінстытута (выпуск 1953 года);
- Зайка Сцяпан Міхайлавіч - кандыдат гістарычных навук, выкладчык БДУ (выпуск 1953 года);
- Наркун Зянон Міхайлавіч - выкладчык матэматыкі Гарадзенскага педінстытута (выпуск 1956 года);
- Сяржынскі Іван Іосіфавіч - кандыдат эканамічных навук, намеснік загадчыка аддзелам НДІ эканомікі АН БССР (выпуск 1953 года);
- Захарка Міхаіл Аляксандравіч - загадчык агульнага аддзела Гарадзенскага аблвыканкама (выпуск 1955 года);
- Астрэйка Фёдар Іванавіч - намеснік старшыні Лідскага райвыканкама ў 1970-ыя гады (выпуск 1955 года);
- Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч - краязнавец, аўтар дзвюх кніг пра Лідчыну (выпуск 1945 года);
- Кулеш Анатоль Фёдаравіч - краязнавец, аўтар шматлікіх артыкулаў і кнігі пра гісторыю г. Ліды (выпуск 1949 года).

Многія выпускнікі ганараваны Ганаровым званнем "Выдатнік народнай асветы" і "Заслужаны настаўнік Беларусі". Гэта настаўнікі горада Ліды і Лідскага раёна - Петрачэнка А.Ф., Кулеш А.Ф., Вільбік І.І., Кароль Е.І., Біржакова А.П., Дзідэнка А.Ф., Сарока А.І., Дароніна Т.А., Гаранская А.Д. і іншыя.

Першыя два гады працы Лідскага педвучылішча выпускнікі атрымлівалі толькі атэстаты пра заканчэнне вучылішча з запісам пра прысваенне кваліфікацыі "Настаўнік пачатковых класаў". Пазней выдаваліся дыпломы адмысловага ўзору.

Мы ганарымся сваімі папярэднікамі, выдатнымі настаўнікамі, якія сваёй працай стварылі добрае імя нашай alma mater. Мы спадзяёмся, што здолеем працягнуць традыцыі, закладзеныя імі, і зможам прынесці карысць справе асветы.

***Дадатак 1.***

**КНІГА ВЫДАЧЫ АТЭСТАТАЎ ЛІДСКАГА ПЕДВУЧЫЛІШЧА 1945 - 1956 гг.**

| Год | Стацыянар | Завочнае аддзяленне |
|---|---|---|
| 1945 | 31 | - |
| 1946 | 70 | 40 |
| 1947 | 56 | 30 |
| 1948 | 68 | 30 |
| 1949 | 70 | 60 |
| 1950 | пераход на чатырохгадовае навучанне | |
| 1951 | 55 | |
| 1952 | 46 | |
| 1953 | 43 | |
| 1954 | 57 | |
| 1955 | 116 + 146 | |
| Разам | 758 | 160 |
| УСЯГО | 918 | |

***Дадатак 2***

**АДМІНІСТРАЦЫЯ ЛІДСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА 1944 - 1956 гг.**

| ДЫРЭКТАРЫ | ЗАВУЧЫ |
|---|---|
| 1944 - 1945 гг. Фралоў А.Т. | 1944 - 1947 гг. невядома |
| 1945 - 1948 гг. Макаранка Макар Фёдаравіч | 1947 г. Данкоў І.І. |
| 1948 - 1952 гг. Якімовіч К.В. | 1947 - 1952 гг Папала Я.В. |
| 1952 - 1956 гг. Занкевіч Уладзімір Канстанцінавіч | 1952 - 1953 гг. Буланкова Марыя Мікалаеўна |
| | 1953 - 1956 гг. Краснажон В.К. |

***Дадатак 3.***

**ВЫКЛАДЧЫКІ ЛІДСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА**

**1944 - 1956 гг.**

1. Фралоў А.Т.
2. Хатэнка М. Н.
3. Голуб Сцяпан Фокавіч (бел. мова).
4. Кардаш Д. П. - кіраўнік метадаб'яднання гуманітарных навук.
5. Старасцін А.А.
6. Левін І.І.
7. Зыкаў Сцяпан Рыгоравіч (біялогія).

**З 1947 года**

8. Чарнічэнка Емяльян Рыгоравіч (матэматыка).
9. Шапенка Любоў Якаўлеўна (музыка).
10. Яўглеўскі Л. С. (ваенрук, фізкультура).
11. Міркіна Слава Міхайлаўна (хімія, псіхалогія).
12. Патапенка Канстанцін Емяльянавіч (матэматыка).
13. Буланкова Марыя Мікалаеўна (геаграфія).
14. Гарбачоў Мікалай Свірыдавіч (педагогіка).
15. Гарбачова Анастасія Прохараўна (бел. мова з методыкай выкладання).
16. Самовіч Леанід Вікенцьевіч (гісторыя і канстытуцыя).
17. Івашын Мікалай Уладзіміравіч (гісторыя і канстытуцыя).
18. Пікулін Іліядор Савельевіч (бел. мова).
19. Папала Я. В. (геаграфія, анатомія).
20. Макаранка Макар Фёдаравіч (фізіка).
21. Бардоўскі П. Г. (чыстапісанне).
22. Сявенка П. Ю. (маляванне).
23. Сафонава Л. П. (музыка).
24. Мастовіч Аркадзь Уладзіміравіч (рус. мова).
25. Сыцко Георгій Рыгоравіч (матэматыка).
26. Колас Ганна Мікалаеўна (геаграфія).
27. Якімовіч К. В. (гісторыя).
28. Волкава В. К. (рус. мова).
29. Рамаоўская Н. (фізіка).
30. Рагуцкая В. В. (маляванне).
31. Гурынава Л. К.
32. Сіціхоўская Т. П. (сельская гаспадарка).
33. Смірноў Н. А. (ваенрук, фізкультура).
34. Баброўская Н. А. (педагогіка, кір. педпрактыкі).

**З 1948 года**

35. Шаўлюга Вольга Аляксееўна (бел. мова, рус. мова, кіраўнік метадаб'яднання філолагаў).
36. Каробка Зінаіда Антонаўна (рус. мова).
37. Гарбунова Паліна Ісакаўна (англ. мова).

**З 1949 года**

38. Савельева Лідзія Георгіеўна (фізкультура).

**З 1950 года**

39. Аляксейчык Аляксандра Аляксандраўна (бел. мова).
40. Грыбаедава Зоя Уладзіміраўна (рус. мова).
41. Касмачова Кацярына Васільеўна (гісторыя).
42. Кулькіна Лізавета Паўлаўна (педагогіка).
43. Казімірэнка С. Ф. (музыка).

**З 1951 года**

44. Шнэйдар Алена Пятроўна (бел. мова).
45. Бойка С. В. (музыка, піяніна, хор).
46. Дроб Уладзімір Зельманавіч (кіраўнік хору).
47. Башмакоў А. П. (кіраўнік струннага аркестра - домры).
48. Скварцоў Барыс Мікалаевіч (гісторыя ВКПб).

**З 1952 года**

49. Падабед Ніна Апанасаўна (бел. мова).
50. Штундар С. П. (музыка, скрыпка)
51. Хартова Л. Е. (біялогія).
52. Шарабурка Р. П. (спевы).
53. Казённава І. П. (фізіка).
54. Занкевіч Уладзімір Канстанцінавіч (матэматыка).

**З 1953 года**

55. Цабенка М. Н. (маляванне).
56. Краснажон В. К. (рус. мова).
57. Стрэльскі Т. П. (педагогіка, логіка, загадчык педпрактыкі)
58. Долін А. Д. (матэматыка).
59. Малявана Т. Н. (геаграфія).
60. Родзівонава З. А. (рус. мова).
61. Міхайленка Н. А. (рус. мова).

**З 1954 года**

62. Чэразава Г. Ф. (геаграфія).
63. Іванова Л. Е. (гісторыя).
64. Кражава З. Г. (спевы).
65. Радзечка А. Н. (рус. мова).
66. Грынцэвіч В. С. (фізкультура).
67. Багдановіч А. М. (музыка, баян).
68. Цітова В. Д. (геаграфія).
69. Трубяцкая А. М. (псіхалогія).

**СПІС СКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ:**

1. Бердяев Н. Судьба России. Опыты по психологии войны и национальности. М., 1990 г.

2. Лихачев Д.С. Заметки и наблюдения. Из записной книжки. С.- П., 2008 г.

3. Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мн., 2004 г.

4. Философский энциклопедический словарь. М., 1989 г.

5. Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Мн., 1995 г.

6. Матэрыялы Лідскага краязнаўчага музея.

7. Матэрыялы музея Лідскага педагагічнага вучылішча.

8. Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці. Фонд 834, воп. 2, адз. зах. 29, 30.

9. Дзяржаўны занальны архіў у г. Лідзе. Фонд 32, вопіс 1, справа 1, 2, 4, 8, 11, 10, 16, 21, 28, 31, 36, 41, 42, 44.

10. (https:\\realt.onliner.by).

11. (likhanovanatalia.blogspot.com.2016/12).

***Віктар Кудла,***
***выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года***

# Сачыненне на тэму: "ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ"

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Пра сямейства Кучынскіх**

Кучынскія ўпамінаюцца ў перапісе вёскі Ганчары ў канцы 17-ага і пачатку 18-ага стагоддзя. Там ёсць звесткі аб складзе сям'і, іх узросце, аб панскіх павіннасцях і аброку…

РЕВИЗСКАЯ СКАЗКА

Мужескій полъ

Итого мужескаго пола на лицо

*Рэвізская сказка за 1858 год*

Ужо ў далейшым працалюбівае сямейства-куча разраслося, разжылося. Усе прайшлі добрую навуку ў Ганчарскай школе, знайшлі сябе на розных пасадах пры рознай уладзе, жылі лагодна ў сям'і, падтрым-



*Іканастас (алтар) Кучынскіх*

лівалі сяброўскія адносіны з родзічамі, добра ладзілі і з аднавяскоўцамі…

Аб высокай маральнай пазіцыі, рэлігійнай адданасці і матэрыяльным дабрабыце можна меркаваць па цудоўным алтары ў Ганчарскай царкве змайстраваным на сродкі Кучынскіх… Ішла Першая сусветная вайна, а браты Мікалай і Лука Кучынскія за свае сродкі вырабілі з дубовага матэрыялу два арыгінальныя алтары і ўстанавілі 15 красавіка 1915 г. пры настаяцелі айцу Пятру Семянтоўскім. Яны і цяпер упрыгожваюць інтэр'ер царквы і нагадваюць аб дображыўшых…

У сваім дзённіку ўспамінаў Мікалай Мікалаевіч Кучынскі падрабязна ўдакладніў сямейны радавод да пятага калена. Яскрава апісана жыццё сялян "за польскім часам", навучанне ў Ганчарскай школе

,Лідскай гімназіі і ў Вільні. На долю Мікалая выпала цяжкая доля падчас нямецкай акупацыі, раненне на фронце, доўгае лячэнне ў лазарэтах, этапы навучання і далейшая настаўніцкая праца. Усё падрабязна і цікава чытаецца ва ўспамінах..

З дзённіка ўспамінаў **Мікалая Мікалаевіча Кучынскага:**



***Кучынскія: (самы даўні здымак) Аляксандр з жонкаю Аленай (у дзяводстве Кумпяк) з дзецьмі - Мікалаем, Валодзем і Юлькаю***

*"Свайго дзеда Аляксандра я не помню, затое бабулю Алену, што паходзіла з Кумпякоў, помню добра (якая жыла пры дзядзьку Уладысю). Я дзіцём часта бываў у яе. З ёю мы часта бывалі ў гасцях у Ціхановіча (ён прыходзіўся нейкім сваяком і жыў у Старым Млынішчы, хутары, які размяшчаўся ля Дзітвы, справа ад насыпу старога паштовага тракта, які вёў у Дакудава). Моста пры маёй памяці ўжо не было, спалены ён быў казакамі пры адступленні рускай арміі ў Першую сусветную вайну. Памерла бабуля ў пачатку 30-х гадоў (1930-1932 гг.). Наколькі я ведаю, дзяды былі сялянамі, і зямлі ў іх было палова гаспадаркі (8 дзесяцін). На другой палавіне гаспадаркі былі Юзіка Кучынскага дзеці (ці ўнукі), з якіх я помню Зосю, Канстанціна і Валодзю. Пасля раздзелу гаспадаркі паміж дзядзькам Уладысем і бацькам маім, калі ён жаніўся, нам прышліся 4 дзесяціны. Вось з гэтай сваёй зямлёй бацька перайшоў жыць у хату Лахача Мацвея. Гаварылі ў вёсцы, што ён пайшоў у прымы да Лахача. Лахач Мацвей з'явіўся ў Ганчарах яшчэ да Першай сусветнай вайны з вёскі Вусце, што ля Беліцы. Прадзеды мае былі беднымі сялянамі. Дзед Мацвей, атрымаўшы частку грошай (замест беднага ўчастка зямлі) заняўся кравецтвам. Шыў кажухі, суконную і зрэбную вопратку, вандруючы па вёсках з хаты ў хату. Тады існавалі вось такія вандроўныя краўцы. І вось у Васьковічах (што ля Гародні) дзед пазнаёміўся з будучай бабуляй Марыяй. Яна служыла ў Васькаўскага пана. Паходзіла яна з Андрушысаў, што жылі каля Коўні. У яе былі два браты. Сям'я была, мабыць, бедная. Хто з багатай сям'і ў тыя часы ішоў у ксяндзы? Вось адзін з іх стаў ксяндзом у Коўні (Каўнасе).*

*Але, вяртаючыся да тых далёкіх дзён свайго дзяцінства, успамінаю...*



***Маленькі Коля ў надзейных руках бацькоў - Мікалая Аляксандравіча і Марыі Мацвееўны (у дзявоцтве Лахач)***



**Браты Кучынскія: Мікалай і Валодзя**

*Пажаніўшыся дзед Мацвей з бабуляй Марыяй на ашчаджаныя грошы пабудавалі ў Ганчарах дом, купілі 1 гектар зямлі (гароду) і пачалі гаспадарыць. Дзед акрамя кравецкай справы яшчэ адчыніў невялікую краму - заняўся гандлем… Вялікага даходу крама, мабыць, не прыносіла, таму што пасля таго, як бацька прыйшоў у "прымы", яны ўзялі ад дзяржавы ў Дзяковічах (мы гаварылі: "За рэчкай") каля 20-ці гектараў зямлі. Глеба была нізкай якасці - пясчаная, заросшая хмызнякамі. Галоўную ж каштоўнасць складала заліўная сенажаць, што давала магчымасць гадаваць шэсць кароў і двое коней. А дастатковая колькасць гною спрыяла добра ўгнойваць бацькаву зямлю каля вёскі. А за рэчкай жа пяскі засявалі сінім лубінам, пасля заворвання якога сеялі жыта, якое давала каля 10 пудоў зерня з капы (60 снапоў). Праўда вязь была вельмі буйной: за вялікія снапы, што вязалі бабуля і мама, часта ўзнікалі дома спрэчкі…*

*Я не помню, колькі мы плацілі за арэнду грашыма, а вось частку сена адвозілі ў казну - 77-мы Лідскі полк. Арэнду закрылі дзесьці ў 1931годзе. Прышлося скараціць кароў і пакінуць аднаго каня. А каб і іх забяспечыць сенам, давялося касіць на трэцюю капу там жа ў Дзяковічах сенажаць, якая належала сялецкаму абшарніку французу Бартандэ. Што значыць "на трэцюю капу: дзве часткі высушанага сена трэба адвозіць абшарніку, а трэцюю капу - забіраць сабе.*



*І тут не абыходзілася без "камбінацый". Пры наглядчыку грузілі на воз чатыры капы, з якіх над жэрдкай (рублём) клалі пластоў два сена, каб "лепш было сядзець", везлі ў Сялец, па дарозе скідалі гэтыя пласты. Едучы назад падбіралі і, "каб было мякчэй сядзець", везлі дамоў.*

*У час возкі снапоў жыта, калі надвор'е псавалася, рабілі гэта і ноччу. У такія дні вуліца грымела дапазна.*

*У 1925 годзе паміраe мой брат Валянцін 1922 года нараджэння… Прычына: перавярнуў на сябе самавар з кіпятком.*

*У 1926 г. нараджаецца брат Вячаслаў, і ў 1929 г. - брат Павел.*

*У школу мяне паслалі з шасці гадоў (1927г.). З гадоў вучобы ў Ганчарскай школе (тут я скончыў чатыры класы) з важнейшых падзей засталася ў памяці сустрэча з прэзідэнтам Польшчы Ігнацыем Масціцкім, які рабіў падарожжа па Польшчы".*

Вось як апісваецца гэты вяж у газеце "Кур'ер Віленскі" № 220 (1565) за 26 верасня 1929 г.

*"Для арганізацыі сустрэчы ганаровага госця быў створаны адмысловы павятовы камітэт, такія ж камітэты былі створаны ва ўсіх населеных пунктах Лідчыны, якія планавалася наведаць прэзідэнту…"*

*"Раніцай 25 верасня 1929 г. прэзідэнт Польшчы Масціцкі пакінуў Навагрaдак і на аўтамабілі ў атачэнні эскадрона ўланаў 25-га палка,выехаў у бок Ліды. Па дарозе спыняўся ў гуце шкла "Нёман". Тут яго сардэчна віталі ўладальнікі фабрыкі, прадстаўнікі рабочых… Пасля агляду фабрыкі "дастойны госць …увайшоў у вагончык вузкакалейкі і паехаў да берага Нёмана". Тут яго чакалі міністр сельскагаспадарчых рэформаў Станевіч і генерал Дамброўскі. Разам яны агледзелі будоўлю маста, які будаваў 7-мы сапёрны полк. Цераз раку пераправіліся на пароме і на аўтамабілі рушылі далей."*

**Кучынскі М.М.** *"З Навагрaдка (гэта быў ваяводскі горад) картэдж машын праязджаў праз Ганчары. Мы са школай выйшлі сустракаць прэзідэнта. Картэдж аўтамабіляў затрымаўся на некалькі хвілін: да аўтамабіля, у якім ехаў прэзідэнт, паклікалі адну вучаніцу - Забела Станіславу - і ўручылі ёй кулёк цукерак. Яна, відавочна, падумала, што гэты падарунак толькі ёй, тут жа адправілася дамоў і нікому ніводнага цукерка не дала (тады мы, вясковыя дзеці, не часта сустракаліся з прысмакамі). Усім стала крыўдна".*

**"Лідскі Летапісец" № 3 (71):** "Эканамічная сітуацыя пры Рэчы Паспалітай самым згубным чынам адбівалася на становішчы вёскі. Сяляне, не знаходзячы пакупнікоў, змяншалі цэны на свае тавары. Узнікалі так званыя нажніцы цэнаў, гэта значыць, усё большы станавіўся разрыў паміж цэнамі на прамысловыя тавары і сельскагаспадарчую прадукцыю. Напрыклад, да 1935 г. у параўнанні з 1928 г. цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, у сярэднім, панізіліся на 65% - гэта значыць, каб атрымаць за свае вырабы тыя ж грошы, як у 1928 г., селянін павінен быў прадаць іх у тры разы больш у фізічным вымярэнні! А селянін не мог не прадаваць свае вырабы, бо павінен быў плаціць падаткі і купляць неабходныя яму для жыцця прамысловыя вырабы. Таму селяніну не па кішэні сталі неабходныя яму тавары - запалкі, свечкі, вопратка і да т.п. На нажніцах цэнаў нажываўся пасярэднік (гандляр), які скупляў сельскагаспадарчыя прадукты па нізкіх цэнах з наступным перапродажам іх на гарадскіх рынках".

**Кучынскі М.М.:** *"Крызіс 30-х гадоў нанёс эканоміцы, усяму сялянству вялікія страты. Калі раней прадукцыя сялян была дарагой, карова каштавала каля 400 злотых, пуд жыта і кілаграм сала - 16 злотых, пасля 1930 года карова пачала каштаваць 60-100 злотых, а пуд жыта і кілаграм сала - 2 злотыя.*

*Гэта прымусіла бацьку шукаць дадатковых заработкаў. Ён бярэ паштовае пасярэдніцтва, Дарэчы, растлумачу, што такое паштовае пасярэд-*

*ніцтва ў Ганчарах. У нашым доме знаходзіўся тэлефонны апарат, паштовая скрынка, былі ў продажу канверты, паштовыя маркі. Мы абавязаны былі некалькі разоў у тыдзень дастаўляць для абмену карэспандэнцыю на станцыю Нёман для абмену. Вельмі часта рабіла гэта маці, у большасці выпадкаў пехатой выконвала шлях у восем кіламетраў. А калі я падрос, то ў час канікул дапамагаў і я. У нашы абавязкі ўваходзіла і дастаўка пісем і газет (іх выпісваў ганчарскі святар, а таксама ўласнік маёнтка ў Масявічах - Юндзіла - былы царскі афіцэр). За гэта нам дзяржава плаціла 20 злотых у месяц.*

*Апрача гэтага бацька ўладкаваўся рахункаводам у касу Стэфчыка (крэдытная арганізацыя, якая пазычала грошы сялянам, працавала адзін раз у тыдзень, па нядзелях). Гэта забірала бацьку кожны выхадны дзень. Праўда, да вядзення кніг прыцягваў і мяне. Кіраўніком яе быў Савонь Віктар Іванавіч (з в. Баравічы) - добры прыяцель нашай сям'і. За работу ў касе бацька атрымліваў 10 злотых".*

З першага верасня 1931 года Кучынскі Коля паступіў у Лідскую гімназію. Будынак гімназіі быў новым (на выгане), складаўся з дзвюх школ - блізнятаў, меў 7 класных пакояў, і тры залы: гімнастычную, прыродазнаўства і ручной працы. Цяпер тут педагагічнае адзялення Лідскага коледжа. Да гэтага гімназія размяшчалася ў будынку па вуліцы 3-га Мая (цяпер тут ліцэй). Вучыўся ён даволі добра, хаця вучоба пасля вясковай школы давалася не лёгка. З іншаземных моваў вывучалі нямецкую (з першага класа) і лацінскую - з трэцяга. У гімназіі было 8 класаў....

З 1931 года пачалася школьная рэформа: у гімназіі цяпер станавілася чатыры класы, па-гэтаму пачалі прымаць не пасля заканчэння чатырох класаў, а пасля сямі класаў школы (школы паўшэхнай). Пасля заканчэння гімназіі ішлі 2-3 класы ліцэя, які даваў ужо пэўную спецыяльнасць.

Захавалася лігітымацыя (Пасвечанне асобы) № 12 ад 20 жніўня 1935 г. Кучынскага Мікалая, навучэнца Лідскай школы № 918 (гімназіі) па вуліцы Старая Дварцовая № 20, м.1, падпісанае дырэктарам Белакозам.


DYREKCJA GIMNAZJUM PAŃSTWOWEGO W LIDZIE

LEGITYMACJA

Nr. 12

Kuczyński Mikołaj

szkoły Nr. 918

Podpis Kuczyński

Adres Lida, ul. Stara Dworcowa №20 m1

Ważna do dnia 20 sierpnia 1935

На адваротным баку пасведчання змешчана цікавая інфармацыя для навучэнцаў - своеасаблівае кіраўніцтва для юнага краязнаўца:


KVRATORJVM OKRĘGV

SZKOLNEGO WILENSKIEGO

"**Краязнаўчыя ідэалы.**

Ты рушыш у падарожжа не толькі для таго, каб правандраваць пэўную колькасць кіламетраў, ты маеш аглядаць прыгажосць саёй зямлі, зпліжацца са сваімі братамі, дзівіцца прыгажосці сваіх помнікаў, ідзеш для таго, каб палюбіць свой край.

**Ахова культуры.**

На кожным кроку ты сустракаеш сведчанні людской працы. Не знішчай іх. Шануй працу і высілкі людскія. Слухай людзей. Яны ўсе - твае браты. Ты абавязаны мець да іх сардэчную прыязнь і шчырую павагу.

**Ахова прыроды.**

Прырода жывая. Не знішчай яе жыцця без патрэбы. Не ламі галінак, не рві кветак, не палохай птушак і звяроў.

**Школьныя падарожныя базы**
**на тэрыторыі Віленскай школьнай акругі**
**Ваяв. Віленскае.**

Браслаў - памяшканне ўсеагульнай школы - 20 ложкаў;

Дзісна - памяшканне гімназіі - 20 ложкаў;

Нарач - уласнае памяшканне - 100 ложкаў;

Трокі - уласнае памяшканне - 30 ложкаў;

Вільня - уласнае памяшканне на вул. Дамініканскай, 3 - 60 ложкаў.

**Ваяв. Наваградскае.**

Мір - памяшканне ўсеагульнай школы - 10 ложкаў;

Нясвіж - памяшканне гімназіі - 20 ложкаў;

Наваградак - памяшканне ўсеагульнай школы - 30 ложкаў;

Свіцязь - памяшканне Краязнаўчага таварыства - 20 ложкаў.

**Ваяв. Беластоцкае.**

Аўгустоў - уласнае памяшканне - 40 ложкаў;

Друскенікі - памяшканне ўсеагульнай школы - 10 ложкаў;

Гародня - памяшканне гімназіі - 20 ложкаў;

Азёры - памяшканне гімназіі - 15 ложкаў;

Сейны - уласнае памяшканне - 50 ложкаў;

Вігры - памяшканне Краязнаўчага таварыства - 20 ложкаў".

Па ўсім відаць, што легітымацыя якраз і выдавалася тым дзецям, якія мелі ўдзельнічаць у краязнаўчых падарожжах.



***Фотаздымак настаўнікаў сярод вучняў першага класа пацвярджае факт аб сумесным навучанні хлопчыкаў і дзяўчынак. Усе першакласнікі ў разнастайным небагатым убранні: дзяўчынкі ў светлых сукеначках і цёмных кафтанчыках з каўнерыкамі, валасы зачэсаны "на прабор". Хлапчукі ў кашульках і шорціках і ўсе пастрыжаны "на гола". Такое патрабаванне было на той час ва ўсіх школах для хлапчукоў, як неабходнасць у недапушчэнні вашывасці.***



***Г. Ліда. 1936 год. За святочным сталом дзеці ў атачэнні выхавацеляў***

***Кучынскі Коля:*** *"У гімназіі я здружыўся з Круповічам Вітольдам, Цыбульскім Юрам, Даўгілевічам Сігізмундам, Усціновічам Гогам, Лаўрэнцыевай Зояй, Путрамант Марыяй. Абедзве яны - праваслаўныя, і мы часта сустракаліся ў царкве. У старэйшых класах у той час вучыліся мой дзядзька Лахач Валянцін, Усціновіч Мікалай, Мацкала Станіслаў.*

*Чаму я іх запомніў? Лахач - мой дзядзька, Усціновіч Мікалай стаў бацюшкам і служыў у нашай Ганчарскай царкве. Мацкала Станіслаў стаў арганістам. З апошнімі двума мне давялося сустракацца ў пачатку 40-х гадоў.*

*Авось брат Марыі - Ежы Путрамант, нарадзіўся 14 лістапада 1910 г. у Менску, памёр у 1968 годзе. Польскі пісьменнік і журналіст, член ЦК ПАРП, адзін з арганізатараў Першай арміі Войска Польскага і Саюза польскіх пісьменнікаў, вучань Лідскай гімназіі, размешчанай па вуліцы Школьнай, цяпер Кірава у 1925-1929 гадах.* (Вучань гімназіі, але ў будынку па вул. Кірава ён не вучыўся, ён скончыў гімназію, якая размяшчалася ў іншых месцах, да пабудовы гэтага будынка. *Рэд.*) *Жыў каля Нёмана на хутары Банева за 5 вёрст ад Дакудава з 1928 да 1939 года. У яго рамане "Паўвеку" грунтоўна рассказваецца пра колішняе жыццё ў Лідзе і на Лідчыне. Ежы летам прыехаў з таварышам на канікулы. Здарыўся няшчасны выпадак. Падчас палявання нейкім чынам выпадкова яго забіў. Качка была на вадзе, Ежы выстраліў, і рыкашэтам куля патрапіла ў сябра. Пра гэта ён не напісаў. Бацька - палкоўнік польскага войска, асаднік, а сын - камуніст. Маці Путраманта - руская, але не паважала бальшавікоў Яго сястра Марыя ў 1940 годзе прыязджала ў Бенявічы і гаварыла: "Нас абавязкова вывезуць". Пра яе далейшы лёс у яго рамане "Паўвеку".*

*Што запомнілася з гімназічных гадоў у Лідзе? Нямецкую мову ў нас вяла Эльма Тодэ (па паходжанні немка). Яна з усіх сіл старалася прывіць любоў да мовы і навучыць нас. Часта арганізоўвала вечары. У памяці засталася пастаноўка "Ноч у магазіне лялек". Прадаўцы ў канцы работы закрывалі магазін. І мы, лялькі, а іх было вельмі многа, ажылі і пачалі размаўляць. Хто жаліўся, што яго (яе) купяць толькі за пару грошаў, як будуць з імі гуляць дзеці, якія крыўды іх будуць чакаць… Ролю караля выконваў Ракіцкі Яраслаў (у будучым ён стаў ксяндзом).*

*Лацінскую мову ў нас выкладала Ядвіга Мастовіч. Урокі яе таксама запомніліся на ўсё жыццё. Трэба было "зазубрываць" многа слоў. Яна задавала іх цэлымі блокамі. Каб заахвоціць да вучобы, за вывучэнне ўзнагароджвала нас невялікімі брашуркамі, у якіх на польскай мове былі змешчаны легенды і гістарычныя апавяданні Рымскай імперыі. У той час уласная кніга ці нават брашурка для мяне з-за дарагавізны былі ўцехай.*



***Г. Ліда. 21.06.1938 г. Святочны абед у спартовай зале Лідскай гімназіі. (Захавалася, і цяпер гэта спартовая зала педагагічнага адзялення Лідскага каледжа)***

*Менавіта па парадзе настаўніцы, каб развіваць памяць, мы пачалі займацца мнемонікай: хто больш і хутчэй запомніць не звязаных лагічна паміж сабой слоў.*

*У гэтыя гады ў свет выйшлі кнігі "Пракурор Аліцыя Горн", "Знахар" і "Прафесар Вільчур". Дарэчы ўсе яны былі экранізаваны.Нам дазволена было на іх схадзіць. У "Знахары" галоўную ролю выконваў вядомы артыст Юнота Стампоўскі. Пасля прагляду фільма (дарэчы гэта было паломніцтва) мала хто звярнуў увагу на прозвішча пісменніка па творах якога ставіліся гэтыя фільмы… І вось аднойчы перад урокам аднакласніца Шаптуноўская Галіна (дачка дырэктара камунальнага банка) сказала: "А ці ведаеце, хто напісаў гэтыя аповесці?" Вось тут мы і пачалі ўспамінаць: "Даленга… Даленга…". А далей? - не ўнімалася Галя. Нехта ўскрыкнуў: "Мастовіч!". "Ці не будзе ён які-небудзь сваяк нашай настаўніцы?"- загаманілі… Парашылі запытаць. Вось Галіна і задала пытанне: "Пані прафесар (так мы называлі ўсіх нашых настаўнікаў), ці не родзічам Вам даводзіцца аўтар "Знахара?" Настаўніца зарумянілася і сказала: "Гэта мой брат!" Пасля гэтага я дастаў і прачытаў "Пракурор Аліцыя Горн" (фільма я не бачыў)".*




***На сцэне - удзельніні мастацкай самадзейнасці***

Дакладна ўстаноўлена, што Тадэвуш Мастовіч нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Акунёва Віцебскай губерні і потым жыў у мястэчку Глыбокае. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, потым вучыўся ў Віленскай гімназіі, удзельнічаў у нелегальных па-



***Педагагічны жаночы калектыў гімназіі імя гетмана Караля Яна Хадкевіча. На фотаздымку можна добра разгледзець твары. Добра было б устанавіць іх прозвішчы. Несумненна сярод іх - Ядвіга Мастовіч***

трыятычных арганізацыях. Падчас вучобы ў Кіеўскім універсітэце быў членам польскай ваеннай арганізацыі. У 1919 годзе Тадэвуш добраахвотнікам пайшоў у польскую армію, дзе служыў да 1922 года, актыўна выступаў супраць рэжыму Ю. Пілсудскага, у з'едлівых гумарэсках выкрываў антыдэмакратычную дзейнасць уладаў, за што аднойчы быў схоплены на вуліцы і жорстка збіты.



***Тадэвуш Даленга-Мастовіч***

У даваенныя гады (да 1939) пісьменнік не раз бываў у Лідзе па запрашэнні кіраўніцтва і навучэнцаў дзяржаўнай гімназіі імя Караля Яна Хадкевіча і наведваў сястру Ядвігу, якая выкладала ў гімназіі латынь. Сустрэчы адбываліся ў будынку сённяшняга педагагічнага адзялення каледжа, тады - гімназіі. Сустракаўся з грамадскасцю горада, з рабочымі і службоўцамі чыгуначнага вузла станцыі Ліда ў клубе чыгуначнікаў. І не выключана, што некаторыя рысачкі з жыцця нашых гараджан знайшлі сваё адлюстраванне ў героях яго літаратурных твораў.

Пісьменнік прызнаваўся, што герояў сваіх аповесцей і раманаў ён "убачыў" у юнацтве сярод простых людзей і мясцовай шляхты.

У 1939 годзе пасля нашэсця немцаў Т. Даленга-Мастовіч паблізу румынскай граніцы арганізаваў міліцыю, якая ў адсутнасць улады забяспечвала грамадскі парадак і бяспеку жыхароў мястэчка Куты. Трагічна загінуў у верасні 1939 г. пры малавядомых акалічнасцях.

У гімназіі Ядвіга Мастовіч узначальвала маладзевую арганізацыю скаўтаў. Восенню 1939 года прымала актыўны ўдзел у дзейнасці падпольнай арганізацыі гімназіі, якая выступала супраць устанаўлення савецкай улады на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі, за што была арыштавана. Пасля выбуху германа-савецкай вайны была вызвалена. А калі на тэрыторыі СССР стваралася польская армія пад камандаваннем генерала У. Андэрса, без ваганняў уступіла ў яе шэрагі. Разам з арміяй Андэрса праз Іран, Блізкі Усход прайшла шлях ад берагоў Волгі да астравоў Вялікабрытаніі. Пасля жыла ў Польшчы, стала жонкай былога прэм'ера Польшчы (да 1939 года), генерала Феліцыяна Славой-Складкоўскага. Апошні раз наведала Ліду, як дэлегат першага з'езда палякаў Лідчыны, якія жывуць за мяжой. **Кароль Сцяпан** з вёскі Бryндзяняты нядаўна паведаміў пра лёс сваіх сваякоў: *"У 40-х гадах сем'і Шаптуноўскіх, Дудзіцкіх саслалі дзесьці ў Сібір. У 50-х гадах выехалі ў Польшчу. Там мы з імі сустракаліся, распавядалі пра цяжкія гады высылкі... Потым жылі ў Нарвегіі, Вялікабрытаніі".*

**Кучынскі Мікалай:** *"У час вучобы ў гімназіі на летніх канікулах я па рэкамендацыі начальніка пошты ў Нёмане замяшчаў на час водпуску паштальёна*



***Г. Ліда. 21.06.1938 г. Кіраўніцтва і педкалектыў Лідскай гімназіі ў дзень заканчэння курса з навучэнцамі.***

*яго пошты. Гэта дазваляла мне зарабіць 40 злотых. Гэта былі для мяне вялікія грошы: на цэлы будучы навучальны год школьная форма.*

*У мае абавязкі ўваходзіў і абмен пошты з паштовым вагонам цягніка Вільня -Львоў- Вільня. Ад нас з Нёмана абменьвалася пошта ў Бяліцы і пасярэдніцтва паштовае ў Ганчарах!*

*Штодзённа з Бяліцы пошту прывозіў падводай штатны работнік, пажылы чалавек - Качан. Дарэчы ён быў узброены пісталетам. Вось і ў мяне па рэгламенту была зброя. Падпяразаўшыся ў дзве столкі рамянём (ён разлічваўся на мажнога чалавека) з якога звісала кабура з пісталетам, мы грузілі на падводу мяшкі з пісьмамі і пасылкі. Паштовы вагон ішоў другім ад паравоза. Адчыняліся дзверы, і адбываўся абмен. Я бачыў унутранасць вагона і як працуюць работнікі - усё гэта мне імпанавала".*

**З успамінаў Кучынскага Вячаслава Мікалаевіча:** *"У іхнім доме прыбудоўку да дзедаўскага зруба зрабіў ужо бацька пасля таго, як цётка Ліза Лахач - родная сястра мамы, выйшла замуж за Міцюкевіча Івана Іванавіча* (*В.К.* -дарэчы з гэтай сям'і мой прадзед Кудла Ізыдар Андрэевіч, 1850 г.н. - памёр 4.01.1914 г., узяў у жонкі Міцюкевіч Аляксандру Андрэеўну 1848 г.н., памерла ў 1918 годзе, будучы ў бежанцах у Серпухаве). *Адбыўся падзел гаспадаркі паміж імі і дзядзькам Іванам. Пры ім засталіся дажываць дзед Мацвей і баба Марыя. Былы легіянер-інвалід Бульскі адкрыў продаж гарэлкі (канцэсію на продаж спіртных напіткаў польская дзяржава давала толькі былым легіянерам). За тое, што бацька дастаўляў іх і рэалізоўваў тавар у сваім памяшканні, Бульскі плаціў злотыя.*

*Маці трымала на сталаванні настаўніка Ганчарскай паўшэхнай школы Маліноўскага Іпаліта, гэта прыносіла таксама пэўны даход.*

*Нельга сказаць, што пры панскай Польшчы людзі паміралі з голаду, ці навалам надзявалі жабрацкія торбы. Ганчароўцы і сяляне суседніх вёсак жылі даволі бедна, але хто не ленаваўся, неяк зводзіў канцы з канцамі. Але гэты паўсядзённы мужыцкі груз паднявольнай працы ператвараў жывога чалавека ў цяглавую жывёліну. Таму што выйсця з гэтага зачараванага кола не было. Малыя надзелы зямлі не давалі магчымасці назбіраць багацця. Яны давалі толькі адзін сродак - пракарміцца сям'і і то толькі пры ўмове неймавернай працы. У першую чаргу накармі скаціну, таму што яна, пасля зямліцы, аснова гаспадаркі, назапась для яе на зіму корму, у час пасей, пажні, абмалаці, калі хочаш мець больш сена, ідзі да пана касі на трэцюю капу, калі хочаш назапасіць крыху больш хлеба, ідзі да яго жаць. І тваімі памочнікамі з'яўляюцца толькі натруджаныя рукі і змылены конь. Ураджай малацілі цапамі ноччу, таму што зімовага дня не хапала на ўсе работы. Бабы ткалі палатно да позняй*

*ночы, таму што трэба было і апранаць сям'ю. І ў цьмянай хаце, дзе гарэла лямпа, а дзе дыміла лучына, на гліняным таку мясцілася дзетвара.*

*Душыла і сацыяльная няспаравядлівасць. Калі хто хацеў уладкавацца на больш-менш сярэднюю пасаду, павінен быў перайсці ў польскую веру. Гні шапку перад кожным, хто стаіць вышэй на сацыяльнай лесвіцы: перад панам, ксяндзом, пастарунковым, настаўнікам і нават гувняжом, заробкі якога былі даволі высокія".*

Дзяржава падтрымлівала развіццё краязнаўства: *"Віленскі школьны інспектар дaручыў лідскім настаўнікам агульнаадукацыйных школ збіраць матэрыял і рыхтаваць да друку манаграфіі пра мясцовасці, дзе знаходзяцца школы"* .

***Кучынскі Мікалай:*** *"У час вучобы ў Лідзе мне давялося першы раз у жыцці пабываць з экскурсіяй у Вільні. Нязабыўнае ўражанне пакінула Вострая Брама, Свята-Духаў манастыр, касцёл Святой Ганны гатычнага стылю, касцёл святога Пятра і Паўла на Антокалі з яго арабескамі. Пры ўваходзе ў яго стаялі паабапал дзвярэй катлы (барабаны )турэцкія, узятыя каралём Сабескім у турак пасля іх разгрому пад Венай польскімі войскамі. У дзень Святога Пятра і Паўла замест звону ў званы білі ў гэтыя барабаны.*

*Запомнілася гісторыя будаўніцтва гэтага касцёла. Польскі магнат Пац, удзельнік паўстання супраць цара, пасля паражэння паўстання, уцёкшы ў лясныя гушчары і забіўшыся ў нейкую "воўчую яму", чуў паблізасці галасы царскіх салдатаў, што вылоўлівалі бунтароў. Бачачы безвыхаднасць свайго становішча, ён узмаліўся Богу: "Калі застануся жывым, у Вільні пабудую касцёл". Абяцанне сваё выканаў, упрыгожваючы будынак цудоўнымі арабескамі, тэматычна звязаннымі паміж сабой. У будаўніцтва касцёла ён уклаў усе сродкі, і на аздобу алтара грошай не хапіла, і ён не гарманізуе з іншымі ўпрыгожваннямі. Пахаваны Пац пад уваходнай плітой у касцёле. Такім чынам усе, хто ў яго уваходзіць, топчуць магілу. Тут жа на вонкавай сцяне сціплая мемарыяльная дошка на польскай мове: "Тут ляжыць Пац".*

*Запомнілася экскурсія і ў Варшаву. Бельвядэр, Музей заахвочвання мастацтваў. Незабыўнае ўражанне пакінула каласальных памераў карціна Яна Матэйкі "Грунвальдская бітва". Коні і людзі на першым плане ў натуральную вышыню. Дарэчы, у час нашэсця фашыстаў (1939 г.) трое работнікаў музея тайком вывезлі яе з Варшавы і гэтым самым захавалі яе ад захопу і, бадай, ад знішчэння фашыстамі.*

*Не помню аўтара і назвы карціны, якая ілюструе адзін з эпізодаў Г. Сенкевіча "Куды ідзеш?" Кроў, якая афарбавала зямлю з пашчы быка, шыю якога зламаў Урсус, выратоўваючы Лігію, прывязаную на спіне раз'юшанага звера, была настолькі праўдзіва свежай, што мы, юнакі, нягледзячы на папярэджанне, украдкай дакраналіся да яе. Не меншае ўражанне зрабілі на мяне карціны "Казанні Пятра Скаргі".*

*Украдкай, хіхікаючы і падморгваючы адзін аднаму, мы зіркалі на невялікую мармуровую статуэтку, якая прадстаўляла чорта, што нашэптваў нешта на вуха голай жанчыне, якая сядзела ў яго на каленях.*

*Тут жа ў час вучобы ў Лідзе я пачаў збіраць паштовыя маркі, і на гэты час маю даволі вялікую колькасць.*

*Вось так і круціліся бацькі, "як вавёрка ў коле", каб забяспечыць сябе і нам зноснае жыццё, тым больш, што я ў 1931 годзе паступіў у гімназію, гэта звязана было з вялікімі расходамі. Апрача таго бацька зацягнуў пазыку ў банку на пасаг цётцы Лізе. Пазыка была ўзята да крызісу і складала 100 доляраў (тады долар каштаваў 10 злотых), гэта значыць 1000 злотых. Сума не вельмі вялікая, але аддаваць яе прыходзілася пасля крызісу. І гэты доўг узрос у 10 разоў, таму што сума доўгу не змянілася, а сельскагаспадарчая прадукцыя патанела ў многа разоў.*

*Да ўстанаўлення хутарской сістэмы, якая была ўведзена пасля сусветнага крызісу трыццатых гадоў у 1937 годзе, сялянская зямля знаходзілася ў так званай шнуравой цераспалосіцы. Вось гэтыя 4 га бацькоўскай зямлі, як і ўсе землі сялян нашай вёскі, былі раскіданы ў некалькіх палетках. Так загон ворнай зямлі на загуменні, другі на Вузкіх, трэці на Шырокіх, чацвёрты на Селішчах, пяты ў Дубраве і г.д. У выніку падзелу зямлі паміж роднымі (братамі, выдзяленне пасагу), некаторыя загоны сталі настолькі вузкімі, што, як гаварылі сяляне, "калі сабака ляжа ўпоперак загона, то галава і хвост яго кладуцца на суседнія загоны".*

*4 га бацькоўскай зямлі, 1/2 га гароду дзедавай, што дасталася нам у выніку падзелу з цёткай Лізай, далі пасля камасацыі 6 га (ворная і сенажаць). Восенню 1937 года жыта ўжо сеялі на хутарах.*

*Апошні клас гімназіі я канчаў у Вільні. Тут я пазнаёміўся з дзядзькам Мішам Хрышчановічам, які быў паслушнікам у Духавым манастыры, рыхтуючыся стаць дзякам (многа раней там былі і скончылі падрыхтоўку на дзякоў дзядзькі Ясь і Пятрусь). Дзядзька Міша дапамог мне ўладкавацца харчавацца ў прыходзе для праваслаўных дзяцей пры манастыры. Нас такіх прыхаджалых было тры: я, Віця Голуб і Федзя Воранаў. Штомесячна за харчаванне мы плацілі па 20 злотых. Утраіх мы жылі на адной кватэры: спярша на Славянскай вуліцы, пазней на Кіеўскай. Кватэра (пакойчык) на траіх нам каштавала 20 злотых. Каб не хадзіць вячэраць у прыют, гэта была лішняя трата часу, у абед на вячэру давалі з сабой па тры пайды хлеба са шмальцам, які мы часта з'ядалі ўсухамятку, запіўшы сырой вадой.*

*Дзядзька Міша жыў у памяшканні, што злева за манастырскай брамай. Тут жыў айцец Савацій - намеснік манастыра. Тут жа знаходзілася прыёмная архірэя. Гаворачы між намі, намеснік манастыра не харчаваўся з манастырскай (кухні). Страву ён атрымліваў праз акно, якое выходзіла за манастырскую сцяну. Прыём прынесенай (паданай праз акно) стравы і вяртанне посуду ўваходзілі ў абавязкі дзядзькі Мішы. Я часта бываў у яго. Ён вельмі добра іграў на гітары і спяваў. Тут я ўпершыню пачуў серэнаду Шуберта і*

*спяваў яе разам з ім. Ён ведаў і спяваў многа іншых рамансаў. Аднойчы ён мяне звадзіў на аперэту "Роз Мары". Мабыць, з таго часу ў мяне і з'явілася любоў да класікі. Аднойчы да яго прыязджаў дзядзька Пётр, які працаваў дзякам недзе каля Маладзечна. Гэта была мая адзіная і апошняя сустрэча з ім.*

*У гэтым жа годзе (гэта 1937 ці 1938 г.) памёр архірэй Феадосій. Аднойчы я зайшоў у гэты час да дзядзькаі Мішы. Мне па сваёй патрэбе трэба было прайсці праз прыёмную архірэя. Дзядзька папярэдзіў, што магу сустрэцца з новым архірэем, айцом Мацвеем. Так яно і здарылася. Калі я ўвайшоў у прыёмную, за сталом убачыў маладога новага архірэя. Я падышоў да яго па дабраслаўленне. Ён, даўшы мне яго, зычным воклікам запытаў: "Хто, адкуль і па якой справе?" Мяне ашарашыла польская мова, якая можа ўпершыню чулася ў гэтых сценах. На польскай мове я растлумачыў прычыну майго тут з'яўлення. Дзядзька Міша, калі я яму расказаў праз сваю сустрэчу, паківаў галавой і растлумачыў, што гэта стаўленнік польскага ўрада.*

*У школе я вельмі пасябраваў з Мартысевічам Усеваладам. Ён, як і я, быў праваслаўным, таму кожную нядзелю і свята мы сустракаліся ў Духавым. Здаралася, што па дарозе ў школу я заходзіў да яго дамоў (жыў ён на Панарскай вуліцы).*

*Быў 1937 ці 1938 год, 18 сакавіка, гэта я добра помню, таму што гэта імяніны Эдварда. Сабраўшыся ў школу, вырашыў зайсці да Мартысевіча. У канцы вуліцы Кіеўскай і на Панарскай - войскі: пяхота, кавалерыя, артылерыя, танкеткі. Усевалад расказаў, што з ночы чулі грукатню на вуліцы. Прыйшоўшы ў гімназію, пачулі, што ў раёне Трок, на мяжы літоўцы застрэлілі польскага пагранічніка… Вайна?! У час першага ўрока чуем лёгкі стук у дзверы. Курэнда! У наш час розныя аб'явы (дазвол схадзіць у кіно і іншыя) паведамлялі своеасаблівым спосабам. Дырэктар пісаў паведамленне ў спецыяльна адведзеным на гэта журнале (курэндзе). Вартаўнік (возны) абходзіў усе класы, перадаючы "курэнду" паслядоўна настаўнікам, якія вялі ўрокі. Яны зачытвалі перад класам і распісваліся ў прынесеным журнале супраць указанага ў ім класа, сцвярджаючы тым часам, што прысутныя на ўроку вучні апавешчаны.*

*Загадана было: усёй гімназіяй з аркестрам і "гуфцам" (старшакласнікі, якія праходзілі вайсковую падрыхтоўку), узяўшы вінтоўкі, накіравацца ва ўнутраны двор "Празанцыйнага палаца", уваход ад Літарацкага завулка.*

*Прыйшлі мы не першымі, там былі многія школы. Адвялі і нам месца. Счакаўшы некаторы час на галерэі (кружганку), з'явіўся маршалак Польшчы Рыдз Сміглы са сваім ад'ютантам. Нейкая дэлегацыя, мабыць ад прафесуры, паднялася да яго і павіншавала з імянінамі. Маршалак павярнуўся да сабраўшыхся, падзякаваў нам, узяўшы пад казырок. Аркестры школ заігралі гімн. Акустыка двара была кепскай, адзінага дырыжора не было, музыка распаўзлася. Рыдз Сміглы, адняўшы руку ад казырка, пачаў дырыжыраваць - павёў лад і пасля сканчэння гімна адышоў.*

*Аб'яўлена было ісці на плошчу Элізы Ажэшкі, дзе адбудзецца мітынг. Натоўп рушыў. Калі мы прыйшлі, на плошчы быў натоўп народу. Выступалі прамоўцы. Мітынг быў не радыёфіцыраваны, пачуць выступоўцаў было амаль немагчыма. Можна было здагадацца, што прамоўцы заклікаюць да вайны з Літвою. У натоўпе раздаваліся крыкі: "Бі літоўцаў!" Паблізу мяне ніякія бойкі не пачаліся.*

*Пасля мітынгу ізноў накіраваліся да таго ж палаца, толькі з вонкавага боку, ад Кафедральнай плошчы. На балюстраду выйшаў Рыдз Сміглы ў атачэнні невялікай світы. Паднялася і дэлегацыя, якая пачала здаваць справаздачу з мітынгу. Натоўп скандыраваў: "Вождж, вядзі на Літву!", "Вождж, скажы хоць слова!" Маршалак не сказаў ні слова, адсалютаваў натоўпу і схаваўся ў палацы.*

*Я са сваім і сябрамі ў гэты час знаходзіўся ў пачатку Літарацкага завулка. Пад націскам натоўпу былі адціснуты да адкрытай брамы, што вяла ва ўнутраны двор. Паабапал яе і ўздоўж усяго завулка стаялі шарэнгі паліцэйскіх, у кожнага было па меншай меры па аднаму дзіцяці (пагубляліся ад мацярок). З брамы паказалася адкрытая машына з Віленскім ваяводам, за ім машына з Рыдзам Сміглым. Ён абапіраўся рукамі аб борт. Мяне чуць не падмялі пад яго машыну, і я неяк яд яе адапхнуўся. Жанчыны кінуліся цалаваць рукі маршалка. Ён адняў іх ад барта і скрыжаваў на грудзях. Крыкі: "Вождж, вядзі на Літву!" "Коўна, на імяніны маршалку!" Ваявода стрыг вусамі, сердаваў, што позняцца на цягнік, які павязе*




**Г. Ліда. 5 ліпеня 1939 года - апошнія два месяцы мірнага жыцця**

*маршалка ў Варшаву. Умяшаліся паліцыянты, натоўп крыху рассеяўся. Картэдж рушыў у бок вуліцы Велькай. Вайна з Літвой не пачалася.*

*Калі я аб гэтых падзеях расказваў зімой 1939 года нашаму афіцэру, тады камандзіру Чырвонай Арміі, што жыў у адным са мной доме ў Лідзе, ён заўважыў, што ў той час, час шуміхі Польшы супраць Літвы, яны, бальшавікі, ляжалі на савецка-польскай мяжы, чакалі загаду наступлення ў "абарону Літвы". Мабыць, польская разведка здагадалася аб планах усходніх суседзяў і па-гэтаму Рыдз Сміглы ні слова не прамовіў да мітынгоўцаў у Вільні. Пасля заканчэння гімназіі я падаў дакументы ў політэхнічны ліцэй у Варшаву. Дакументы прапалі".*

1 верасня 1939 года пачалася нямецка-польская вайна.



18 -ага верасня ў вёску Ганчары ўступілі чырвонаармейцы.



Радасна сустракалі іх сяляне, большасць якіх была малазямельнай. Многія сяляне ад Савецкай улады атрымлівалі ўчасткі памешчыцкай і асадніцкай зямлі: гэта Заенчыцы, Старое Млынішча, Дзяковічы. Зажылі больш-менш заможна, і не ўсе квапіліся ўступаць у калгас. Аднак, у 1940 годзе сельгасарцель была створана. Ад сялян забралі коней з вупражжу і вазы, плугі, бораны. Абавязковай была штодзённая праца на абагульненных палетках. У сенакосную пару вазамі мужыкі ехалі на сенажаці і дружна клалі пракосы, Жанчыны зграбалі падсохшае сена, грузілі на вазы і дастаўлялі на ферму. Налічваліся працадні, і калгаснікі верылі ў лепшае жыццё. У канцы года штосьці атрымоўвалі зерня, грэчкі… Пры хаце трымалі кароўку, авечак, курэй, гадавалі свінчо.

Трагедыяй для заможных жыхароў стала зіма 1940 года. У лютыя маразы арыштоўвалі і вывозілі цэлыя сем'і "кулакоў", "асаднікаў" і іншых ненадзейных людзей. Каля Дзітвы былі тры асадніцкія хутары: Шпарагі, Шымуля, Ціхановіча - не мінула і іх цяжкая доля высяленцаў.

Уражанні далёкіх дзён працы на пошце пад час канікулаў падштурхнулі Мікалая ўладкавацца ў Лідскі аддзел перавозкі пошты па чыгунцы. Гэта было 6 кастрычніка 1939 года. Яго прызначылі начальнікам паштовага вагона спачатку Ліда-Крулеўшчына, пазней маршрут быў падоўжаны да Семятыч, гэта над Бугам на былой у той час мяжы СССР-Германія (на акупаванай тэрыторыі Польшчы). Прыязджалі ноччу і цераз 1-1,5 гадзіны - адваротны шлях.

У красавіку 1940 года да пастановы "Аб летунах" (забарона пераходзіць з адной работы на іншую) ён перайшоў працаваць інспектарам Лідскай цэнтральнай ашчаднай касы. Шмат дзён адбіралі камандзіроўкі ў раён па размяшчэнні займаў на сяле і затым праверцы разлікаў па іх. Бывалі цэлыя тыдні, якія праводзіў у вёсках раёна. Гэта дало яму магчымасць пазнаёміцца са шмат якімі людзьмі, іх жыццём. У ашчаднай касе працавалі пераважна мясцовыя жыхары. Толькі загадчык і галоўны бухгалтар былі прысланы з Расіі. "Тутэйшыя" дазвалялі розныя вольнасці ў гутарках аб савецкіх людзях і парадках. Галоўны бухгалтар -"васточнік" аднойчы затрымаў Мікалая пасля работы і параіў папярэдзіць усіх, каб устрымліваліся ад лішніх размоў і здзекаў з "новых парадкаў". Супрацоўнікі-заходнікі засталіся яму ўдзячнымі за папярэджанне, і з таго часу трымалі языкі за зубамі, а то маглі аказацца на Салаўках.

Вячаславу было 14 гадоў, здольна вучыўся ў паўшэхнай школе, а пры "першых саветах" хутка асвоіў кірыліцу і асабліва палюбіў гісторыю, геаграфію, літаратуру. Паколькі і бацька, і старэйшы Коля мелі пазахатнюю працу, то на ім былі абавязкі весці дамашнюю гаспадарку: даглядаць жывёлу, нарыхтоўваць кармы… Адзінаццацігадовы Павел наведваў школу, дапамагаў маці ў агародных справах, пасвіў каровы.

Яшчэ "за польскім часам"- з 1936 года Мікалай Аляксандравіч наняўся мельнікам да яўрэя Экхаўзера - уласніка вадзянога млына Лупеніца на Дзітве, які потым прадаў Роўбу Антону Ігнацьевічу. Працаваў Мікалай Аляксандравіч і пры "першых саветах", калі



***Мікалай Аляксандравіч і Марыя Мацвееўна з сынамі: Вячаславам, Паўлам і Мікалаем***



***Кучынскі Мікалай Аляксандравіч каля ўваходу ў млын Лупеніцу. Нажаль, не ўдалося знайсці фотакартку з відам усяго млына. Мажліва, у некага ёсць здымак***

млын перадалі сельгасарцелі імя Леніна, дзе малолі збажыну калгаснаму статку і навакольным сялянам.

А калі прышлі немцы і растралялі яўрэйскую сямью Экхаўзера, прадоўжыў працаваць мельнікам: "выкручвацца" перад акупантамі, аддаваць намолатае і тайком забяспечваць чырвоных партызан мукой, крупамі, хлебам, салам і нават самагонкай. Не абыходзілі млын і "белапалякі", вытрасаючы пад дулам вінтоўкі да апошняга гарнца мукі. Мікалай Аляксандравіч захаваў і перадаў у Лідскі музей падшыўку распісак партызанскіх атрадаў "Іскра", імя Варашылава, "Балтыец", якія сілкаваліся з гэтага млына.

Пасля вайны Кучынскі Мікалай Аляксандравіч быў загадчыкам млына ўзбуйненага калгаса імя Булганіна. У добрым стане захоўваў механізмы вадзянога млына: мяшкі з зернем пасля вагаў грузіліся на платформу і віндай (ліфтам) падаваліся на трэці паверх. Потым зерне засыпалася ў бункеры і праз заслонку сыпалася ў жорны, а дзве чыгунныя турбіны з дубовымі зубамі круцілі вал з колам і праз доўгі пас круцілі каменныя жорны, дзе малолася зерне. На вальцах выраблялася з пшаніцы пытляваная мука, а на крупарушцы - грэцкія крупы. Магутная сіла вады круціла і пілы тартака, дзе распілоўвалі бярвенні на дошкі, бэлькі. Каб размалоць збажыну сялянам прыходзілася па некалькі тыдняў сядзець на мяшках і чакаць чаргі…

Добра памятаю, як вясной 1958 года (я быў у 9-ым класе) была вялікая паводка і нават адкрытыя шлюзы не ўмяшчалі ўвесь напор вады, і яна хлынула праз дамбу, размыла вялікую яміну. Турбіны асушыліся - млын стаў. На засыпку дамбы кінулі ўсіх калгаснікаў з падводамі і адзіны на той час грузавік. Нас, старэйшых школьнікаў з рыдлёўкамі паставілі насыпаць пясок у мяшкі, якія адвозілі ў прорву. Аўрал доўжыўся днём і ноччу трое сутак, пакуль не насыпалі дамбу і не ўтаймавалі плынь. Нам адмянілі заняткі ў школе. Дзесьці ў 60-тых гадах, калі ў калгасы прыйшла электрычнасць і зерне пачалі драбіць на так званых ДКУ-шках, млын закрылі. А праз некаторы час падпалілі, каб атрымаць страхоўку. Шкада, што такое архітэктурнае і прамысловае збудаване не захавалася.

На тэрыторыю Лідчыны нямецка-савецкая вайна прыйшла ў першы яе дзень.

Ужо раніцаю 22 чэрвеня 1941 г. фашысцкая авіяцыя бамбіла Ліду. Бамбілі перш за ўсё чыгуначную станцыю і аэрадром. На чыгуначным вакзале і каля пераезда былі разбіты два пасажырскія цягнікі з вялікай колькасцю забітых і параненых. На аэрадроме былі разбіты і спалены некалькі знішчальнікаў, пашкоджана ўзлётна-пасадачная паласа. Бомбы таксама былі скі-

нуты на абутковую фабрыку, піваварны завод. Ліда ўзмоцнена бамбілася і ў наступныя дні.

**З запісаў Кучынскага Мікалая:** *"22 чэрвеня (нядзеля) 1941 года а 4 гадз.30 мін. раніцы нас разбудзілі выбухі ў небе зенітных снарадаў. Выбеглі на вуліцу: высока ў небе ляцеў самалёт, па якім стралялі зенiткі. Вайна? Ля дома, дзе я жыў, прайшоў пасажырскі цягнік на Маладзечна. Калі ён быў ужо за межамі горада, мінуўшы мост на Лідзейцы, нямецкі самалёт спікіраваў, збамбіў састаў. Пазней да бальніцы прывезлі забітых, раненых. Забітых тут жа за будынкам пахавалі. Сярод іх былі і знаёмыя: гэта футбалісты нашай лідскай зборнай, якія ехалі на спаборніцтвы ў Маладзечна. На паслязаўтра нямецкія самалёты скінулі бомбы ў канцы Савецкай вуліцы. Разбамбілі яўрэйскую бальніцу, і ад яе пачала гарэць цэнтральная частка горада".*

**Кучынскі Мікалай успамінае:** *"Прыбегшы на работу, застаў у зборах да эвакуацыі многіх работнікаў райвыканкама і іншых устаноў. Сярод іх былі многія знаёмыя. Пагрузіўшыся на палутарку, якую вёў Даўгялевіч Сігізмунд, я, сакратар райвыканкама Гудзянкоў Грыша, камсорг абутковай фабрыкі Раманоўская Марыя і многія іншыя знаёмыя рушылі на ўсход. Усю дарогу да Ганчароў я думаў, што рабіць: эвакуявацца, ці застацца дома? На памяць прыходзілі апавяданні аднавяскоўцаў, якія ў Першую сусветную вайну не выехалі ў бежанства, аб зверствах германцаў. Рашыў ехаць… Праязджаючы праз Ганчары, ля нашага дома я ўбачыў маму і крыкнуў ёй, што эвакуююся. Так мы дабраліся да Стоўбцаў… Пакінуўшы аўтамашыну, пехатой накіраваліся на ўсход. Рухаліся прасёлачнымі, забітымі бежанцамі, дарогамі. Усюды панавала паніка. Народныя апалчэнцы, мелі даручэнне весці барацьбу з нямецкімі дэсантнікамі-шпіёнамі. У Чэрвені нашай групе скамандавалі: "Рукі ўверх", - і пагналі ў НКВД. Тут нас дапыталі. Разглядаючы мой пашпарт, запыталі, хто быў загадчыкам пашпартнага стала ў Лідзе. Я не мог назваць яго прозвішча. Ён усміхнуўся і заўважыў, што гэта мой аднафамілец, і ён яго добры сябра. Адпусцілі нас з мірам, запэўніўшы, што прызавуць у армію недзе далей. У Бярэзіно параілі рухацца далей на ўсход, запэўніўшы, што на рацэ Бярэзіне немцаў затрымаюць (па аналогіі з вайной 1914 года). У Оршы прызвалі ў армію толькі партыйцаў - забралі Гудзянкова Грышу, а нас накіравалі суседні калгас, дзе загадана было чакаць павесткі. Дзён тры мы дапамагалі ў калгасных работах і …дачакаліся … прыходу немцаў. Што рабіць? Нас - лідскіх - было тры чалавекі. Знішчыўшы дакументы, прыкінуўшыся зняволенымі, рушылі назад у кампаніі сапраўдных зняволеных.*

*Так з Раманоўскай Марыяй мы дабраліся ў Ганцавічы да Рахманоў - сваякоў Марыі. Ноччу я накіраваўся дамоў. Тут даведаўся, што немцы расстралялі Дзмітрыя і Феафіла Равяшкаў, шукалі мяне і Дзікевіча Колю* (Іпалітавіча - *В.К.*).

*Дома хавацца было небяспечна, і бацька вырашыў пераправіць мяне да сваякоў у Ліпічанскую пушчу. Тут жылі сёстры дзядзькі Антона, а мае цёткі - Анна замужам за Крупіцам Казімірам і Зофія за Пуйтам Канстанцінам. У апошніх я і стаў жыць. Я дапамагаў у гаспадарчых работах, адносіліся да мяне вельмі добра і дзядзькі, і іх дзеці Ларыса і Валодзя. Не адчувалася, што дзесьці ідзе вайна. Пражыў я тут усю зіму. Час ад часу ў Пушчу наведваўся бацька. Пачалі даходзіць чуткі, што немцы ўзялі Маскву і наогул заваявалі Савецкі Саюз. Трэба было нешта рабіць. Бацька параіўся са сваім лепшым сябрам Саванём Віктарам Іванавічам, які прапанаваў перабрацца ў Наваградак і паступіць на шасцімесячныя настаўніцкія курсы, якія арганізоўвала беларускае таварыства. Так мы і зрабілі. На курсах я пасябраваў з Валодзем Урбановічам, Пецем Гросам і Косцем Урбанам.*



*Пасля заканчэння курсаў нам далі на выбар месца працы.*

*Каб быць бліжэй да дома, але не ў Лідскім раёне, я згадзіўся працаваць у вёсцы Васілевічы, да Ганчароў было кіламетраў шэсць. Час ад часу я тайком бываў і дома. У Васілевіцкую школу, апрача дзяцей гэтай вёскі, наведвалі дзеці з Пудзіна. Вось тут я і прыжыўся.*

*У навакольных лясах за Нёманам пачалі ствараццa партызанскія атрады. Я ўступіў у атрад імя Шастакова. Афіцыйная назва - група "Слаўны". Да паспяховых аперацый трэба аднесці штурм нямецкіх гарнізонаў у Бярозаўцы і вёсцы Вераскава. Пасля менскага катла, мы штодзённа вялі баі ў Налібоцкай пушчы з адступаўшымі немцамі, паланілі некалькі тысяч. У ліпені 1944 года атрад наш быў прызваны ў Чырвоную Армію. Я трапіў у 875 стралковы полк Лёзненскай дывізіі, якая вяла баі на тэрыторыі Літвы".*

***Кучынскі Мікалай Мікалаевіч:*** *"16 жніўня 1944 года. Наперадзе гарадок Расейняй. Пасля кароценькай артпадрыхтоўкі а 11 гадзіне пачалося наступленне. З крыкамі: "Ура! За Радзіму! За Сталіна!" - кінуліся наперад. Мне давялося наступаць па схіле ў напрамку дзота, з якога вёўся кулямётны агонь. У амбразуры відна была руля кулямёта. Рукавы і полы шынелі дзюравілі кулі: апёк на левай руцэ, на левай назе і … абвісла правая рука. Неглыбокая канаўка ля палявой дарожкі. У яе я і ўпаў. Яна мяне і выратавала*

*ад немінучай смерці. Да варожага дзота было метраў 150-200. Наступленне нашай роты было спынена. Некалькі разоў спрабаваў падняцца, каб паўзці назад. Не тут тое было. Над галавой свісталі кулі з кулямёта, дзота. Так праляжаў я з гадзіну. Цішыня. Увесь рукаў напоўніўся крывёю, у вачах пачалі з'яўляцца "матылькі". Раптам паветра напоўнілася скрыжатам нашых "кацюш". Міны падалі недалёка ад мяне: адна, другая, трэцяя... Мяне нейкая сіла падкінула ўгору, пясок пасыпаўся ў вочы, левая нага амярцвела. Я пачаў у думках рухаць пальцамі нагі. Праз некаторы час па назе папаўзлі "мурашкі". Адчуў, што пальцы сапраўды рухаюцца, прыўзняў нагу з-пад пяску, зірнуў у бок дзота... Яго не стала. Пачаў выпаўзаць, затым падняўся.*





***16 жніўня 1944 года. Расейняйскі бой.***

Вось некалькі фашысцкіх фота 2-й танкавай дывізіі 3-га мехкорпуса 11-й арміі генерала Марозава. Фатаграфіі палону гэтага экіпажа апублікаваў яшчэ ў 1975 г. "Вафенарсенал", хаця ў падрабязнасці там ніхто не ўлазіў.

Гэты танк вытрымаў сур'ёзны бой на скрыжаванні дарог у раёне горада Расейняй, разам з ім за гэтае скрыжаванне біўся яшчэ адзін КВ, гэтак жа выведзены з шыхту падчас гэтага бою. Па фатаграфіях можна выказаць здагадку, што калі танкі страцілі здольнасць весці бой, іх акружыла пяхота праціўніка. Ломам яны сарвалі вечка люка механіка-кіроўцы і вынялі адтуль выжыўшых танкістаў.

Падобна на тое, што выжылі не ўсе, праз неабароненую назіральную адтуліну механіка-кіроўца ў другі танк ўляцеў снарад пакінуўшы след на верхнім краі адтуліны. Ды і перад пяхотай праціўніка гэтая незачыненая адтуліна зрабіла экіпаж танка практычна безабаронным.

*Насустрач падбеглі два санітары. Падхапілі мяне. Я страціў прытомнасць. Ачуняў ў акопе нашых мінамётчыкаў, вакол грукат, шквал агню. Санітары дапамаглі адысці яшчэ далей у тыл, пагрузілі на павозку і, не шкадуючы каня, рванулі з поля бою.*



***Кучынскі М. М.***

*Санбат. Тут агледзелі рану, забінтавалі і - далей у тыл.*

*Каўнас. Эвакашпіталь. Аперацыя. Накладка гіпсу на руку і грудзі, свабоднай заставалася левая рука. Неспакойныя ночы: налёты варожых самалётаў, адсутнасць святла (нафтавая капцілка), блохі. Ляжалі мы ў былых нямецкіх казармах. Спалі днём, ноччу блохі забіраліся пад "гіпсавую кашульку" і не давалі спаць. Тут у адну з начэй дзяжурная няня - старэнькая жанчына, карэнная жыхарка Каўнаса, бачачы, што я не сплю, прысела на край маёй нары. Разгаварыліся. Даведаўшыя, што яна карэнная жыхарка, запытаўся, ці ведала яна ксяндза Андрушаса. Здзівілася, што я назваў гэтае прозвішча. Растлумчыў, што гэта родны брат маёй бабулі па маці, усклікнула: "Як жа трапілі ў гэтую (Чырвоную) армію?" Растлумачыў. У наступнае дзяжурства прынесла мне сціплы гасцінец - маўляў, родзічы! Увесь час трымалася высокая тэмпература. Каб хутчэй выбрацца з Каўнаса (з высокай тэмпературай не эвакуявалі), дагаварыўся з медсястрой. Яна абяцала, што перад камісіяй дасць мне парашкі, якія паніжаюць тэмпературу. Сваё абяцанне выканала. Прыйшла камісія, і ў маім башмаку з'явілася кардонка з літарай "Э" (эвакуяваць). Ноччу вывезлі на чыгуначную станцыю, пагрузілі ў таварныя вагоны. Мне дасталося месца на верхняй нары ля самай сценкі вагона. У час руху цягніка загіпсаваная правая рука стукнулася аб дашчатую сценку вагона. Я адчуваў, што ўвесь гару. Ведаючы, што будзем праязджаць праз Вільню, не даязджаючы да яе, я заявіў сястры, што ў мяне, мабыць, высокая тэмпература. Тэрмометр пацвердзіў гэта. Сястра са злосцю прамармытала: "Выкінем вас у Вільні". Гэтага мне і трэба было. Я меркаваў, што з Вільні мне ўдасца трапіць у Ліду.*

*Сапраўды, знялі ў Вільні і накіравалі ў эвакуацыйнае аддзяленне на Антокаль. Хадзіў, еў нармальна, але тэмпература не ўнімалася. Накіравалі ў шпіталь на Звярынцы. Калісьці гэта былі польскія казармы пятага палка легіёнаў, афіцэр якога Казлоўскі ў свой час вёў у нас у гімназіі пачатковую вайсковую падрыхтоўку.*

*Тут знялі гіпс, ізноў зрабілі аперацыю, руку ўзялі ў шыну. І ... скончылася мая хадзьба, пачаліся несцярпімыя болі, бяссоніца. Засынаў толькі пасля*

*ўколаў морфію, але іх уводзілі нядоўга, растлумачылі, што магу стаць наркаманам. Сястра Аня з-пад дошак верхняй нары (ляжаў я на ніжняй) зрабіла з бінтоў цэлую сістэму петляў, якія давалі мне магчымасць уладкаваць руку ў розных становішчах, што дазваляла хоць на некалькі хвілін уціхаміраваць боль. Не помню, колькі часу я праляжаў. Рука ў шыне адвісла. Неабходна было накласці гіпс. Прабавалі некалькі разоў. Млеў - і зноў вяртанне у пасцель.*

*Нарэшце, наступіў дзень, калі рашылі, нягледзячы ні на што, загіпсаваць. Знялі шыну, і ... аказалася, што рука ў локці пачала зрастацца не пад прамым вуглом, а пры анкілозе (нерухомым локцевым суставе) гэта не дапушчальна. Зламалі храсток, уладкавалі прамы вугал у локцевым суставе і наклалі гіпс. Левая рука была вольнай ад яго. Я загаварыў з лечачым урачом, ці нельга мяне накіраваць у бальніцу ў Лідзе. Ён растлумачыў, што зрабіць гэтага нельга.*

*У лісце дамоў я напісаў бацькам, што знаходжуся ў тым горадзе, дзе вучыўся (канкрэтна адрас пісаць было забаронена). Бацька знайшоў мяне, абіўшы парогі ваенных начальнікаў у Вільні, якія спачатку абурыліся і на яго, і на мяне, але фраза ў лісце "знаходжуся там, дзе вучыўся "ўціхамірыла" іх, і ніякіх непрыемнасцяў нам не было.*

*На другі дзень пасля сустрэчы з бацькам - камісія. У башмаку з'явілася кардонка з літарай "Э" (эвакуяваць). Многа нас пагрузілі ў пасажырскія вагоны і накіравалі на ўсход. Каля тыдня працягваўся наш шлях. У вагоне я пакрысе вучыўся хадзіць. Марыйская АССР. Пасёлак Кожла-Сала. Эвакашпіталь 3071, 5-е аддзяленне, 6-я палата, нас шэсць чалавек. Запомніліся двое: Баранаў з Горкага і Пеця Вішнякоў з Украіны. Першы з раненнем у левае плячо, другі з раненнем у нагу. Да Баранава на Кастрычніцкія святы абяцала прыехаць з падарункамі жонка. На бяду, у яго адкрылася гангрэна, і перавялі ў інфекцыйнае аддзяленне. Мы з Пецем паківалі галовамі. Аднак, усё ўладкавалася. Цераз санітарку Усцю атрымалі запіску - запрашэнне ад Баранава. Усця прынесла нам вопратку (на двары ўжо стаяла зіма), і мы "спікіравалі" ў госці. Заседзеліся. Вярталіся ўжо ў пацёмках. У калідоры нашага аддзялення ішоў фільм. Урачы ўбачылі нас дваіх вясёлых, падвыпіўшых хлопцаў...*

*Прачнуўся і ля свайго ложка ўбачыў лечашчага ўрача Валянціну, у нагах ложка Пеці сядзела начальнік аддзялення Марыя. Знялі з нас "стружку", паабяцалі назаўтра перавесці ў інфекцыйку. Аднак усё абышлося.*

*У ране ў мяне яшчэ з лета завяліся чарвякі. Вінаваты я сам. Гной, які набраўся пад гіпсам, апякаў мне падпаху, калі я ляжаў, і кісць рукі, куды ён сцякаў, калі я прымаў вертыкальнае становішча. Вось тут, ля касці, зрабіў "акенца", каб гной сцякаў. Мухі выкарысталі гэтую лазейку і "ўзнагародзілі сваім патомствам", якое не стала даваць спакою.*

*Лістапад месяц. Знялі гіпс. 28-га - камісія. Доўгія месяцы лячэння ў ваенных шпіталях Заходняй Сібіры, і толькі праз чатыры месяцы - 4-га снежня выпісалі дакументы. 5 снежня 1944 года атрымаў на*


Справка о ранении №
В бою за Социалистическую Родину
рядовой
375 стр. полка
Тов. Кучинский Николай
сквозное пулевое ранение
Начальник госпиталя

**Даведка аб раненні**

*рукі ўсе дакументы - і ў дарогу дамоў. Сесці на цягнікі, якія ідуць з усходу на Маскву немагчыма. Трое сутак праваляліся на падлозе. Камендант параіў штурмам браць любы вагон. Мы так і зрабілі. У Маскве пасадзілі на цягнік у вагон для параненых. З Менска далей на захад пасажырскія цягнікі не хадзілі. У таварным вагоне дабраўся да Маладзечна, потым да Ліды.*

*І вось я дома. Параілі парыць руку. Аднойчы адчуў, што ў вадзе рука чуць-чуць рухаецца ў локці. З'явілася надзея, што ў будучым змагу хоць крыху рухаць у локці руку і пальцы на ёй.*



**Браты Кучынскія: Павел, Коля, Вячаслаў**

*Веця (брат) служыў у Занямонску каля Мастоў у батальёне па ўстанаўленні чыгункі на захад. Якраз устанаўлялі ўзарванае прасла чыгуначнага моста цераз раку Нёман. Рашыў з'ездзіць да яго. Чыгуначная станцыя ў Лідзе была спалена. Усе службы размяшчаліся ў драўляным бараку поруч з ёю. Чакаючы на які-небудзь таварняк, які б ішоў на захад, зайшоў у барак, у аддзел перавозкі пошты па чыгунцы. Сустрэў знаёмых, з якімі працаваў да вайны ў паштовых вагонах. Вось тут пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Вяртаючыся назад ад брата, зноў сустрэўся з ёю, дамовіліся спатыкацца…”*



***Мікалай з Канановіч Аленай Мечыславаўнай і сяброўкай на чыгуначнай каляі ў першыя дні знаёмства***



***"Бялее ветразь адзінокі" - Алена Мечыславаўна на Чорным моры***

*У нас у Ганчарах на кватэры жыў Шут Сяргей Осіпавіч, які працаваў настаўнікам ў Агародніцкай пачатковай школе. Аднойчы да яго заехалі выкладчыкі толькі што створанага Гарадзенскага педінстытута Высоцкая і Тацяна Сцяшковіч. Запрапанавалі мне пачаць працаваць настаўнікам у Агародніцкай пачатковай школе і паступіць завочна ў педінстытут. Паколькі атэстат аб заканчэнні гімназіі прапаў у Варшаве, паступіў у педінстытут на аснове пісьмовых паказанняў сведкаў. Пачаў працаваць настаўнікам у лютым 1945 года. Спачатку ў Агародніцкай пачатковай школе, затым у Ганчарскай сямігадовай, вёў тут беларускую мову”.*



***Ганчарская школа. У класным пакоі на заднім плане - фізічная карта Еўропы. Злева направа: Германовіч Вольга Кандрацьеўна, Пазняк Вера (Дроздава) Кучынскі Мікалай Мікалаевіч, Шут Зінаіда Канстанцінаўна (Дроздава) - стаяць: Святаслаў Пяткевіч, Лінскі Вадзім (Жучкі), Дзявяты Іван Іосіфавіч (Дроздава)***

15 кастрычніка 1945 года Кучынскі Мікалай Мікалаевіч жаніўся з Канановіч Аленай Мечыславаўнай. Вяселле было ў бацькоўскай хаце. Сабралася шматлікая радня з двух бакоў. Гулялі, весяліліся тры дні. Для вясковай моладзі ў суседскай хаце ўсю ноч былі танцы…

У 1947 годзе маладая сям’я



1947 года.



***У 1946 годзе, 7 сакавіка нарадзіўся Яраслаў***



***Жамойдзік Арсеній Фёдаравіч і Алена Мечыславаўна каля сцяны Зарачанскай пачатковай школы***

рашыла перайсці на свой хлеб і пераехала ў Зарачанскую пачатковую школу, дзе працаваў настаўнікам Жамойдзік Арсеній Фёдаравіч. (Дарэчы ён быў жанаты з майго бацькі Вані дваюраднай сястрой - Буйніцкай Тамарай Рыгораўнай - таксама настаўніцай. Слава Богу, мае 95 год і жыве у Сіманах у радавым гняздзе.) Тут чатыры гады матэрыяльна жылі яны параўнаўча някепска: трымалі карову, свіней, птушку.

Тут сям'я павялічылася, у 1947 годзе,13ліпеня нарадзіўся Юра, у 1952 г., 22 лютага - Гражына.



Справка

Зав. Лидским райОНО (Дробинов)

***Кучынскі Мікалай Мікалаевіч:*** *"А з вучобай маёй атрымаўся казус. Калі я перайшоў на трэці курс, у мяне запатрабавалі арыгінал дакумента аб сярэдняй адукацыі. Пасля зімовай сесіі ў 1951 годзе я пакінуў пединстытут. Нягледзячы на гэта, па загадзе РАНА перавялі ў гэтым жа годзе ў Ваверскую школу завучам. Тут я прапрацаваў*

*таксама чатыры гады. Матэрыяльныя ўмовы былі горшымі, чым у Зарачанскай. Сям'я павялічылася яшчэ на аднаго чалавека, да нас пераехала жыць з Ліды жончына маці. Начамі, зачыніўшыся ў склепе пры нафтавай лампе, рабіў фатаграфіі. Школа, дзе мы жылі, знаходзілася побач з могілкамі. Ваверская касцельная парафія была вельмі вялікая, і амаль штодзённа былі нябожчыкі. Вось іх і даводзілася фатаграфаваць. Так было гэта прынята. Былі месяцы, што на фатаграфіях "выганяў" другую зарплату.*

*Тут жа ў Ваверцы Яраслаў і Юра пайшлі ў школу. Па сваім жаданні перайшоў у Хадзюкоўскую пачатковую школу, дзе змог працаваць у дзве змены.*

*На другі ці на трэці год далі ў школу другога настаўніка, так што прыйшлося сесці на адну зарплату. Аднак жылі мы не горш, чым у Ваверцы. Пастаянны прысядзібны ўчастак быў на гароднай зямлі. Ніколі 0,25 га бульбы не садзіў, палавіну яе засявалі аднагадовымі травамі, купленая школьная салома і салома, атрыманая за вырошчванне кукурузы для калгаса, селядэра па школьным жыце, зжаты бульбянік служылі кормам для каровы. З калгаса сена не атрымлівалі, але кармоў хапала. Трымалі двое свіней, курэй, індыкаў.*



**У бацькоўскім садочку Алена Мечыславаўна з сынамі Яраславам і Юрам**



**Хадзюкі. Вясковая інтэлігенцыя на пікніку**



**На бульбяных сотках Алене Мечыславаўне дапамагае ганчарскі сусед Дзікевіч Мікалай Іпалітавіч**



**Кучынскія Мікалай і Алена з сябрамі**

*Апошні -10 клас Яраслаў канчаў у Ганчарах, жывучы ў дзядоў. Пасля заканчэння паступіў завочна ў Мазырскі педінстытут і пачаў працаваць у Цврбуцкай пачатковай школе. Гэта палепшыла матэрыяльнае становішча. Юра таксама пачаў працаваць, але затым завербаваўся на Далёкі Усход.*

*Трэба было нешта рабіць мне са сваёй адукацыяй. У 1954 годзе паступіў завочна ў Наваградскае педвучылішча. Гэта быў год, калі закрываліся завочныя аддзяленні ў педвучылішчах. З Наваградка пера-*



*вялі ў Барысаў, адтуль - у Гомель. І вось тут ў 1959 годзе закончыў. Ясна, што маючы за сваімі плячамі курс гімназіі, цяжкасцей ніякіх не адчуваў і закончыў педвучылішча з дыпломам выдатніка.*

*У 1962 годзе паступіў на завочнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта на геаграфічны факультэт.*

*1965 годзе па просьбе загадчыка РАНА Кашпара Валянціна Фёдара-*



**Дружная сямья Кучынскіх: Мікалай Аляксандравіч (1898-1960), Марыя Мацвееўна (1890-1988), сыны: Коля, Павел, Веця, іх жонкі - Алена, Дуня, унукі: Ярык , Веця**

*віча (швагра Валодзі Урбановіча, сястра яго Аляксандра (Саша), былая мая вучаніца з Васілевіцкай школы Наваградскага раёна) я згадзіўся даязджаць у Сямашкінскую васьмігадовую школу выкладаць матэматыку, а на маё месца з Цвербутаў перавялі Яраслава.*

*У 1966 годзе па ўласнай просьбе пераведзены ў Ганчарскую школу. Пераехалі з Гражынай, яна паступіла ў 8 клас, да гэтага вучылася ў Радзівоніш-*



**Вясельны здымак маладажонаў Яраслава Кучынскага і Святланы Барысевіч**



**Яраслаў і Святлана з дочкамі Віялетай і Наташай**



**Мікалай Аляксандравітч і Марыя Мацвееўна з унукамі**

*скай школе. Жылі ў бацькоў. Гэля засталася жыць у Хадзюках, тут яна яшчэ год працавала тэхнічкай.*

*У 1968 годзе закончыў універсітэт.*

*Што засталося у памяці з гадоў вучобы? Усе гады завочнай вучобы быў старастам курса. Гэта не дазволіла мне прапускаць ні адной лекцыі".*



***Ганчарская сярэдняя школа. Настаўнікі і вучні: Гаўрош Таццяна Мікалаеўна, Заека Уладзімір Якаўлевіч, настаўніца (прозвішча не ўспомнілі), Нікалаева Надзея Сяргееўна - дырэктар, Кучынскі Мікалай Мікалаевіч - завуч, Капціловіч Марыя Уладзіміраўна, (неўстаноўлены), Папковіч Васіль Канстанцінавіч***



***Травень 1975 года. Каля будынка Лідскага РК КПБ і Райвыканкама. Педагагічны актыў Лідскага раёна з кіраўніцтвам: Баранаў Г.П., Лаўнік Н., Кашпар В.Ф., Ашмяна Д.М. Педагогі: Бабуль В., Вільбік І.І., Кучынскі М.М., Вашкевіч Я.А. і іншыя.***

Кучынскі Мікалай Мікалаевіч прайшоў багаты жыццёвы шлях, аб якім так змястоўна і шчыра ў сваім дзённіку распавёў пра сябе, сваіх родзічаў, гімназістаў. Для сучасных вучняў, студэнтаў цікава параўноўваць навучанне ў тыя далёкія гады пры рознай уладзе. Яго хобі з 1939 г. - філатэлія. За гэтыя гады сабраў багатую фанатэку. Раненне на фронце, месяцы лячэння ў лазарэтах з цяжкасцю вытрымаў і пасвяціў сябе настаўніцкай працы. Баявы і працоўны шлях адзначаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны 2-ой ст., значком "Выдатнік асветы БССР", юбілейнымі медалямі. Настаўніцкую справу прадоўжылі дзеці Яраслаў і Гражына ды ўнучка Віялета.



*Кучынскі М. М.*



ГАНАРОВАЯ
грамата

**Кучынскі Мікалай Мікалаевіч** (з дзённіка): *"У заключэнне мне хочацца сказаць усім, хто гэта будзе чытаць - дзецям, унукам, праўнукам…, што такія бацькі, як мае, не часта сустракаюцца: працавітыя, чэсныя, бязмежна любілі сваіх дзяцей і ўнукаў, якія засталі іх яшчэ жывымі. Біліся, "як рыба аб лёд", каб вучыць мяне і па-чалавечы жыць, таму што "чацвяртак" зямлі (4 га) не меў магчымасці гэта зрабіць… "*



*Кучынскі М. М.*

**Кучынскі Вячаслаў Мікалаевіч** (1926 - 04.03.2005), вучыўся ў польскай школе, потым пры "першых саветах", у час акупацыі патаемна выконваў заданні кіраўніцтва партызанскага атрада "Іскра". Пасля вызвалення Беларусі прызваны ў войска на 2-гі Беларускі фронт. Узнагароджаны ордэнам і медалём. Пасля вайны закончыў інстытут.

Каля сарака гадоў аддаў Вячаслаў Мікалаевіч творчай рабоце ў лідскай газеце. Толькі не зусім зразумела, чаму прадстаўляўся Віктарам. За гэты час ён надрукаваў на старонках мясцовага выдання шмат цудоўных артыкулаў, якія даносілі чытачу ўсю рэчаіснасць развіцця нашай Лідчыны ў розныя гады.



*Кучынскі В. М.*



*Кучынскі Вячаслаў Мікалаевіч, Васько Уладзімір Гаўрылавіч*



*За круглым "сталом "- пнём супрацоўнікі лідскай газеты "Уперад" Кучынскі Вячаслаў Мікалаевіч, Васько Уладзімір Гаўрылавіч, Янушкевіч, рэдактар - Бяспалы Аркадзь Пятровіч*

*Леанід Лаўрэш*

# Ксёндз Юзаф Бародзіч і яго ўспаміны, датычныя Ліды

Ксёндз Юзаф Бародзіч нарадзіўся ў 1861 г. каля Панявежы ў Ковенскай губерні. У 1893 г. паступіў ў Віленскую духоўную семінарыю, якую скончыў у 1897 г. Служыў вікарыем у Лідзе, Новых Троках, Даўгілішках, потым адбываў адзін год у Гарадзенскім кляштары за "лідскую справу". Сваю "літаратурную дзейнасць" кс. Юзаф Бародзіч распачаў брашурай пра культ Сэрца Хрыста, напісанай і выдадзенай па-летувіску[1].

У 1900 г. знаходзіўся ў Рыме, дзе Папа Леў XIII дабраславіў яго на місіянерскую дзейнасць. Пасля служыў у Вільні, першы касцёл пабудаваў у мястэчку Жозлі, другі - у Клюшчанах. У 1905 г. быў накіраваны ў Мёры, дзе на працягу 1905-1907 гг. пабудаваў цагляны касцёл. Царскімі ўладамі ссылаўся ў Яраслаўль, Рыбінск і Аглонскі дамініканскі кляштар у Латвіі. Нават у ссылцы, у Рыбінску, ён таксама пабудаваў касцёл.

Суд у Гародні прысудзіў яго да пакарання ў Дынабургскай цвердзі. Але ксяндзу ўдалося ўцячы з цягніка, за адзін расійскі рубель мытнік прапусціў яго на тэрыторыю Аўстра-Венгрыі. Нейкі час Бародзіч вывучаў філасофію ў Кракаўскім Ягелонскім універсітэце. У Кракаве ў яго зноў абудзілася цяга да напісання кніг. Тут ім былі створаны кнігі "Пад возам і на возе" і "На Русі Галіцкай схізма не пройдзе". Людзі, якія добра ведалі кс. Бародзіча, дзівіліся таму, як гэты чалавек стаў літаратарам, бо ён ніколі не меў ніякіх схільнасцей да гэтай справы. Але здзіўленне публікі трымалася не доўга, бо хутка стала вядома, што суаўтарам яго кніжак з'яўляецца езуіт Аляксандр граф Моль (Mohl). Гэты, без сумлення, здольны чалавек, пры канцы жыцця стаў фанатычным "усепалякам" [2].

Пасля Кракава кс. Бародзіч патрапіў у Сан-Рэма. Тут служыў у касцёле святога Роха, пабудаваў заезджы двор "Палонія" і невялічкі гатычны касцёл. На касцёле замовіў намаляваць белага польскага арла. Аднак за злоўжыванні быў дэпартаваны ў Расію. Ксяндза ўратавала тое, што пачалася Першая сусветная вайна і карабель, на якім ён плыў, падарваўся на міне. Перачакаў вайну ў Канстанцінопалі. Пасля абвяшчэння польскай незалежнасці, вярнуўся ў Польшчу, але ў Сан-Рэма распачалася судовая справа аб паходжанні сродкаў на будову маёнтка "Палонія", аб прысабечванні ксяндзом сабе нерухомасці ў Сан-Рэма і нават аб кантрабандзе дыяментаў. Але справа была неяк залагоджана[3].

У 1920-30-х гг. кс. Бародзіч стаў зацятым антыбеларусам. Прычыніўся ён і да закрыцця манастыра марыянаў у Друі. Не буду пра гэта пісаць, бо гэты перыяд жыцця Бародзіча ўжо добра і падрабязна апісаў а. Аляксандр Надсан[4]. Пасля закрыцця манастыра ў Друі, беларускі ксёндз Уладзіслаў Талочка гэтак напісаў пра гэтага надзвычай энергічнага і авантурнага чалавека: "Каго можа зараз баяцца гэты мільянер, капіталіст, уладальнік палацаў і вілаў, сябар арцыбіскупа і сакратароў Каталіцкай акцыі, прыяцель ваяводаў, старастаў і паліцыі?" [5]

Я пераклаў і пракаментаваў толькі частку ўспамінаў ксяндза Бародзіча, датычных Ліды. Успаміны, напісаныя тады, калі ён яшчэ не стаў беларусафобам, і ў іх можна знайсці шмат цікавых і зараз цалкам забытых момантаў з рэлігійнага жыцця нашага горада, што робіць ніжэй надрукаваны тэкст надзвычай цікавым для ўсіх аматараў гісторыі.

### Пад возам і на возе[6]

#### *Вікарый ў Лідзе (верасень 1898 - студзень 1899)*

… атрымаў распараджэнне на перавод вікарыем у Ліду. Губернатар вырашыў, што ў Лідзе за мной будзе лепшы нагляд з боку мясцовай жандармерыі і асабліва праслаўленага палякажэрцы і ворага касцёла папа Каяловіча, які на працягу 40-ці гадовай "дзейнасці" шмат ксяндзоў саслаў у кляштары ці ў выгнанне.

[…]

Ліда з'яўляецца павятовым горадам і вузлавой станцыяй на перакрыжаванні чыгуначных ліній - Палескай і Сядлецкай[7]. Каля горада паўсюдна растуць хвойныя лясы, глеба пясчаная. У горадзе маецца старажытны, але ўбогі касцёл у раманскім стылі[8]. У мае часы яго знешні выгляд быў варты жалю, выглядаў

[1] Nowy wystep ks. Borodzicza // Preglad Wilenski. 1927, № 16. S. 4.

[2] Там жа.

[3] Там жа. S. 5.

[4] Гл: Надсан А. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924-1938). Менск, 2006. С. 34-51.

[5] P. Kantryba (Ул. Талочка). Poklosie na Marjanow w Drui // Preglad Wilenski. 1938. № 4-5. S. 5.

[6] Pod wozem i na wozie : pamiatniki Jozefa Borodzicza, czyli kilka lat pracy duszpasterskiej na Litwie, Bialej Rusi i w glebi Rosyi. Krakow, 1911. S. 15-16.; 17-23.

[7] Сядлецкая лінія (зараз Маладзечна - Ліда - Масты) пачала працаваць толькі у 1906 г. - *Л. Л.*

[8] Маецца на ўвазе Фарны касцёл, пабудаваны ў другой палове XVIII ст. у стылі барока. - *Л. Л.*



Ks. Kanonik Józef Borodzicz

касцёл сумна і занядбана, да таго ж быў ён замалы, бо не мог умясціць нават чацвёртую частку вернікаў. Лідская парафія налічвала да 18 тысяч душ[9]. Яшчэ да студзеньскага паўстання 1863 г. у Лідзе меўся багаты кляштар з прыгожым касцёлам, але ён быў замкнуты Мураўёвым[10].

Аб вяртанні кляштарнага касцёла[11] ці аб дазволе на пабудову новага лідзяне прасілі здаўна, але поп Каяловіч заўсёды ім перашкаджаў бо даводзіў губернатару, што гэта было б шкодна для праваслаўя.

На ўзгорку, недалёка ад касцёла, яшчэ стаялі руіны старога замка[12]. Але калі імі ніхто не будзе апекавацца, дзякуючы яўрэям і маскоўскаму гаспадаранню, хутка ад замка і следу не застанецца.

Мясцовы вясковы люд бедны, але яўрэі вельмі багатыя. Гандаль і прамысловасць знаходзіцца ў іх руках, і яны нават арандуюць маёнткі. Адзіны Лясковіч[13] гаспадарыць сам, чым дае добры прыклад суседзям, якія пускаюць свае маёнткі ў арэнду.

Да часоў Мураўёва ў Лідзе віравала гандлёвае жыццё, але пасля паўстання 1863 г. горад заняпаў і ўжо ніколі не вярнуўся да стану ранейшага росквіту.

У горадзе і ваколіцах урад замяніў некалькі касцёлаў на цэрквы, а людзей альбо сілай правеў у праваслаўе альбо як "упартых", неміласэрна праследаваў[14].

Кожная вёска прымусова мусіла трымаць царкоўныя школы і настаўніка-русіфікатара. У гэтых школах сістэматычна ганьбілася каталіцтва і ўсімі спосабамі людзі намаўляліся да прыняцця праваслаўя. Кожны вучань мусіў вучыць праваслаўны катэхізіс і царкоўныя абрады. Папы раздавалі дзецям праваслаўныя абразы, медальёны і ўсходнія крыжыкі, прышчапляючы нянавісць да ўсяго каталіцкага.

Самыя руплівыя мае папярэднікі спрабавалі змагацца з гэтым ціскам русіфікатараў, але поп Каяловіч разам з жандарамі і паліцыяй заўсёды пазбаўляўся ад гэтакіх ксяндзоў і высылаў іх ці на пакуту (у кляштар - *Л. Л.*), ці ў выгнанне. Знайсці віну было не цяжка. Тым больш, што згодна з загадамі Мураўёва каталіцкае духавенства ў Літве павінна было служыць ураду ў якасці прылады для русіфікацыі краю і слепа падпарадкоўвацца бюракратыі. Хто паводзіў сябе па-іншаму, таго каралі.

Казанні ў касцёле дазволена было прамаўляць толькі пробашчу, але толькі з выдадзенай урадам кніжкі Бялабрэскага. За імправізацыі падчас казанняў ксяндзу пагражала суровая кара.

* * *

Калі я прыехаў у Ліду, пробашчам, дэканам і катэхітам быў 60-ці гадовы стары - хворы і худы[15]. Не дзіва, што парафія была занядбана. Жывучы ў сталай

[9] У лідскую парафію ўваходзілі вернікі горада і значнай часткі павета. - *Л. Л.*

[10] Маецца на ўвазе касцёл і кляштар піяраў, які пасля пажару 1843 г. не дзейнічаў і пасля 1863 г. быў перададзены праваслаўным. - *Л. Л.*

[11] Відавочна, маецца на ўвазе касцёл кармеліцкага кляштара, які стаяў нядзейсны з часоў паўстання 1831 г. - *Л. Л.*

[12] Сваявольная яўрэйская дзятва выломвае мур кавалкамі і скідвае ўніз замкавага ўзгорка.

[13] Верагодна, маецца на ўвазе ўладальнік маёнтка Кір'янаўцы Станіслаў Лясковіч. - *Л. Л.*

[14] Гаворка ідзе пра прымусовае скасаванне уніі. - *Л. Л.*

[15] Сянкевіч Юзаф, ксёндз-пробашч і дэкан у Лідзе ў 1889-1905 гг. Міхал Шымялевіч пісаў: *"У выказванні сваёй прыхільнасці да трону некаторыя ксяндзы перамагалі праваслаўных папоў. Лідскі дэкан Сянкевіч у святочныя дні аздобіў касцельную браму транспарантам, на якім была намалявана манаграма цара і царыцы з надпісам "Боже, царя храни""*. Зараз перапахаваны на Слабадскіх могілках - *Л. Л.*

небяспецы з боку паліцыі і папа, ён ратаваўся ад іх незвычайнай гасціннасцю. А яны злоўжывалі гасціннасцю пробашча гэтак моцна, што пры канцы яго плябанія замяніла ім рэстаран і дом картачнай гульні[16]. Сам гаспадар сядаў за картачны столік разам са сваімі гасцямі, каб адмыслова прайграць ім грошы і такім чынам даць хабар. Таму з'яўляўся кавалерам розных ордэнаў імперыі і нават адзначаны манархам крыжам з надпісам: "Доброму пастырю за хороший пример"[17].

Горш было з вікарыямі, асабліва з тымі, якія не жадалі падпарадкоўвацца "ўставам" Мураўёва. Ксёндз-дэкан гамаваў запал маладых і даваў ім бацькоўскія парады:

- Асцярожна, - казаў.

- Мой дарагі, за табой ужо жандары сочаць, поп данёс. І, што? Кар'еру сабе сапсуеш і мне клопату наробіш!

Відавочна, адразу пасля прыезду ў Ліду, ксёндз-дэкан накіраваў мяне з візітам да спраўніка Ляўданскага[18]. Гэты чыноўнік прапанаваў мне прыняць яго пратэкцыю і прачытаў лекцыю пра лаяльнасць і правільныя думкі. Пры гэтым страшыў, што ў адваротным выпадку я буду мець цяжкія наступствы. У канцы падабрэў і ласкава прапанаваў мне быць паслухмяным, бо, пэўна, я ёсць "лепш выхаваным" ксяндзом, чым мой папярэднік, г. зн. - менш "фанатычным". Пры гэтым не забыўся нагадаць мне, што "рука руку мые", што кожны вікарый павінен плаціць яму па сто рублёў штогод за яго працу па абароне вікарыя перад губернатарам.

Пасля спраўніка прыйшла чарга папа (Каяловіча - *Л. Л.*). Гэты мне прама сказаў, што трэба падпарадкоўвацца ўладам і быць вольным ад усялякага "фанатызму":

- Тутэйшыя людзі спяць, - сказаў ён. - Няхай спяць, і не трэба іх будзіць!

Афіцэр жандармерыі прыняў мяне з вялікай пачцівасцю і засведчыў, што мне ў Лідзе будзе добра, калі я буду "ўмець жыць".

* * *

Такімі былі мае першыя крокі на гэтай пасадзе.

Прадставіўшыся ўладам, я змог пачаць працаваць з людзьмі. Слухаючы споведзі, менавіта тут першы раз пачуў *беларускую мову* (курсіў мой -*Л. Л.*), якую да гэтага часу цалкам не ведаў. Мне яна падалася дзіўна сумнай, але беларускі народ спадабаўся мне сваёй незвычайнай пачцівасцю. Ён на дзіва шчыры і ўдзячны, калі ставішся да яго з добрым сэрцам і прыхільнасцю[19].

Адразу зразумеў, што старыя і малыя цалкам не ведаюць пацераў. Пра катэхізіс, відавочна, не было нават і мовы.

Паколькі я не меў права навучаць народ з амбона, пачаў штонядзелю і на святы катэхізаваць людзей з алтара, а таксама кожны раз, калі мяне выклікалі да хворага. З цяжкасцю сабраў 600 дзяцей. Пасля двухмесячнай навукі, адбылася першая, самая вялікая да гэтага часу ў Лідзе ўрачыстасць першай св. камуніі.

* * *

У той час адбыўся інцыдэнт, які напужаў увесь горад. З касцёла знік партрэт маскоўскага князя Аляксандра Неўскага, "святога", непрызнанага Рымам, які быў размешчаны ўнутры касцёла ў часы Мураўёва (увесь сказ перакладзены гэтак, як у аўтарскім тэксце - *Л.Л.*). Пачалося следства. Нікога не знайшлі, але падазрэнне скіравалася на мяне, і жыццё маё адразу пагоршылася, нават нягледзячы на тое, што даў спраўніку "ў лапу" 19 рублёў, каб супакоіўся[20].

[16] Жырмунскі ксёндз Генрык Бальцэвіч пісаў: *"Інтэлігенцыя не працуе з народам і ўвесь свой час праводзіць за картамі. Ксёндз ёсць "пажондным" партнёрам, калі не хапае чацвёртага. Карцёжная гульня ёсць адзіным нашым інтэлектуальным высілкам у правінцыі, цэнтрам гэтага руху часта ёсць плябанія, а варштатам капланскай працы - зялёны столік. За картамі, "інтэлектуальнай" ежай служаць плёткі, "тоўстыя" нясмешныя анекдоты і ў самым лепшым выпадку палітыка, якая разумеецца на газетным узроўні"* - Цыт. па: Bolcewicz Henryk. Stosunki koscielne na Litwie: listy otwarte ksiedza do ksiezy. Monachium, 1905. S. 67. - *Л. Л.*

[17] Той жа Генрык Бальцэвіч пісаў: *"У Гародні, на такой важнай пляцоўцы, з усіх бакоў абкладзенай праваслаўем і русіфікацыяй, дэканам ёсць разбэшчаны пошукам выгады ксёндз, скончаны сібарыт, адзінай мэтай якога ёсць падабацца ўраду. Ва ўсіх павятовых гарадах нашай дыяцэзіі сядзяць дэканы альбо рашуча праўрадавыя (Ясевіч, Сайкоўскі), альбо несвядомыя прылады ў дзяржаўных руках (Сянкевіч, Карвоўскі, Шымкевіч, Дзякевіч). У іх касцёлах народ не мае нічога ні для сэрца, ні для розуму. Касцёлы брудныя, казанні ніжэй крытыкі, хораў, гэтага магутнага сродку прыцягнення народа да касцёла, няма, арганы лямантуюць аб божай помсце, касцельныя служкі жывуць у п'янстве і распусце, а ксяндзы - рэнегаты ці сібарыты - збіраюць грошы".* - Цыт. па: Bolcewicz Henryk. Stosunki koscielne na Litwie: listy otwarte ksiedza do ksiezy. S. 65. - *Л. Л.*

[18] Лідскі спраўнік Сцяпан Мацвеевіч Ляўданскі. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 3-й ступені. - Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1903 г. Вильно, 1902. ч. 3. С. 58. - *Л. Л.*

[19] Успаміны пісаліся ў той час, калі кс. Бародзіч не быў яшчэ "беларусажэрцам" і таму цалкам аб'ектыўна пісаў пра лідзян, як пра беларусаў. - *Л. Л.*

[20] У сваіх успамінах, надрукаваных у 1928 г., кс. Бародзіч піша, што менавіта ён сам асабіста спаліў абраз Аляксандра Неўскага - Гл: X. kan. J. Borodzicz. Kresy Wilenskie w niebezpieczenstwie. Wilno, 1928. S. 6.

Тады ж закончылася пераробка кляштара ў расійскі клуб[21]. На яго адкрыццё арганізавалі вечарыну з танцамі і запрасілі гасцей, між іншых і ксяндза-дэкана разам са мной. Усімі спосабамі я спрабаваў адмовіцца ад удзелу ў гэтай урачыстасці, але ксёндз-дэкан загадаў ісці разам з ім. У апошнюю хвіліну я змог уцячы ў касцёл і там схавацца. Ксяндзу-дэкану давялося ісці аднаму і глядзець на гульні расійскай моладзі ў месцы, дзе раней маліліся манахі. Маё ж становішча яшчэ больш пагоршылася.

* * *

А працы для мяне меней не стала: удзень спавядаў, а ўначы ездзіў да хворых. Хаваць нябожчыкаў дапамагалі папы … Так, менавіта папы! Нічога дзіўнага. Бо за кожнага, навернутага ў праваслаўе, урад плаціў ім па 50 рублёў! Таму яны прыкладалі ўсе намаганні, каб як мага больш перахапіць сабе, хоць бы і нябожчыкаў. Паліцыя ім у гэтай справе дапамагала. Бывала і так, што ксёндз адпраўляў на могілкі цела каталіка, а поп апрануты ў "царкоўныя рызы" з паліцыяй перахопліваў хаўтуры па дарозе і хаваў нябожчыка, як ужо праваслаўнага. Што не зробіш, каб атрымаць 50 рублёў[22]. Ксёндз саступаў, бо за супраціў паліцыі яму пагражала выгнанне ці кляштар.

Пераважна гэтак адбывалася ў вёсцы Дакудава, дзе касцёл замянілі на царкву, але "ўпартыя" ездзілі ў Ліду за 30 км[23]. Каб пазбегнуць адказнасці, людзі хавалі сваіх памёршых нават без ксяндза. Бывала, што паліцыя і наўпрост забараняла ксяндзу ехаць на пахаванне. Так, напрыклад, калі ў 1899 г. памерла спадарыня Нарбут - жонка Тэадора Нарбута і маці Людвіка, ксяндзам было забаронена прыехаць, каб высвеціць труну і магілу. Сям'я і людзі пахавалі нябожчыцу ў маёнтку Шаўры[24].

* * *

Уплыў папоў на каталіцкае насельніцтва не застаўся без згубных вынікаў: у самім горадзе давала аб сябе знаць рэлігійная абыякавасць. З-за вайсковай службы, а таксама царкоўных школ, моладзь размаўляла па-руску, а мясцовы поп часта наведваў ваколічныя вёскі, пры гэтым заходзіў у кожную хату і раздаваў "иконы" і медальёны. Такім чынам вёска і сяляне страчвалі сваю рэлігійную самасвядомасць.

Зразумела, што горшыя ўзоры паводзін духоўнай і свецкай улады знаходзілі сваіх руплівых паслядоўнікаў. У нашым народзе шырылася п'янства, распуста, людзі пачалі верыць ва ўсялякія забабоны, множылася звадніцтва, а крадзёж стаў звычайнай справай. Дайшло да таго, што большая частка парафіянаў не наведвала касцёл і не прыступала да Святых сакрамантаў[25].

Што мне было з гэтым рабіць? Як ратаваць загубленыя душы? Як дагрукацца да іх?

Самай лепшай нагодай для працы з людзьмі сталася для мяне каляда[26]. Пачаў аб'язджаць парафію і наведваць вёску за вёскай, хадзіць ад дома да дома. Трымаўся наступнага плану: прыехаўшы ў вёску першы раз (а вёскі былі вельмі вялікімі), ішоў ад хаты да хаты і на пачатку свянціў хату, а потым кожнага экзаменаваў на веданне катэхізіса. Пасля чаго аглядаў падарункі папоў і заканчваў запрашэннем сабрацца ўсім у зручным месцы. Тут, узяўшы іх усіх у свае рукі,

[21] Маецца на ўвазе кляштар кармелітаў. - *Л. Л.*

[22] Не магу не заўважыць, што гэта новыя "Мёртвыя душы" па-беларуску. - *Л. Л.*

[23] З вёскай Дакудава справа больш складаная, чым піша ксёндз Бародзіч. Зразумела, што ўніяцкая (грэка-каталіцкая) царква пасля 1839 г. стала праваслаўнай, а грэка-католікі пачалі лічыцца праваслаўнымі. Але ў Дакудаве, як у былой Радзівілаўскай маёмасці, так званых "Найбургскіх маёнтках", раней меўся пратэстанцкі збор, які недзе ў XVIII ст. быў заменены на касцёл. У 1784 г. у гэтай вёсцы ёсць уніяцкая царква і касцёл філіяльны лідскаму. У першай палове XIX ст. касцёл ужо зачынены, але ў спісах парафіян-уніятаў ад 1829 г. яшчэ запісана шмат іх сваякоў рыма-католікаў. На пачатку XX ст. Дакудава - ужо чыста праваслаўная вёска. Стымул у 50 рублёў (добрыя скураныя боты ў той час каштавалі меней за 3 рублі) усё ж працаваў. - *Л. Л.*

[24] Прачытаўшы гэта месца, я зразумеў, чаму сам Тэадор Нарбут пахаваны каля Нацкага касцёла, а яго жонка і дзеці асобна. - *Л. Л.*

[25] Прыкладна ў той жа час ксёндз Генрык Бальцэвіч з Жырмун пісаў: *"Пабожнасць нашага люду я назваў бы паганскім хрысціянствам. Рэлігійныя абрады выконваюцца досыць скрупулёзна, а ў жыцці - паганскі дух. Народ ходзіць у касцёл, спавядаецца, штодзённа адмаўляе пацеры, цалкам адбывае пасты і адначасова поўны ўзаемнае незычлівасці, цешыцца з чужога гора, не шануе чужой уласнасці, падпаламі сее нянавісць паміж суседзяў, сваркамі і праклёнамі робіць пекла ў сваёй сям'і. Наш звычайны селянін будзе засмучаны з-за страты ружанца ці з-за таго, што сплюне пасля камуніі, але без усялякага сумнення ўлезе на чужы луг, ніву, лес, абкрадзе брата, будзе за рубель ці кілішак фальшыва сведчыць у судзе, грошы, пазычаныя без сведак, не верне, будзе крыўдзіць удаву і сірот, і пры тым ніхто не абароніць слабых, бо прызвычаіўся да пакутаў бліжняга і шануе толькі сілу. Адзін селянін скраў кавалак сала, але гэта была пятніца і таму не еў гэтае сала ні ў той дзень, калі скраў, ні ў наступны і толькі ў нядзелю пачаў есці тое, што скраў. Іншага злапалі, калі пасвіў быдла на чужой ніве, ён пры гэтым меў ружанец і маліўся"*. - Цыт. па: Bolcewicz Henryk. Stosunki koscielne na Litwie: listy otwarte ksiedza do ksiezy. S. 68. - *Л. Л.*

[26] Аднак кс. Бальцэвіч адзначаў, што *""візіта парафільяная", ці так званая ў нас "каляда", ці ж не ператварылася яна ў нас у напаўненне капланскіх торбаў і кішэняў?"*- Цыт. па: Bolcewicz Henryk. Stosunki koscielne na Litwie: listy otwarte ksiedza do ksieyy. S. 79. - *Л. Л.*

прыкладаў усе сілы, каб разбудзіць іх сумленне, накіраваць да святой веры і растлумачыць, якімі шкоднымі для іх з'яўляюцца царкоўныя школы. Заўсёды рабіў націск на тое, каб прыбралі розныя праваслаўныя медальёны, іконы і замест іх сам раздаваў сялянам абразы. Патрабаваў, каб пільна хадзілі ў касцёл.

Гэтак аб'ехаў усю парафію. Але як толькі закончыў гэтую справу, на мяне ўжо гатова была скарга - чуйны поп (Каяловіч - *Л. Л.*) пра кожны мой крок даносіў губернатару. Пачаліся "справки", следства і допыты.

Мне пагражала вязніца. Каб ўратаваць мяне, біскуп раней выраку ўладаў перавёў мяне вікарыем у Трокі.

Перад выездам з Ліды, у дзень Трох Каралёў, развітаўся з гасцінным беларускім людам[27]. Весткі пра мой перавод вернікі сустракалі енкам і плачам. Усе хацелі, каб я не спяшаўся з ад'ездам. Відавочна, я не мог ім гэта абяцаць, бо справа ад мяне не залежала. Тады вернікі атачылі мяне ў плябаніі і сказалі, што нікуды мяне не адпусцяць, покуль з Вільні не вернецца лідская дэлегацыя да біскупа, якую яны выслалі, каб ратаваць мяне.

Тады ж у плябанію прыйшоў спраўнік і жартам звярнуўся да мяне з вершам:

*За Лидские пороки, едете в Троки*
*А с Трок - прямо в острог.*

Потым выдаў мне білет на вольны праезд па Менскай губерні і загадаў, каб я паціху выйшаў праз заднія дзверы плябаніі і гародамі ішоў на вакзал. На вакзале мне была выдадзена інструкцыя пра тое, што мне трэба хавацца ад парафіян і таму я паеду кружной дарогай ў напрамку Менска - на станцыю Нёман[28]. Там я дачакаюся цягніка ў бок Вільні і гэтак даеду да біскупа. У Нёмане прайшлося чакаць усю ноч. Каб я мог адпачнуць, начальнік станцыі[29] выдзеліў для мяне асобны пакой. Я лёг на канапу і хутка заснуў. Тады адбылася дзіўная рэч - мяне нешта разбудзіла, і я ўбачыў, як у пакой уваходзіць жандар, бярэ графін, які стаіць каля мяне на стале і паднімае яго ўверх. З станцыйнай платформы праз вакно ў пакой пранікала дастаткова свету, каб усё гэта было добра бачна. Я вырашыў, што жандар хоча мяне ўдарыць і закрычаў. Жандар пра маё знаходжанне тут не ведаў і таму аслупянеў ад страху, пасля чаго, разбіўшы графін, упаў на падлогу і нават званітаваў. На мой крык збегліся чыгуначнікі разам з начальнікам станцыі. Усе яны аслупянелі ад здзіўлення, калі ўбачылі на падлозе непрытомнага жандара. Потым стала вядома, што жандару пра мяне ніхто не расказаў, а ў пакой ён зайшоў, каб папіць вады.

Тым часам вернікі даведаліся, што мяне ўжо няма ў Лідзе. Не паверыўшы гэтаму, народ зноў прыйшоў у плябанію, абшукаў усе закуткі і толькі тады пераканаўся ў праўдзівасць чуткаў. Узнялася вялікае абурэнне, але рабіць нешта ўжо было позна. Разышліся па хатах.

---

[27] Цікава, але ў 1920-я, кс. Бародзіч ужо б ніколі не назваў лідскіх рыма-католікаў беларусамі. - *Л. Л.*

[28] У той час праз Ліду яшчэ не прайшла Полацк - Сядлецкая чыгунка, і ў Менск трэба было ехаць праз Баранавічы. - *Л. Л.*

[29] З 2 снежня 1895 года начальнік станцыі Нёман - Міхаіл Андрэевіч Сёмушкін, "скончыў Маскоўскую павятовую вучэльню, праваслаўнага веравызнання". Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1900 г. Вильно, 1900. ч. 1. С. 107.

***Жывая гісторыя***

# Простае шчасце людское…

*Чалавек не выбірае, калі яму з'явіцца на гэты свет. Майму суразмоўцу, Івану Антонавічу Пантусу, выпала жыць у складаны перыяд нашай гісторыі: вайна, пасляваеннае ліхалецце, савецкія часы з усімі іх "выгодамі". Але ж дзяцінства сваё ён называе шчаслівым. І тут справа, відаць, не ў часе, калі выпала нам жыць, а ў самім чалавеку, бо калі ён нацэлены на тое, каб быць шчаслівым, то ніякія дзяржаўныя пертрусы, ніякая ўлада, нават калі яна і блізка не думае пра асобнага чалавека, не здолее яго зрабіць нявшчасным.*

*Парадавала цудоўная мова Івана Антонавіча, якая лашчыла слых сваёй славутай беларускай мілагучнасцю. І яшчэ адну вартую ўвагі асаблівасць нашай размовы з Іванам Антонавічам хацелася б адзначыць: яго цікаўнасць да людзей, іх жыцця, тых драматычных, а часам і смешных здарэнняў, якія з імі адбываліся. Чалавек веруючы, выхаваны ў павазе да бацькоў, да людзей, Іван Антонавіч, як нам здалося, знайшоў сакрэт чалавечага шчасця: любіць Бога, любіць жыццё ва ўсіх яго праявах.*

**1**

Я нарадзіўся 8 студзеня 40-га года. Вёска, дзе жылі бацька і маці, называлася Малачкі. У гады вайны немцы вёску спалілі, усе дваццаць двароў. Бацькі расказвалі, што перад гэтым нейкі немец на польскай мове папярэдзіў і параіў, каб скарб закапалі ў зямлю. Бацькі паклалі ў куфар, што было з дабра - адзенне, сала, зерне на пасеў - і закапалі на дрывотні. Як вёска была спалена, прыбеглі "ратавальнікі" з лесу (партызаны) і давай штыкамі поркаць зямлю, шукаць, што схована. От якія “зашчытнікі”! Павыкопвалі ўсё і забралі. А ў бацькоў пяцёра дзяцей, што рабіць? Пайшла тады маці ў лес скардзіцца да камандзіра. Было гэта вясной 43-га года. Знайшла тое месца, дзе партызаны стаялі, і ўбачыла вартавога: "Ты куды ідзеш?" - "Да камандзіра, маю яму сакрэтныя звесткі". Яе правялі да камандзіра, маці ўсё яму расказала. Ён тады пытаецца: "Ці пазнаеш ты іх?" - "Пазнаю!" Яна і паказала тых людзей, што забіралі куфар, але нічога там ужо не было, толькі карову аддалі. Як назад ішла, вартавы бачыць, што карову вядзе, і кажа: "Каб я знаў, к… , чаго ідзеш, застрэліў бы". Добрыя людзі партызаны…

Як спалілі нашу вёску, мы пераехалі ў Межнікі. А тады нас пагналі немцы ва Уселюб. Многа народу сабралі на плошчы. Да нас падышоў адзін немец і кажа па-польску: "Дзядька, ці маеш якіх сваякоў, у каго можна было б пажыць? Я адвярнуся, а ты давай па кані, бо павязуць вас у Наваградак, а там вывезуць у Германію". Бацька па кані, па кані, і давай уцякаць у



***Іван Антонавіч Пантус, 1940 года нараджэння. З 1966 года па 2002 год працаваў на шклозаводзе "Нёман". Ветэран працы. Жыве ў г. Бярозаўка***

вёску Бенін. Там мы пражылі зіму ў цёткі. Адзін з маіх першых успамінаў такі: сказалі ўсім легчы на падлогу, і мы ляжалі, прыціснуўшыся, а кулі па хаце лятали. Муж гэтай цёткі быў пры Польшы ляснічым, а перад Саветамі ён выехаў у Польшчу, а яна тут з сынам засталася. Што там выйшла, не ведаю, але партызаны ў яе на вачах расстралялі сына. Яна ад гэтага стала трэсціся, і мая мама яе даглядала аж да самай яе смерці. Мы ў гэтай хаце жылі доўга. Вайна скончылася, ішлі салдаты з фронту, заставаліся ў нашай вёсцы, лес валілі. Нас з гэтай хаты выселілі, зрабілі нары і пасялілі там салдат. А потым, як салдаты паехалі, то мы вярнуліся назад.

Я сваю вёску любіў і пасля вайны хадзіў туды да дзядзькі і цёткі. Дзядзька Паўлюк і цётка Варка былі мне вельмі радыя, бо жылі адзінока. Адзіны іх сын пайшоў на вайну і без вестак прапаў. Дзядзька быў надта жартаўлівы. Як яшчэ сын яго Коля быў малы, ён да яго прыгаворваў: "Колечка, сынок, купі шкла кусок, мы для нашай Вары зробім акуляры". А гэтага

Колі і фатакартачкі не засталося. Хатка іх была маленечкая, але чысценькая, акуратненькая, кругом ручнікі, фіраначкі, печ пасярэдзіне. На печы спалі, а насупраць яе ложак стаяў. Над ложкам вісела жэрдка, на якую вешалі адзенне, бо шафаў тады не было. Хату асвячалі лучынаю.

У 1949 годзе стаў калгас, адзін на дзве вёскі - Крамушок і Межнікі. Называўся ён "Прамень рэвалюцыі". "Прэдсядацелем" быў Караль Пяткевіч. "Інцярэсны" быў чалавек, умеў са сваімі людзьмі абыходзіцца. Бальшавікоў ён не любіў. Бацька мой ў калгас не пайшоў, уладкаваўся грыбаварам на сушыльню. Цяпер гэта сушыльны завод у Наваградку, дваццаць адзін кіламетр ад Межнікаў. Прывозілі яму бочкі, катлы, прыправы, і ён варыў нарыхтоўкі з таго, што прымаў ад людзей: з грыбоў, бульбы, ягад. Бацька быў граматны, бывала, напіша, ніводнай памылкі не дапусціць. Умеў пісаць і па-польску, і па-руску. Бацька быў праваслаўны, а маці каталічка родам з Дзетамлі, з Жураўскіх. Яна расказвала пра сваё дзяцінства, як жылі яны на хутары, купілі яго ў нейкай бабы. А там былі "чудзяса"! Пакідалі яе ў хаце печы паліць, есці наварыць, памыць што, а браты яе і сёстры ішлі ў поле. Адзін раз засталася яна і чуе, што па століі нехта грукае, як мяшок з жалезам, а потым нешта ў сені звалілася і рассыпалася. Яна думала, можа, суседзі палохаюць, узяла брусок, з якога лучыны шчапалі, думала, пакажу ім зараз. Выйшла ў сенцы - нікога няма. Вечарам расказвае сваім, а яны не вераць. Селі вячэраць, есці галушкі. Дзядька матчын, Павел, чуе, як нехта нешта гаворыць: "Лезу, лезу, хачу есці." А ён кажа: "Еш, еш, дамо галушак". Леглі спаць, уранку бачаць: яма ў падлозе ў пяску ўтварылася. Яны яе неяк засыпалі і да ксянза, каб той хату пасвенціў. Пасвенцілі, леглі спаць, а перад гэтым загналі ўсю скаціну і кабылу сівую, збрую на цвікі павесілі. Уночы бацька на двор да ветру выйшаў, бачыць - сівая кабыла па аўсе ходзіць! Ён пабудзіў жончынага брата Паўла і кажа: "Слухай, ты кабылу ставіў, мусіць, не зачыніў?" Той узяў аброць і пайшоў кабылу лавіць, а яна то каля яго, то, ногі не перастаўляючы, метраў за 10 ад яго. Тут ён зразумеў, што гэта яго нячысцік водзіць. Вярнуўся дзядзька ў хлеў, а кабыла на месцы стаіць. Хату гэтую потым прадалі, і як разбіралі людзі, каб перавезці, то знайшлі на гарышчы чэрап, закручаны ў ручнік. Казалі, што баба, якой хата належала, як мужык яе памёр, адрэзала яму галаву, у ручнік укруціла і закапала ў пілавінах. Во такі цуд, а праўда ці не, не ведаю.

Яшчэ мне маці расказвала, як бавілі час на вечарынках. Гульні былі такія: "У рэменя". Ставілі табарэтку, а той, хто водзіць, бярэ рэмень, стукае каго і ўцякае да лавы. У фанты гулялі, судзілі - што гэтаму фанту зрабіць? Напрыклад, мост збудаваць. Што трэба для моста? Бервяно. Той, хто водзіць, выбірае дзяўчыну, якая яму падабаецца, яна становіцца каля яго, а ён тады кажа: "Трэба дошка для моста"… Ну і так шарэнга стаіць, мост гатовы, трэба ехаць, тады цалуюцца. Яшчэ гулялі ў тэлефон. Адзін бярэ саломінку ў зубы, а другі з другога канца. Хлопцы адшчыпваюць патроху, апошняму ўжо зусім малая саломінка застаецца. Іголку знайсці: той, чый фант, казырок сажай вымажа і ідзе іголку шукаць, то кожнага выкачае ў сажы - смяюцца ўсе, рагочуць. "Зоркі палічыць". Трэба руку падняць, каб зоркі палічыць, а хто возьме ды вады ў рукаў увалье, зноў смяюцца ўсе. Во так і бавіліся цэлы вечар. Танцы былі не такія, як цяпер, бугі-вугі. Вальс, полька, абэрачак, падыспань. Цэлая хата набіралася людзей. Малых па мерцы прапускалі. Хлопец якую палку возьме і мерае дзетвару. Хто ніжэй палкі - не пускае.

У мужчын свае забаўкі. Збяруцца на млыне і давай пра ўсё спрачацца на самагонку. І сілаю мераліся - хто зможа мяшок поўны на гарышча ў зубах занесці? У нашай вёсцы адкормлівалі калгасных бычкоў. Іх трэба было кастрыраваць. Быў такі ветэрынар Аляшкевіч, то па трыццаць бычкоў у дзень кастрыраваў. Мужчыны памагалі, а тады ўвечары збяруцца, балююць. Гатавалі стравы з таго, што здабылі ад бычкоў пасля аперацыі.

Маці наша ў хаце ўпраўлялася адна. Пякла сем булак хлеба на тыдзень, ляжалі яны ў каморы на падвешанай бэльцы, каб мышы не далезлі. Помню дзежку з дубовых і ліпавых дошак, а да боку яе рошчына прылеплена, каб новы хлеб расчыніць. У пост бульбу варылі ў мундзірах і палівалі льняным алеем. А бралі яго ў аднаго дзядзькі па прозвішчы Кандратовіч, які меў маслагонку і гэтае семя ціснуў. Жмых давалі на корм жывёле. А само семя смажылі. Саладуху рабілі: жыта зальюць, соладам заквасяць, яно тыдзень закісае, тады падсалодзіш і п'еш. А шынку маці падсушыць на печы, дык яна аж зялёным пераліваецца, як адрэжаш. Пірагі пяклі ў церлах, у тых, у якіх на Каляды мак церлі. За тыдзень да свята маці ўсім ісподняе чыстае падрыхтуе, зложыць, каб на суботу ўсе адзеліся. Прас быў толькі для крамнага, самаробнае качалкаю прасавалі. Маці шыла ўсім адзенне з лёну, а перад гэтым сама яго прала і ткала. Былі ў яе і кросны, і варштат. У кроснах - дзве ніці, а на варштаце - ужо многа. Кожную нітачку па ўзоры выкладала, як на паперы было намалявана. У складаных узорах па восем панажоў было. Было ў яе і матавіла, і прасніца, калаўрот, юрок (палачка з вострымі канцамі, пасярэдзіне дзірачка). Маці і верхняе адзенне шыла сама: порткі, кажухі, ватоўкі на ваце ці на кудзелі.

Жывёлы было шмат, у вёсцы тры радоўкі былі на пашу кароў выганяць. І казла свайго пасвілі разам. У нашага настаўніка Клімава (у першы клас да яго хадзіў) карова была бязрогая. Такая ж шкодная была, як і сам настаўнік. Як толькі адвернешся, дык яна галопам у калгаснае поле. Адну яе толькі і ганялі.

У Межніках жыла жанчына з дзецьмі. Казалі, што муж яе быў палкоўнікам войска польскага. Яна прывезла з сабою вялікую бібліятэку польскіх і рускіх кніг. Дык я, карову пасвячы, польскую мову і вывучыў. Возьмеш у яе кніжку і чытаеш на пашы з асалодай. Дзяцінсва маё было шчаслівае. Людзі тады многа збіраліся, песні спявалі. Сусед наш Кароль адпраўляў маёву. У яго на ліпе абраз Маці Божай Вострабрамскай быў. То да яго цэлая вёска збіралася, а ён браў Біблію, чытаў уголас, а потым песні спявалі - да рання.

Самагонку гналі спакойна, прама ў садзе. Мы яшчэ дзецьмі былі, то налівалі яе ў чарнільніцу для прыколу. Як пішаш самаробным пёрам, расплываецца ўсё па паперы. Потым ужо за самагонку пачалі караць. Да бацькі майго прыехалі, відаць, нехта падказаў. А ён якраз з вядром самагонкі ў сенцы ўвайшоў, куды было яго дзець? Ён узяў ды павесіў гэтае вядро замест таго, з якога ваду пілі. Пачалі шукаць. Адзін паняты захацеў папіць, зачэрпнуў з вядра кубачкам, выпіў, усё зразумеў, але прамаўчаў. Потым яшчэ разоў пару хадзіў піць.

**2**

У школу я хадзіў у вёску Бердаўка Навагрудскага раёна. Дырэктарам нашай школы быў Ёрш. Сядзелі мы ў панскім доме. Помню, прыйшоў ён і давай аб'яўляць, што Сталін памёр, а слёзы цякуць… А я сабе думаю, што ж ты плачаш, добра, што ён здох. Сядзець на ўроках нам не хацелася. А недалёка ад нас была сушылка, туды складалі шышкі, што ў лесе сабралі, і сушылі. Уцячэм, бывала, з сябрам з урокаў і сядзім сабе ў цяпле. Бо там былі такія ўрокі, што і хадзіць на іх не хацелася. Настаўніка гісторыі Шэшку папытаем пра вайну, а ён і давай тады цэлы ўрок расказваць і хто што вывучыў (хатняе заданне) не пытаецца. Сам ён з вайны прыйшоў з медалямі. А вось другога настаўніка матэматыкі любілі, сядзелі на ўроку з аткрытым ротам, слухалі, як казку якую. Звалі яго Ламан Аляксандр Васільевіч. З дзецьмі ўмеў абыходзіца. Не заносіўся, а на перапынках з намі ў валейбол гуляў, ды так добра - не абвядзеш яго.

Як мне было гадоў сямнаццаць, у нас у Лешчанцы салдаты сталі і прыходзілі да нас на вячоркі. Дзевак нашых пазабіралі, але не замуж, а так. Усякіх там "праісшэствій" было. Адзін салдат замужнюю бабу (яна самагонку прадавала) хацеў згвалціць. Яна адбівалася, то ён ёй ногі нажом парэзаў, а потым схаваўся ў другім канцы вёскі і ў шыльніку, што людзі на падсцілку карове сабралі, начаваў. А бацька гэтай жанчыны меў зброю, бо леснікам быў, то хадзіў па вёсцы і казаў, што застрэліў бы яго, каб знайшоў. Жанчыну гэтую павезлі ва Уселюб, швы налажылі. Салдата гэтага потым судзілі прама ў вёсцы, паказальны суд быў, трыбунал.

Прапаганды тады хапала, шпіёнаў нейкіх амерыканскіх усё лавілі. І да нас энкавэдысты прыязджалі. У Лешчанцы будавалі базу ракетную, то там таксама нейкіх шпіёнаў лавілі. Да нас у вёску з Наваградка прыязджала "кінаперадзвіжка". Помню, плацілі 15 альбо 20 капеек. Але дзяцей не надта пускалі, то мы праз вокны глядзелі, а калі кіншчык адвернецца, то і ў хату ўскочым. Фільмы круцілі "Чапаева", "Волга-Волга" і іншыя. Уся вёска збіралася.

У войска пайшоў, камсамольцам не быў. А потым усё-ткі ўламалі. Як дэмабілізаваўся, сказалі, каб стаў на ўлік, а я не стаў, забыўся. А потым ужо пачалі гаварыць, каб у партыю ўступаў. Запісаўся, бо думаю, задалбаюць. А жонка не ўступіла, абышлося. Як разваліўся Саюз, напісаў заяву, што не згодны з лініяй партыі. Што тут пачалося! Забегалі, пачалі гаварыць, што мяне задушаць. Выклікалі на паседжанне парткама, а я не пайшоў, без мяне выключылі. А праз якія паўгода партыя тая сама развалілася. Быў у нас такі чалавек - Віктар Пятровіч Сучкоў, дык ён так верыў у гэтую партыю, сапраўдны камуніст. А тут сустрэў яго нядаўна, пачаў ён мне гаварыць, што не ведаў пра гэтых парцейцаў, якое ліха яны вытваралі. Дык вось ён у 2003 годзе на старасці гадоў з жонкай абвянчаўся, а да таго ў Бога не верыў. А што той кодэкс "страіцеля камунізму"? Яны ж яго з дзесяці запаведзяў перапісалі, а замест Хрыста свайго Леніна паставілі.

Мы сваіх дзяцей то пахрысцілі. У Бярозаўцы ў пачатку 90-х ксёндз Анджэй Стапыра дабіўся, каб касцёл, спалены ў 50-я, зноў пабудавалі на тым самым месцы, і сам на будоўлі працаваў, з усімі цэглу цягаў. Так ён добра людзям памагаў: у Польшчу на лячэнне, каму трэба, адпраўляў і на вучобу. Памагала яму сястра Барбара, манашка. Яна і да людзей хадзіла, памагала, маёй жонцы масаж рабіла. І суседку нашу вылечыла, Дзерваедаву жонку. А мне ён ровар падарыў. А першыя ровары былі рыжскія, камеры і пакрышкі не зношваліся. Помню, што яшчэ былі ў нас камеры ад амерыканскіх машын, чырвоныя, імі валёнкі падклейвалі без клею: нагрэў, прылажыў і па снезе ходзіш хоць бы што, не мокнуць. А рэжаш нажом тую гуму - аж скрыпіць.

**3**

Што ні чалавек - то свая гісторыя. Наш сусед быў на фінскай вайне і пяшком прыйшоў адтуль дадому, гаварыў, што па самалётах дарогу знайшоў. Дваіх з нашай стараны забралі на фінскую вайну - Жадзеўскага Вацлава і Дмухоўскага Эдмонта. Вось гэты Дмухоўскі і расказваў, што надта зарадаваўся, як убачыў, што Жадзеўскага кухарам паставілі. "Я яму кажу: Вацак, дай мне лішні палонік, дык ён мне гэтым палонікам чуць па галаве не заехаў". Пасля вайны вазілі лес сплаўляць у Морына, такія вялікія машыны газагенератарныя. Бярвенняў наложаць па восем кубоў і даўжынёю таксама метраў па восем. Вацак Жадзеўскі рабіў леснікам, ну і запыніў адну машыну. Шафёр гэтай машыны таксама быў на фінскай вайне і пазнаў яго, пайшоў у кабіну, узяў рукаятку і давай яго малаціць. Каб не адцягнулі, то, мо, і забіў бы, такі быў злы на яго. А ў Генюшах каля Бердаўкі быў такі чалавек, што ў Слонім бягом бегаў. У яго пытаюцца: "Куды бяжыш?" - "У Слонім". - "А чаго?" - "Каб нагу натрондзіць і ў армію не папасці". Ён быў добры паляўнічы, але любіў прыўкрасіць свае паляўнічыя дасягненні. Казаў, што ваверцы ў вока трапляў, а калі яна падала з дрэва, то забіла зайца, што ляжаў пад дрэвам. А такі казачнік і жартаўнік, усяго мог напрыдумаць: "Мне дроў не трэба, у двары таполя расце, корань пусціла прама ў печку, толькі палі".

Быў у нас "прэдсядацель" сельсавета Гнілякевіч, байструк, - невысокі,тоўсты. А ўрэдны быў! І выпіць любіў. Прыедзе на падводзе ў вёску, яго ўжо частуюць добра. Наесца ён, нап'ецца і падстаўляе

столачак, каб на сяннік залезці. Праспіцца, а ўвечары вязі яго ўжо ў Налібакі, бо ён там жыў. А ўдзячнасці да людзей то ніякай не меў.

Смешных здарэнняў было шмат. У Крамушаўцы жыў адзін дзядзька, Міхась Круповіч, быў у яго сын Янак. Як яны гналі самагонку, па кладцы бражнік вазілі на санках у кусты. Ён бацьку і кажа: "Можа, не паедзем?" - "А чаго?" - "Дык кладка ненадзейная". А сам яшчэ раней узяў нажоўку і падпілаваў бярвенне. Кладка зламалася, і бацька зваліўся ў ваду. І з бабы сваёй пасмяяўся. Тая карову даіла ў хляве, а ён залез наверх, рассунуў дошкі і цвіком карове тыц у сьпіну. Баба кажа, мусі, ураклі карову. Насыпала вуголля ў гаршчок і давай карову абносіць, каб сурокі выбраць, а ён зноў карове ў спіну - тыц. Тая нагою па гаршчку, ён пабіўся, вуголле рассыпалася, і салома загарэлася, ледзве патушылі. Такі быў малы лядачы, што за яго ўсім даставалася. Кабыла ў іх была шарачковая. Ехалі яны з бацькам на возе, той дастаў кісет, хацеў закурыць. Ён бачыць, што бацька не трымаецца, то лейцамі кабыле па нагах (яна вельмі баялася гэтага). Бацька ўпаў і моцна пабіўся. Але ж як і вырас, то не паразумнеў. Пайшоў ён з жонкай сена красці. Кажа ёй: "Ты ляж, я табе дзяружку прывяжу". Як яна легла, ён дзяружку з сенам прывязаў і як крыкне: "Лёня, прэдсядацель!" Яна як рване! А сама дзіця чакала, то назаўтра і нарадзіла.

Я многіх людзей добра памятаю, нават і з дзяцінства. Быў у нас такі Бранюсь, добра на скрыпцы іграў, хадзіў па васэлях. Ішоў адзін раз з васэля добра п'яны, а тут каля яго брычка спынілася. Нейкія людзі кажуць яму: "Садзіся, нам трэба зайграць добра". Паехаў ён з імі, іграў, а яны добра з ім разлічыліся: золата далі, на мяккую падушку спаць палажылі. Прачнуўся ён на ранку - ляжыць на конскім гноі, відаць, чэрці заманулі. Другі дзядзька тожа на скрыпцы граў. Запомнілася мне, як ён рассказваў пра сваю службу ў польскім войску. Служыў ён у кавалерыі, ці то ўлан быў, ці то драгун. Добра вучылі іх на конях ездзіць. Конь скача па манежы, і трэба ўскочыць на яго, схапіўшы за загрывак. Як адзене той мундзір з аксельбантамі і багнет (кінжал) на баку - вачэй не адвесці. Яшчэ ён расказваў пра важнае правіла для ўлана: калі багнет дастаў, то трэба яго ў дзела ўжыць, а калі не - то і не даставай. Запомніўся мне і другі Бронюсь, Жураўскі. Пра яго хадзіла байка. Пераступіў ён п'яны ў калодеж, зваліўся і крычыць: "Падайце карабель, бо тоне журавель".

Былі ў нас і людзі, якія ішлі проціў уласці. Адзін гаспадар, звалі яго Кароль Дмухоўскі, адмовіўся ўступіць у калгас. Дык у яго забралі ўсю зямлю, абрэзалі аж па самы падворак. Але ён усяроўна не маўчаў, гаварыў, што гэтым вашыўцам канец будзе. Ён калінікалі любіў выпіць. Стане каля плота і запрашае выпіць. Калі яму не было з кім выпіць, дык ён браў люстра, ставіў насупраць сябе і сам з сабою выпіваў: "Будзь здаровы, Караль".

Памяняліся цяпер нашыя мясціны. І назвы іншыя: Крываногава стала Сасноўкай, рэчка Сціхава цяпер Крамушоўка. Некалі хутары пазносілі, думалі, што будзе болей зямлі. А цяпер і гэтую, што ёсць, пакідалі. Некалі столькі рыбы было ў рэчках - стронгі, сліжы, курмяжкі, без кручка лавілі, кошыкамі. Вада ў Сціхаве была сцюдзёная, крынічная. Мы запруду рабілі ў адным месцы, каб глыбей было, і купаліся там. Дзяцей шмат збіралася. А цяпер усё зарасло. Рэчачка тая ледзь цячэ. Вёскі стаяць пустыя. Зараз у Межніках жывуць толькі шэсць чалавек. З аднаго канца жыве жанчына Галіна Палёха, затым - Люцік Круповіч з жонкаю Ядзяю. Яшчэ у адной хаце жыве Ліда Малочка, у другой - Доня Пятрова, і на другім канцы вёскі - Сашка Прусак. У Крамушоўцы толькі тры жыхары.

Вёска хутка ўся зарасце кустамі. На палях нічога не сеюць і не садзяць. Сенажаці не косяцца. А там калісьці раслі сотні траваў чырвонакніжных. Вельмі шкада, такія прыгожыя былі краявіды!

Ці адродзіцца калі мая вёсачка? Ды і навакольныя таксама. Хіба толькі, як Беларусь стане ўжо па-сапраўднаму вольнай!

***Гутарыў і запісаў Сяргей Чарняк.***

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску на “Паліграфкамбінаце імя Я. Коласа”, у выдавецтве “Бяловагруп” выйшаў фотаальбом “Беларусь замкавая”,  544 ст., наклад 3000 ас.**







**У Менску выдавец А. М. Янушкевіч выдаў кнігу Ірыны Данеўскай “Багуслаў Радзівіл. Генерал караля” , 582 ст., наклад 1000 ас.**

**У Лідзе выйшлі матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі (г.п. Радунь, 11 снежня 2004 г.) “З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны”, 300 ст., наклад 7000 ас.**







**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі 12 і 13 тамы “Збору твораў” Уладзіміра Караткевіча, т. 12 - 782 ст., наклад 2000 ас., т. 13 - 494 ст., наклад 2000 ас.**

**У Менску ў выдавецтве “Беларускі дом друку” выйшлі атласы па гісторыі Беларусі для розных класаў сярэдніх школ на беларускай мове, 20-28 ст. Наклад кожнага 5000 ас.**





**Тыстам Рэйні** (зять К. Кандратовіча). ***Сяляне кладуць стог у в. Падгародна*** *(суч. Пагародна, Воранаўскі р-н)*